# КРАСАВІК



## НАС ПАРТЫЯ ВЯДЗЕ

Сучаснікі мае,
Сябры ў жыцці і працы,
З кім дружбу, хлеб і соль
Дзялілі ўсе гады,
З кім да крутых вяршынь
Мы здолелі падняцца,—
Зірніце, дзень які
Сягоння малады!

Паснулі дрэў рады
У срэбранай адзежы,

Ляціць крыштальны пух
З заінеўшых галін,
З усходу вецер дзьме
Такі празрысты й свежы —
Цудоўнае надвор'е
Сёння на зямлі!

Ашаламіўшы свет
У зорачным суквецці
Стварэннем рук людскіх,
Планета чэрціць шлях!
І здзіўлена глядзіць
З надзеяй чалавецтва
На вежы і муры
Зубчастага Крамля.

Усё, што ўчора нам
Здавалася нязвычным,
Рэальнасцю жывой
З лятункаў паўстае.
Якое шчасце знаць,
Што ў век камуністычны
Мы робім новы крок,
Сучаснікі мае!

Усё, чым мы жывём,
Усё, чым мы багаты —
Лясы заводскіх труб,
Палёў зялёны шум,—
Нам партыя дала,
Рабочым і аратым,
Яна ўдыхнула ў нас
Гарачую душу!

Нам партыя дала
Жывы і смелы розум,

І дум высокі ўзлёт,
І веліч ясных мэт,
І зброю, каб суняць
Варожую пагрозу,
І сілу, каб за мір
Змагаўся мірны свет!

Нам партыя дала
Для будучыні крылы,
Вачам — арліны зрок,
Рукам — размах работ,
Вялікую любоў
У сэрцы пасяліла
К Радзіме, што навек
З'яднала ўвесь народ!

Нас партыя вядзе
Удаль, дзе пунсавее
Світанне камунізма
Сонечным святлом...
Таму свой светлы лёс,
І ясныя надзеі,
І шчасце на зямлі
Мы партыяй завём!

*1959*

# СВЯТЛО КАСТРЫЧНІКА

З тых даўніх дзён, калі
У Мінск наш старажытны
«Аўроры» залп з Нявы
Вятрамі данясло,—
Над сном лясных цішынь,
Над морам шыры жытняй
Гарыць, гарыць заўжды
Кастрычніка святло!

Яно свяціла нам,
Калі ў агні і дыме
Сачылася крывёй
Пакутніца зямля,
Упэўненасць надзей
Запальвала на ўздыме
І асвятляла шлях
Рубінамі Крамля.

За годам год ідзе
Самкнутым шчыльным строем,
Змянілі зброю мы
На молат і кайло.
У засені прысад
Спяць вечным сном героі,
Каб нам свяціла ў твар
Кастрычніка святло.

Зноў, восень, па зямлі
Ідзі красуняй-павай —

Па плошчах гарадоў,
Па сёлах і дварах.
Дзень добры, Беларусь,
Народная дзяржава,
Зямля руплівых рук,
Радзіма слаўных спраў!

І вось нясуць адказ
На крылах часу вёрсты,
На пераклічцы дзён
Грыміць магутны строй.
Гавораць: Нафтабуд,
Шахцёры Салігорска,
Працаўнікі палёў
Рэспублікі маёй.

У пераклічцы той
Я чую гром металу,—
То Трактарны падаў
Магутны голас свой,
То Жодзіна грыміць
Жалезам самазвалаў,
То працы мірнай рытм
Грукоча над зямлёй.

На ўсім, што творым мы,—
Пячаць нязломнай волі,
Рабочых нашых рук
І подыху цяпло,
І водбліскам жывым,
Нягаснучым ніколі,
Нам асвятляе шлях
Кастрычніка святло.

Люд працы ўсёй зямлі
З затоеным дыханнем

Глядзіць, як дружна мы
Будуем шчасця дом,
Іх сэрцы саграе
Надзея на світанне,
І вочы іх гарацъ
Кастрычніка святлом.

Мы ў будучыню йдзём
Дарогай найяснейшай,
Дзе камунізма даль
Бліжэй нам з кожным днём,
І будзе вечна жыць
Імя таго, хто першым
Нам сэрцы запаліў
Кастрычніка святлом!

*1959*

# МЕЛОДЫЯ ВЯСНЫ

Шуміць вясна
па сініх пералесках,
Збягае снег
слязою ў раўчукі,
Глядзяць вачмі блакітнымі
пралескі
На белы свет,
жывы і трапяткі.
Шматлікіх рэчак
буйнае разводдзе
Па ўсёй краіне
радасна гудзе.
Ён устае
ў празрыстай прахалодзе,
Вясны і міру,
працы й дружбы
дзень.
Нібы мастак,
на палатно абшараў
Кладзе вясна
зялёныя мазкі,
У прадчуванні
летняга цяжару
Набраклі сонцам
голых дрэў саскі.
Бароны гладзяць
ворыва маршчыны,
Клубіцца пара
ад пластоў зямных...

Ва ўсім,
ва ўсім:
і ў клёкаце арліным,
І ў шэпце
закаханае дзяўчыны,
І ў бесталачным
галасе грачыным,—
Гучыць,
грыміць
мелодыя вясны!
Яе нясе на крыллях
ветрык спрытны,
Яна —
ў таемным шолаху ўначы,
Яна гучыць
у працы мерным рытме
Будаўнікоў,
ратаяў
і ткачых.
Яна вядзе
з вясёлым ракатаннем
На ладныя
калгасныя двары
Ва ўласнасць рук
гаспадароў старанных
Рабочых рук
шматсільныя дары.
Яна плыты зганяе
па Бярозе,
Па Прыпяці,
па Сожы,
па Дняпры,
Яна вядзе
па сонечнай дарозе
Да летніх дзён
гарачае пары.

Яна вядзе
на вуліцы і плошчы,
Дзе светлы горад
высіцца ўгару,
Дзе майскі дзень
палотнішчы палошча
Пад гук мядзяны
басавітых труб.
Хай дзесьці
точаць зубы
нелюдзімы
На мірны свет
пагрозаю вайны.
Дарма!
Над светлай галавой Радзімы
Гучыць,
грыміць
мелодыя вясны!

*1959*

## КРАСАВІК

Красавік —
Гэта першыя краскі вясны,
Некранутая сінь
Танканогай пралескі,
Рокат рэк гаваркіх,
Буйства сокаў зямных.
Вечна юнага часу
Ўрачыстая песня.

Красавік —
Абуджэнне салодкіх трывог,
Прадчуванне грымот,
Навальніц і маланак,
Шум крыві,
Неспакой,
Прага дальніх дарог,
Перадышкі кароткай
Прыветны паўстанак.

Красавік —
Птахі міру і дружбы,
Галубы ў небе крыллем шасцяць,
Надзей і сумлення.
Красавік —
Гэта час аднаўлення жыцця,
Гэта месяц,
Калі нарадзіўся
Ленін.

Можа быць, вось такім
Скрозь туману дымок
Уставаў красавік
Над драўляным Сімбірскам,
Запаліўшы над будучыняю
Аганёк,
Лёс Расіі гайдаючы
Разам з калыскай.

Можа быць, і не знала
Красуня рака,
Пяючы калыханку
На захадзе веку,
Што адсюль
Узнясецца над светам рука,
Каб злучыць у адну
Чалавечыя рэкі.

Красавік...
Вее ў твар
Цёплы вецер вясны.
Мы ідзём па зямлі,
Людзі новага часу.
І заўсёды між нас —
Бессмяротны Ільіч,
Поплеч з намі ідзе
Бессмяротны Ільіч,
Сэрцы нам саграе
Бессмяротны Ільіч
На шляху да вышынь
Чалавечага шчасця!

*1960*

## ДАРАГІЯ РЫСЫ

Дзеямі і справамі сваімі
Абганяем мы вялікі час.
Будуць вечна жыць між нас жывымі
Дарагія рысы Ільіча!

Светлаю любоўю да Радзімы,
Сілай непахіснай у плячах
Услаўляем вобраз мы любімы —
Дарагія рысы Ільіча!

Нашымі рукамі будзе зменен
Твар зямны у наш грымотны век,
Бо заўсёды неўміручы Ленін
Разам з намі творыць і жыве!

Чалавек наш горды і шчаслівы,
Будучыня свеціцца ў вачах,
Бо нясе ў сабе ён беражліва
Дарагія рысы Ільіча!

*1960*

# СТАНСЫ АБ ЛЕНІНЕ

* * *

Калі гляджу на роднае аблічча,
Разцом паўторанае тысячы разоў,—
Здаецца, ён жывы, ён побач, блізка,
На бранявік вось толькі узышоў;

Вось-вось — і выбух слоў над светам хмурым,
Падобны грому, хмары разарве,
І грозны час рабочай дыктатуры
З «Інтэрнацыяналам» ажыве;

І хартыяй навечнае свабоды
Раптоўна захістаецца зямля,
І вочы ўсіх прыгнечаных народаў
Скіруюцца з надзеяй да Крамля!

* * *

Калі гляджу на роднае аблічча,
Узнятую руку, прыжмур вачэй,—
Здаецца, ён жывы, ён побач, блізка,
Ён нас зусім не пакідаў яшчэ.

У нашых справах, гучных і кіпучых,—
Яго рука, яго жывы удзел.
Ён з намі браў гадоў ваенных кручы,
Ён з намі быў у шчасці і ў бядзе.

І чым далей ад нас гады адходзяць,
Тым ён бліжэй да нас штодзень, штогод,

Тым ён глыбей жыве ў душы народа,
Тым вышай веліч простая яго!

* * *

Калі гляджу на роднае аблічча,
На востры зрок з-пад стомленых павек,—
Вось-вось з граніту сыдзе просты, блізкі
І самы чалавечны Чалавек!

І слоў яго гарачае дыханне
Высокай мудрасцю душу кране,
І век нябачаных у свеце пачынанняў
Да подзвігаў вялікіх разбіне.

У дзень яго зямнога нараджэння
Да сэрца зноў прыслухайся свайго,
Каб дзеямі, жыццём сваім, сумленнем
Хоць кроплю быць падобным да яго!

*1960*

# РАЗЬБЯРКА

*Работніцам завода «Нёман»*

Пра цябе не чуў я песень звонкіх,
Сціплая дзяўчына з Наднямоння,
Хіба толькі стромкія сасёнкі
Прашумяць імя тваё спрасоння...

Як яны гамоняць патаемна,
Быццам бы на мове чалавечай!..
Я падслухаў голас іх прыемны
У падарожны час аднойчы ўвечар...

За сасновым гаем дым і трубы,
Непрасторна ў тых заводскіх цэхах.
Ты ідзеш на змену. Гасяць губы
Пад сур'ёзным тварам іскры смеху...

Варыць шкло ў пякельнай ванне-печы
Майстар-чарадзей на справы скоры.
На крышталь бясформенны
разметчык
Накладае будучыя ўзоры.

Вось прыйшоў ён да цябе, разьбярка,
Той крышталь, і мутны, і няяркі,
Каб зазззяць у пераліўным руху,
Праз твае прайшоўшы дзіва-рукі...

Залатыя рукі... Ажывае
Той крышталь, нібы ўвабраўшы сонца,

Нібы грае ў ім вясёлка мая
На празрыстым і бліскучым донцы...
Нібы воч тваіх у ім іскрынкі
На чароўных гранях уваскрэслі,
Нібы ў ім гарацць твае смяшынкі,
Нібы ў ім твае застылі песні!..

*1960*

# СКРЫПАЧ

З глыбінь нялёгкіх дум вярнуў ты шчасце мне,
Як ноч вяртае дню расой умыты ранак.
Вось-вось — і смык струну скрыпічную кране,
І гукаў вадаспад пальецца нечакана...

І забярэ ў палон, і ўладна павядзе
Да снегавых хрыбтоў, да сіняга бяздоння,
І на світальны змрок святлісты пырсне дзень,
І сонцу лісце дрэў зашэпча штось спрасоння...

І свет высокіх мар, і пошукаў, і ўдач
Раптоўна ажыве акрэсленай надзеяй...
Пяе ў душы матыў, што абудзіў скрыпач,
І кроў бяжыць хутчэй, і сэрца маладзее...

Натхнення валадар і гукаў чарадзей,
Якія сілы ты ў людскіх пачуццях будзіш,
Каб у пялёстках хмарак распускаўся дзень
І каб салодкі сум штуршкамі біўся ў грудзі?

Так першы дождж вясны на суш зямлі ліне,
Раскроіўшы заслону хмар лязом маланак...
Дум светлых чысціню вярнуў ты раптам мне,
Як ноч вяртае дню расой умыты ранак...

*1960*

# БЛАКІТНЫ АГАНЁК

Ад квартала да квартала,
Ад кватэры да кватэры,
Не пастукаўшы ні разу,
Не крануўшы за званок,—
Нібы госць доўгачаканы,
Перад кім наросхрыст дзверы,
Ціха-ціха уваходзіць
К нам блакітны аганёк.

І прыветная усмешка
Асвятляе твар жанчыны,
Нібы ў будучыню зроблен
Мнагавёрстны новы крок...
Доўга-доўга дабіраўся
Ён з далёкіх далячыняў,
Непрыкметны і нияркі
Той блакітны аганёк...

Качагар змахнуў рукою
Пот салёны, пот гарачы,
Сыпануў на развітанне
Ў топку шуфлем вугалёк:
— Вось і ўсё. Ставай на змену
Назаўсёды, не іначай,
Грэй катлы, давай ім жару,
Наш блакітны аганёк!

І прадымлены апальшчык
Прычыніў кацельні нетры:

— Раставай у небе чыстым,
Курны ўедлівы дымок!
Дыхай, друг зялёнакрылы,
Не атручаным паветрам,
Што прынёс у падарунак
Нам блакітны аганёк!

І няўцям занятым людзям —
Людзям працы, людзям справы,
Азірнуцца хоць на момант,
Прыгадаць хаця б здалёк,
Як ішоў праз пушчы, стэпы
З прыкарпацкае Дашавы
Да сталіцы беларускай
Той блакітны аганёк.

Дзьмулі з поўдня сухавеі,
Дзьмулі з поўначы завеі,
Асляпляла вочы спёка,
Парушыла сцюжа зрок.
Людзі моцнае пароды
Клалі трубы у траншэі,
Каб хутчэй дайшоў да мэты
Наш блакітны аганёк.

Нагіналі шыі краны,
Цягачы раўлі сярдзіта,
Вязлі ногі у балоце,
На зубах скрыпеў пясок.
Кіламетр за кіламетрам,
Мужнай працаю здабыты,
Набліжаў да перамогі
Нас блакітны аганёк...

І калі згасала лета,
Шапацела восень блізка,

З пазалочаных бярозак
За лістом злятаў лісток,
Далакопы і прарабы
Падышлі да ўскраін Мінска,
І ў вачах іх засвяціўся
Наш блакітны аганёк...

*1960*

# ПАРК

Ёсць куточак цудоўны
Над рэчкай у Мінску маім.
Залатымі рукамі
Маіх землякоў і зямлячак
Мілы сад, дзіўны сад
Быў пасаджан. І ценем густым
Вабіць юных да стрэч,
Маладых да прызнанняў гарачых...

Калі й ты прытаміўся,
Спыніся, прысядзь, адпачні
У цяньку маладога,
Гамонкага, ўтульнага парку.
Жоўты ліст, тонкі ліст
Аблятае, шапоча, звініць,
Нізка ходзяць, а можа, плывуць
Вераснёвыя хмаркі...

Так яно ўжо вядзецца:
У няяркім асеннім святле,
Дзе, як струны, дрыжаць
У паветры нямым павуцінкі,
Лёгкі сум, светлы сум
Пракладае да сэрца свой след,
І трапеча душа,
Як на ветры травінка-былінка...

Пра такое не скажаш
Ніякаю мовай, апроч

Той, што льецца ў радкі
Нечакана і проста, і лёгка...
Ціха кроч, ціха кроч,
Вераснёвая светлая ноч,
Далятай, жураваў
Развітальны, прыглушаны клёкат!..

Астравок залацісты
Між мора дамоў-камяніц,
Астравок цішыні,
Дзе цалуюцца ў прыцемку пары,
Я не раз, многа раз,
Як запаляцца ў вокнах агні,
Давяраўся табе,
Несучы свае чыстыя мары...

А звысоку праз вокны,
Праз насцеж адкрыты балкон
Басавіта «Ой, Нёман,
Ой, бацька мой Нёман...» ліецца,
І плыве, і плыве
Над вярхамі залочаных крон,
Дзе танюткі сярпок-маладзік
Зачапіўся за дрэўца...

Па-купалаўску гучна
Старая таполя пяе
Там, дзе жыў песнапеўца
Вялікіх часін пералому.
І шуміць, і шуміць,
І працягвае рукі свае
Да святлістых акон
Невысокага новага дому...

Б'е каскадам струменняў
Паблізу іскрысты фантан,

Так, як біла калісьці
Паэм залатая крыніца...
Цішыня, цішыня,
Толькі шолах бадзягі-ліста,
Толькі шэпт над ракой
Дажываючай век вербы ніцай...

Вось паветрам вільготным
Дыхнула ад соннай ракі,
Дзесь за Оперным
Дугі трамваяў выкрэшваюць іскры...
Паміж дрэў, паміж крон
Жоўтым бляскам шары-светлякі
Пазалотай пакрылі
І так залацістае лісце...

Што ж ты ходзіш, сумленне,
За мною, як цень, па пятах?
Чысты я. Ўсё жыццё
Нёс нялёгкую ношу работы.
Не хапаў, не кранаў
За душу мяне кіпцямі страх
І раскаянняў позніх
Не мучылі злыдні-згрызоты...

Мне знаём пыл рэдакцый
І пыл загазованых шахт,
Дым кастроў, шум тайгі,
На снягах лёгкі след сабаліны,
Светлы сон, чуйны сон
Паміж цяжкіх, напружаных вахт
Аб любімай, далёкай,
Прыгожай, ласкавай жанчыне...

Я жыву прагавіта,
Хоць б'е ў валасы сівізна,

Мне б яшчэ пабываць
На блакітных дарогах сусвету...
Цішыня, цішыня...
Праблукаў я ўсю ноч да відна
Думкай-роздумам светлым,
Радзімы цяплом абагрэты...

Ружаваты світанак
Над горадам ціха плыве,
Халаджавы вятрыска
Варушыць азяблае лісце...
Строга ўслед, строга ўслед
Паглядае герой Грыцавец...
З добрым раннем, мой горад,
Мая маладая сталіца!

*1960*

# СОЛЬ ЗЯМЛІ

* * *

Дрогкая, глуха і нема,
Сцелецца ноч вясны.
Зноў ажывае тэма
Даўніх вандровак зямных.

Вокны раскрыю насцеж —
Доступ хай будзе вясне!..
Побач соннае шчасце
Штосьці лапоча у сне...

Не, тут ніяк не збочыш —
Дужы, учэпісты быт!
...Вецер палярнай ночы,
Сівых туманаў клубы
Будзяць на самым світанні.

Ў шуме гагарыных крыл
Чуецца гул акіяну,
Контуры цёмных Курыл
Грозна ўстаюць з туману.

Бераг Ахоцкага мора,
Доўгачаканы прычал.
Высака лысыя горы
Неба ўзнялі на плячах.

Вокліч, як выстрал: «Палундра!» —
Катэр ляціць за борт.

Сопкі. За сопкамі тундра
Ўладна вядзе за сабой.

Дзесьці за сінім кражам
Родзіцца радасны дзень.
Сонца парчовую пражу
Круглыя суткі прадзе.

Там, за крутым перавалам,
Край непачаты прац,—
Пробу нам браць на трываласць,
Пробу на мужнасць браць.

Змору спазнаць пераходаў,
Дымных кастроў цеплыню...
О абуджэнне прыроды
Ад паўгадовага сну!..

О неспакойная ноша
Думак заўжды маладых,
Скарбу упарты пошук,
Першай удачы сляды!..

Што там нястача ці голад
Перад жаданасцю мэт,
Раз ты па званню геолаг,
А па прызванню паэт!

Шмат калясіў ты, разведчык,
Многім няўдачам назло,
Там, дзе нагі чалавечай,
Можа, зусім не было.

Тыя шляхі не проста
Да простых высноў прывялі:
Жоўтых крупінак россып —
Вось яна, соль зямлі!

* * *

З першым цяплом ажывае
Прага вандровак зямных,
Б'ецца у жылах жывая
Палкая кроў вясны.

Ловяць пабудку антэны,
Гоняць у рупары хрып,
Зноў ажывае тэма
З праблескам ранняй зары.

Як гэта хораша й дзіўна
Вокам абняць далячынь,
Землі любімай радзімы,
Неба цнатлівую сінь!..

Як гэта хораша й люба,
Груз пяражытых гадоў
Скінуўшы раптам, прыгубіць
Родных вятроў сырадой!..

Хораша!.. Белыя хмаркі
Сонцу насустрач ляцяць,
І абуджаюцца шпаркa
Рухі зямнога жыцця.

Гром крыгалому. Рэха
Зыбіць разводдзяў плынь,
Пеняцца бурныя рэкі.
Ловіць навостраны слых

Першы напеў берасцянкі,
Курлыканне жураўоў,
Шэпт халаджавага ранку
З леташняю травой...

Вясна прымярае абнову —
Сонечны персцянёк.
Сцелецца красавіковы
Травінак зялёны дымок.

Жыцця неўтаймоўная сіла
Плешчацца у берагі.
На ўзлёт размінае крылы
Год сямігодкі другі.

Там, дзе бязлюддзя немасць
Нікла у шэпце трысця,
Родзіцца новая тэма
Мудрае кнігі жыцця.

Случчына! Край прыгожы,
Бацькаўшчына бацькоў
Кліча мяне ў падарожжа
Шэптам прысад і садоў.

Там галасы абуджэння —
Звонам вясны у вушах,
Сілай жыцця нятленнай
Там маладзее душа!

Сон маладзецкі шахцёрскі
Там абрываюць гудкі,
З горада Салігорска
Ў шахты ідуць гарнякі.

Як ветракі без крылаў,
Высяцца ў неба капры.
Свідруе гарачая сіла
Тоўшчы зямной кары.

З рокатам крышаць забоі
Адбойныя малаткі,

Крышаць пласты мезазоя
Хлопцы-маладзякі.

Праца кіпіць несціхана,
Пласт падразае ствол:
Вось яна, доўгачаканая,
Ў нетрах схаваная соль!

Тая, што караваем
Ляжа ў вяселле на стол,
Тая, што ўзніме ўраджаі,
Тая, глыбока зямная,
З нетраў здабытая соль.

...Вымпел узняўся угору —
Новы рубеж узялі!
Так і рашылі шахцёры:
Вось яна — соль зямлі!

* * *

Вугаль на Украіне,
Золата на Калыме,
Нафта з каспійскіх глыбіняў,
З нетраў казахскіх медзь;

Скарб незлічоны алмазаў
З карстаў якуцкіх мярзлот,
Марганец на Каўказе,
Соль з-пад дрымотных балот;

Гэта ўсё вамі здабыта,
Людзі Айчыны маёй!
Прывід крывавае бітвы
Хай не кране ваш спакой!

Юных загінула колькі,
Колькі пакладзена сіл!
На прыдарожных узгорках
Колькі іх, братніх магіл!

Клічуць вайны ахвяры
Голасам трубным вясны:
Людзі, зламайце карак
Чорнаму богу вайны!

Ярка вам сонца свеціць,
Веюць вам ветры вясны,
Ленінскай партыі дзеці,
Светлай радзімы сыны!

К мэце, што вызначыў Ленін,
Вашыя сцежкі ляглі,
Веку майго пакаленне,
Камуністычнае племя,—
Моцная соль зямлі!

*1960*

* * *

Разышліся навекі,
Адзін аднаго ж не забылі,
Белым голубам смутак лятае між намі...

*Юльюш Славацкі*

Гэта ўсё прамінула... Блакітнае плацце
І блакітных вачэй позірк ціхі і строгі...
Гэта ўсё называлася некалі шчасцем
Ці пачаткам вялікай сумеснай дарогі...

Летні сад над Нявою, агні над Фантанкай,
Медны коннік на глыбе, залочаны шпіль...
Мы з табою на тым разышліся паўстанку,
Дзе прадрок навальніцу бязветраны штыль.

І грымела яна, і высмальвала вочы,
Бліскавіцамі гневу штурхала ў баі,
Каб ізноў над Нявой серабрыстыя ночы
Ціхамірна праводзілі нас абаіх...

Толькі час пралятае на крылах эпохі,
І другія прыходзяць сюды замест нас,
І над морам гуляюць далёка спалохі,
Зірк арліны пільнуе наш сон і наш час.

Захавай жа яго, паліналае плацце,
Афарбоўкі юнацтва блакітны узор...
Калі будзеш хаця выпадкова на Лахце,
Ўспомні белых начэй падвянечны убор!

Хай у сэрцах жыве успамін незабыўны,
Непаўторнага шчасця пара залатая,
Што на захадзе год нечаканым і дзіўным
Белым голубам смутку між нас пралятае...

*1960*

* * *

Не шкадую я аб згубленым,
Рад таму, што знойдзена.
З кубка мудрасці прыгублена,
Рубікон пяройдзены.

Чорнай дзюбай поўнач выдзеўбе
Ў небе зоркі-зернеткі,
Покуль дзень у светлым вырубе
Урачыста вернецца.

Так і шлях да светлай ісціны,
Што гарыць, як сонейка,
Не чырвонай ружай высцелен —
Цернямі, дзядоўнікам...

Так і наша узмужнелае
Спрабаванне вернасці,
Нібы ў полі жыта спелае,
Прарастае з зернетка.

*1960*

# ШЧАСЦЕ

*Паэма*

## I

Усё жыццё шукаў мой дзед прыгонны
Ад шчасця запаветныя ключы,
Свой беспрасветны век чужыя гоні
Крывенькаю сахою аручы.

І чатыром сынам у хвілю скрухі
Ён загадаў самім шукаць свой шлях
Да тых ключоў. Лягла навекі пухам
Яму на грудзі слуцкая зямля.

Па дзесяціне выпала на брата,
Калі сканаў прыгон, а з ім і дзед.
Адрокшыся ад спадчыны «багатай»,
Пайшоў па шчасце бацька ў белы свет.

## II

Папрацаваць на ўсіх хапіла сілы,
Праліць на ўсіх салёных сем патоў:
На графаў Чапскіх, і на Радзівілаў,
І на падпанкаў дробных, і паноў.

Так бальшаком у тыя дні глухія
Ў губернскі Мінск па шчасце ён прыйшоў.
Дваццаты век займаўся над Расіяй,
Прадвеснем грозным будучых баёў.

Цягаў бядак і гліну і каменне,
Каб той мулярскі спрыт сабе прыдбаць,

Каб, жывучы ў паўзмрочным сутарэнні,
Умець другім палацы будаваць.

## III

Так стаў батрак рабочай справы майстрам.
Хоць працаваў і дзень і ноч, аднак
Не заваляўся ў пашарпáнай кайстры
На чорны дзень зароблены мядзяк.

Так і лавіў бы ён жар-птушку шчасця —
Працуй, працуй, а гол, як той сакол...
Ды цар паслаў ад лютае напасці
Абараняць Расію і прастол.

Па-царску шчодра быў узнагароджан
Салдат за службу, за крывавы пот,
Японскай куляй у чацвёртым годзе,
Курлоўскай куляй акурат праз год.

## IV

Прайшоў і ён пад той жалезнай аркай,
Дзе быў студэнт павешан малады,
На тры гады пакінуўшы мулярку
Ды распазнаўшы, з кім ісці й куды...

Няхай жыццё згінала цяжкай працай,
На мінскім бруку грукаў першы крок
Рабочых непахісных дэманстрацый,
Свяціў баёў наступных агарёк...

Людскога гневу выбухі глухія
Зноў закіпалі жорсткай барацьбой,
Ўздымалася рабочая Расія
На бой за шчасце, на астатні бой...

## V

Бег час. Прыйшоў у цернявым убранні
Год чатырнаццаты, злавесны год.
Ізноў, закінуўшы за плечы ранец,
Пайшоў салдат на кайзера ў паход.

Быў так патрэбен кайзер той салдату,
Як, скажам, цюцьку пятая нага...
Былі ў салдата дзеці, жонка, хата,
Прыйшла туды смяротная туга.

І чатыром сынам малым у час той
Сказаў салдат, слязы прагнаўшы муць:
— Шукайце, хлопцы, самі сваё шчасце,
Калі мне трэцяй кулі не мінуць...

## VI

Быў лёс вайны на ўдачы не багаты,
Дарыў не часта поўным кацялком.
Прайшоў салдат ад Віслы да Карпатаў
Са сто трыццатым Кобрынскім палком.

Хоць адчыняў не раз чужыя дзверы,
Не ўбачыў шчасця і ў чужых дварах,
Паразгубіўшы ўшчэнт сляпую веру
І ў бога і ў нягеглага цара.

Узнагароджан быў і тут багата
(Такі вайны няпісаны указ)
Не куляй, дык асколкам ад гранаты,
Ды выжыў неяк і на гэты раз.

## VII

Быў месяц люты памятнага года,
Чацвёрты год бязглуздае вайны.
Расія, ўмытая крывёй народа,
Чакала шчасця, міру і вясны...

Пакінуў мулкі лазарэтны ложак
Салдат, каб зноў і зноў ісці-брысці
Па тых, вайной разбітых раздарожжах,
Дзе праўды сэнс адразу не знайсці...

І вось пайшло акопнае братанне,—
Братазабойства — ўсім адна бяда!
Кулём зляцеў цурбан каранаваны,
Цяпер да шчасця ўжо рукой падаць!..

## VIII

Цяпер да шчасця простая дарога,
Дыміцца парай цёплая ралля...
Страчай, страчай кульгавага нябогу,
Радзімы блаславенная зямля!..

Таптаная чужым каваным ботам,
Варонкамі, як воспаю, наўсцяж
Пабітая, аплеценая дротам,
Жывая для жывых і для жыцця...

О бацькаўшчыны мілай цёплы вецер!
О пахкі дым ад мілых, родных хат!
Начуючы то ў лесе, то ў кювеце,
Дадому рушыў змучаны салдат...

## IX

Ды не дайшоў. Навіслі хмары здрады —
Нахмурыў лоб салдат і зубы сцяў.
І стаў у строй з рабочым Петраградам
Пад ленінскі, пад бальшавіцкі сцяг.

І мужнасць увайшла агнём у сэрца,
І налілася сілаю рука,
Каб у рашучай бітве біць да смерці
Дзянікіна, Пятлюру, Калчака

І легіёнаў зграю белай масці,
Што зноў ярмом прыгнула вольны люд...
...Так веку чвэрць ваюючы за шчасце,
Ступіў баец на родную зямлю.

## X

Зямля Радзімы! Ў сэрцы боль салодкі
Хто не адчуў, сустрэўшыся з табой?!
Зямля, палітая крывёю продкаў
І на́шчадкаў гарачаю крывёй!..

Яшчэ дыміўся горад зруйнаваны
Кварталамі згарэлымі датла...
Захараўская вуліца крывая
Да Камароўкі бацьку прывяла...

Вось ён ужо ў падслепаватай хаце...
Заселі словы ў горле — што сказаць?
Як выраслі сыны, зблажэла маці!..
Ты згінь з вачэй, праклятая сляза!..

## XI

Прыйшло, прыйшло цяпло скупога шчасця,
Не таннага, не лёгкага, твайго!
«Арцель» на працу выпраўляе маці:
І майстра і памочнікаў яго...

Работы шмат, працуй, народ, на славу,
Кладзі падмурак новага жыцця!
Сталіца навароджанай дзяржавы,
Ўздымай высока свой дзяржаўны сцяг!..

Тваіх здабыткаў ворагу не скрасці,
Як не спыніць нястрымны часу рух,
Твайго крывёй акропленага шчасця
Не вырваць больш нікому з мужных рук!..

## XII

Краіна йшла з уздыму да уздыму,
Авеяная подыхам вясны...
І, расхінуўшы крылы маладыя,
Па свеце разляцеліся сыны.

Не дачакаўся ў гэты час суровы
Стары шасцідзесятае вясны,
Знайшоў спакой на могілках вайсковых,
Адваяваўшы спраўна тры вайны.

Заснула вечным сном старая маці,
Патух нявыплаканых слёз агонь...

. . . . . . . . . . . . . . .

...Дык што ж? Канец аповесці аб шчасці?
І аб нялёгкіх пошуках яго?

## XIII

Не. Зноў сустрэла чорную навалу
Радзіма шматпакутная мая,
Каб у астатняй бітве небывалай
Зямлю бацькоў грудзямі адстаяць.

І адстаяла, каб змаглі унукі
Палац надзей людскіх дабудаваць,
Каб будучыню ў маладыя рукі,
Як эстафету шчасця, перадаць.

Каб ярка ззяла сонца камунізма,
Каб далягляд надзеямі яснеў,
Каб выбіць зброю з рук у тых, хто трызніць
Аб спусташальнай атамнай вайне.

## XIV

Ты мімаволі забываеш часта,
Мой юны друг — чытач маіх радкоў,
Што недарма к табе прыходзіць шчасце,
Цана яму — жыццё тваіх бацькоў.

Іх кроў і пот, іх праца і змаганне,
Усё, чым надзяліў суровы век,
Аддадзена, каб нёс ты горда званне
Вышэйшае з высокіх — Чалавек!

Само не будзе стукаць шчасце ў дзверы,
На ўтульны аганёк не забрыдзе,
Яно ў нязгаснай сіле нашай веры,
Яно заўжды наперадзе ідзе.

*1960*

# МАЙ

Ясны ранак сон Радзімы будзіць —
Па зямлі вясна ідзе-гудзе.
З Першым маем, дарагія людзі!
Добры дзень,
Вясновы светлы дзень!

Павявай над бацькаўшчынай мілай,
Свежы ветрык з цёплай стараны!
Сонцам нас сягоння акрыліла
Свята міру, дружбы і вясны.

Ліся, ліся ў вуліцы і плошчы,
Мора чалавечых галасоў!
Маладыя крочце сцяганосцы
Пад прызыўным шэлестам сцягоў!

Вашы вочы гордасцю іскрацца,
Вам высока несці алы сцяг —
Ад брыгад камуністычнай працы
Да камуністычнага жыцця!

Да вышынь ляці, як водгук славы,
Гром аркестраў, песенны прыбой!
Наша маці родная, дзяржава,
Мы адной сям'ёй ідзём з табой!

Да любой работы мы гатовы
Пад зямлёй, у небе, на зямлі —
Толькі ты скажы, Радзіма, слова,
Толькі, Партыя, народ пакліч!

Глянь, як зграбна адбівае крокі
Маладых салдат адменны строй! —
Кожны з іх твой смелы горды сокал,
Кожны рыцар-абаронца — твой!

Глянь: ідуць рабочыя раёны —
Сямігодкі творцы і майстры!
Глянь: усмешка шчасця ззяе сёння
На абліччах юных і старых!

З краю ў край разбуджанай планеты
Узняліся людзі ў гэты час,
Свецяць ім святлом надзей з партрэтаў,
Як жывыя, вочы Ільіча.

Шчодра, сонца, над прасторай роднай
Цеплыні струмень гарачы лі!
Да вясны і шчасця кроч, народ мой —
Пакарыцель неба і зямлі!

*1961*

# СЫН ВЕКУ

*Ю. Гагарыну*

Спыніся, час!
Прыціхні на хвіліну,
Рабочы гул
Узрушанага дню!
Збылося:
Сын Савецкае Айчыны
Нязнаную штурмуе вышыню!

Адным парывам
Зліты нашы сэрцы.
Схіліў чало
Дваццаты мудры век:
Наўкол Зямлі
Арбітаю бяссмерця
Ляціць
Зямны і просты чалавек.

Яму далі
Рашучасць на дарогу,
І яснасць воч,
І сілу на узлёт,
І жар душы,
І веру ў перамогу,
І мудрасць часу
Партыя й Народ!

Вы чулі голас Юрыя?
Як цвёрда
Ён прагучаў

З кабіны карабля,
Узняўшы славу нашу
Смела й горда
Да тых вышынь,
Дзе свеціць зорны шлях!

Прайшлі
Чакання важкія хвіліны...
І мы з гарачым,
Шчырым пачуццём
Шлём «дзякуй!»
Простай рускай той жанчыне,
Што з смелых смеламу
Дала жыццё!

Сын веку,
Слаўся!
Ты паклаў пачатак,
Каб нас дарогі
К сонцу прывялі,
Каб стала мара
Праўдаю крылатай
Для шчасця
Чалавека
На Зямлі!

*12.IV.1961*

# ПА ЗЯМЛІ ПРАХОДЗІЦЬ ЛЕНІН

Повен сонца й сіні
Дзень вясенні,
Ласкай цёплай вецер
Вее ў твар.
Людзі ўсёй планеты
Словам «Ленін»
Лепшую назвалі
З лепшых мар.

Ленінская праўда
Ў сэрцах будзіць
Гневу і рашучасці
Агонь
Тых, хто больш у рабстве
Жыць не будзе,
Хто парваў
Жалеза ланцугоў.

Золак —
Над В'етнамам і Лаосам,
Афрыка
Ахоплена агнём,—
Гэта людзі
Правяць сваім лёсам,
Ленінскім сагрэтыя святлом;
Гэта людзі прагнуць
Волі й хлеба,
Гэта людзі прагнуць
Быць людзьмі,

Каб раслі плады
На роднай глебе,
Панавалі
Розум,
Праца,
Мір!

Да свабоды
Воля іх нязменна,
Крышыцца прыгнёт
У пыл і прах,—
Гэта па зямлі
Праходзіць Ленін,
Асвятляе
Ў будучыню шлях.

Ён у кожным сэрцы,
Ў кожным доме,
Ён кіруе ў космас
Караблі,
Каб у працы,
Ў бітвах,
Дыме,
Громе
Шчасцю нарадзіцца
На Зямлі!

*1961*

# ЗМАГАЙСЯ, АФРЫКА!

*Памяці Патрыса Лумумбы*

За горамі,
за морамі,
за сінню Адрыятыкі,
За пусткамі Сахары,
з краіны сонца — Конга,
Мы чуем
крык гартанны,
стогн змучанае Афрыкі,
Мы чуем
рокат бою,
глухія ўдары гонга...
Агнёвы гнеў,
ляці
нястрыманаю бураю
Да тых,
хто рве на часткі
тваё жывое цела,
Хто чорную душу
схаваў пад белай скураю,
Хто ў сэрца тваё,
Афрыка,
няволі нож нацэліў!
Шакаламі крадуцца
майстры заплечнай практыкі,
Цікуюць спадцішка —
чакаюць твайго скону...
Ты выстаіш,
пазнаўшая свабоды шчасце,
Афрыка,

Ты выстаіш,
скрываўленае,
змучанае
Конга!

Прадажны містэр хам
са звычкамі сцярвятніка
Занёс руку нячыстую
над лепшым тваім сынам.
Ім не зламаць твой дух,
разбуджаная Афрыка,
Ім не надзець ярмо
ізноў табе на шыю!
Народны гнеў змяце
змоў, здрады графікі
Пад покліч баявы,
пад гул прызыўны гонга.
З табой мы,
чорны люд
з няволі ўстаўшай Афрыкі,
З табой мы,
мужны люд
пакутлівага Конга!

*1961*

# МІР — ЯМУ ІМЯ

Свет прыціх.
Ляціць да сонца дзіва
Нам на шчасце,
ворагам назло.
Самае праўдзівае
з праўдзівых
Слова
людзям сэрцы апякло.
Слова —
караценькае,
як выстрал,
Важкае —
як сотні тон свінца,
Яркае —
нібы маланкі іскра,
Цвёрдае —
нібы алмаз разца.
МІР — яму імя!
Па ўсёй планеце
Досвіткам
яму у вокнах днець.
Знайце, злыдні:
хто пасее вецер,—
Навальніцу грозную пажне!
Так сказаў народ,
і гэтак будзе.
Мы на тым стаялі і стаім:
Не патрэбны войны
працы людзям,

Не патрэбен
бразгат зброі ім!
Ёсць хлусні распуснай
грань і мера.
Яшчэ раняць памяць
слёзы ўдоў.
Кангрэсмены,
ўрады і прэм'еры,
Скіньце
ідала вайны на дол!
Годзе
у прытонавых сутоннях
Плесці павуцінне
чорных змоў!
Людзі не дапусцяць
новай бойні,
Псоў рудых
не спусцяць з ланцугоў!
Сонца міру
свеціць ім у хаты,
Мірны дым
клубіцца з каміноў,
Хай хутчэй
пад музыку салдаты
З арміі
вяртаюцца дамоў!
Чорнай хмарай
хай не засціць межы
Цень злавесны
атамнай вайны!
Над зямлёй хай вее
вецер свежы,
Вецер міру,
працы і вясны!

*1961*

# МЫ ПАБУДУЕМ БУДУЧЫНІ ДОМ

Асенні дзень. А сонца льецца з неба,
На дол скідаюць дрэвы па лістку.
Ледзь малатарні сціхлі на таку,
А ўжо ізноў гусцее руню глеба.

Глядзець удаль, глядзець — не надзівіцца,
Як полем, як прасекай залатой
Ступае восень павай-маладзіцай,
Чаруе позірк спелаю красой!..

Як зранку першым замаразкам будзіць,
Вятрыскам шэпча ласкава: пара!
Як устаюць маёй айчыны людзі
Да звыклых, простых і вялікіх спраў.

Мір вам, героі працы, мір і шчасце!
Мір вам, прасторы роднае зямлі!
У полі, ў цэху, ў моры, ў небе, ў шахце
Гул працы ў рытм адзін суладны зліт.

Тут пошук смелы, думкі гарт высокі,
Тут свідраванне ўглыб, палёт увысь,
Усюды, Партыя, твае жывыя крокі,
Усюды, Партыя, твой пульс жывы!

Усюды чуцен подых твой магутны
І цеплыня нязгаснага святла.
Ты, як пуцёўку ў ясны дзень наступны,
Праграму шчасця ў рукі нам дала.

Таму ў запале творчага натхнення
Распазнаём найглыбшы сэнс і змест
Высокіх тых тваіх прадвызначэнняў,
Што ўпіша ў сэрцы кожы новы з'езд.

Таму высока ўзнятымі рукамі
Усенароднай нашай грамадой
Мы галасуем за тваю праграму,
За голас ясны мудрасці тваёй.

За праўду тую, што народ злучыла,
Што мы ў баях адстойвалі грудзьмі,
Наш розум, волю нашу, спрытнасць, сілу,
Табе гаворым, Партыя: вазьмі!

Вазьмі й вядзі! Твае майстры і творцы,
Мы пабудуем Будучыні дом!
Свяці нам, Партыя, свяці заўжды, як сонца,
Нязгаснай мыслі радужным агнём!

*1961*

# СТУДЗЕНЬ

Далеч марозная сонцам няяркім падсвечана.
Плечы зямныя ухутаны ў белы паркаль.
Срэбнымі іскрамі шэрані дрэвы расквечаны,
Быццам бы студзень рассыпаў празрысты
крышталь...
Звонкая ціша — ні спеваў птушыных, ні шэлесту.
Льецца па жылах пушыстай зімы халадок.
Бачыш, як шчокі дзяўчыніны заружавеліся,
Мілыя кудзеркі лёгкі апушыў сняжок?!
Бачыш, як юныя лыжніцы, поўныя зграбнасці,
Міма праходзяць, і плешчацца гоман і смех...
Так вось юнацтва ружовае ў сэрца пракрадзецца,
Поўнае шчасця і гэтых няхітрых уцех...
Так разгаворыцца раптам прырода-маўчальніца,
Толькі кране яе подых паўднёвых вятроў,
Толькі напоўніцца першая светлая раніца
Клёкатам радасным мілых гасцей-жураўоў...
Так вось зямля на зыходзе калючага студзеня
Поўніцца снамі аб сіняй пявучай вясне,
Каб распрастацца ўсёй сілай, ад спячкі абуджанай,
Краскамі ўсімі жыцця зашумець, заквітнець...
Так вось у немасці студзеня бачацца ўводдалі
Гулкай вясны шматгалоссе, і гоман, і шум,
Быццам пачуў маладосці ажыўшае водгулле,
Быццам зірнуў у глыбокую студню-душу!

*1967*

## АЛЬБУЦЬ

Альбуць!
Старых дубоў
Зялёная падкова,
Пазалацелы луг,
Крынічкі срэбны звон...
Альбуць!
Як сэрцу шмат
Гаворыць гэта слова,
І гэты цёмны бор,
І неба сіні схон.

Усё пераадчуй,
Усё схапі вачамі,
У сэрцы зберажы,
У часе не забудзь:
Ты сцежачкай ішоў,
Ступаў яго слядамі,
Таго, чый шлях прайшоў
Калісьці праз Альбуць!

Таго, каму душа
Нясе свой скарб найлепшы,
І цёплы успамін,
І ўдзячнасці паклон,
Што не заглушыць шум
Нахіленых алешын,
Што не развее ў дым
Віхор асенніх дзён.

Альбуць!
Юнацкіх год яго
Праўдзівы сведка;
Альбуць!
Чароўны кут
Любімае зямлі!
Тут Колас жыў.
Тут казкі
Бор шаптаў падлетку,
Размову з юнаком
Тут перуны вялі.

Быць можа
Ты, Альбуць,
На золаку стагоддзя
Узрушыла душу
Той сілай пачуцця,
Што стоена жыла
Вякі ў маім народзе,
Каб выйсці на прастор
Кіпучага жыцця?!

Быць можа,
Ты, Альбуць,
Вясёлкавыя блікі
Рассыпала
Ў яго бліскучыя радкі,
Каб шлях адсюль пачаў
У свет Сымон-музыка
І Новую Зямлю
Шукалі хадакі?!

...Сны веку сняць дубы.
І безліч сонцаў дробных
На ўзорным лісці іх
Дрыжыць у кроплях рос...

Благаславёна будзь,
Зямля айчыны роднай,
Радзіўшая таго,
Хто славу ёй прынёс!

*1961*

## ВЕРТЭР

У шыб паўзмрок б’е наўскасяк
Дажджамі стылы вецер...
Не, Вертэр проста быў дзівак,
І ты зусім не Вертэр.

Кахання смак зусім не той,
Даспехі ў антыквара,
І цень рамантыкі былой
Не прамільгне на твары...

Прасцёр даброт уладны быт
Бар’ер з гардзін і плюшу...
Ім тройчы Вертэр быў бы біт,
Калі б той быт парушыў.

Ну што там Вертэр? Чэзлы плод
Натхнення і ўяўлення.
Блукаць самотным ля варот,
Хадзіць па следу ценем.

Што Вертэр? Нема абажаць.
Схіляцца ў млоснай цноце.
Ад горкай рэўнасці дрыжаць.
Рыдаць у адзіноце.

Кахаць усё жыццё адну
Усёй душой і сэрцам.
Пасля сысці у цішыню,
Працей сказаць, памерці?!

Ха! Ўсё лухта! Шуміць праспект,
І па таму праспекту
Доўгавалосы йдзе суб'ект,
Як пудзіла адзеты.

Пушок радзюткі на губе,
Пустых вачэй бясцвецце...
Скажы, стварэнне, хто цябе
Такім пусціў па свеце?

Ідзе нахабна, спакваля,
З пагардай на абліччы...
І гэта шчупленькая тля
Сябе адменнай лічыць?!

Пазнаны ісціны усе
Яшчэ ў дзевятым класе...
Скубе стварэнне пакрысе
З бацькоўскай шчодрай касы...

Паклаўшы ручкі на жывот,
Шчаслівa мама квокча:
Зазналі шмат мы ўсе нягод,
Няхай міне іх хлопчык...

А «хлопчык» — знаўца ўсіх акрас,
Даступных і прыгожых,
Дзе ўсе спакусы напаказ
Ад плеч да басаножак...

Чужы грамадству мот і фат,
Уцех жыццёвых знаўца —
Ну што яму там да брыгад
Камуністычнай працы?

Ну што яму, што ўвесь народ
На штурме пяцігодкі?!

Гуляе ў скверы абармот
Развінчанай паходкай...

Хіба маралі спажыўца
І звычкам эгаіста
Знаёмы шчырасць пачуцця,
Парывы думак чыстых?!

Ты хлусіш часу й сам сабе,
Нікчэмнае стварэнне!
Ёсць пачуццё глыбінь глыбей,
Дзе кожнае імгненне

Напоўнена да берагоў
Біццём крыві гарачай,
Дзе дружаць праца і любоў —
Сяброўкі дум юначых.

Дзе ў сіняй далечы відна
У сонечным убранні
Пачуццяў светлая вясна —
Дум чыстых хваляванне.

Яна, сястра чароўных сноў,
Сышоўшы да ўзгалоўя,
Адорыць шэптам дзіўных слоў,
Таемнасцю мелодый...

Паўторыць тысячы разоў
Імя адной-адзінай,
Яна, ўсеўладная любоў,
Душ юных гаспадыня...

Навучыць шчасцю мілых стрэч
І рэўнасці пакутам,

Абудзіць сілу рук і плеч,
Паскорыць дні й мінуты...

І будзе весці па жыцці
Заўжды насустрач ветру,
Туды, куды не змог дайсці
Далёкі бедны Вертэр...

*1961*

# ПАРА МАЛАДОСЦІ

Напоўнены свет
Шапаценнем няўлоўным,
І музыкай гукаў,
І ласкавым ветрам,
І сінню,
І шчэбетам рознагалосым,
І той адраджэння зямнога
Няўяўнай салодкаю мукай,
Што з тонкіх сцяблінак
Узросціць
Налітае сонцам калоссе.

Пануе вясна —
Наша мілая,
Наша пявучая госця —
Над парнай раллёю,
Кранутай
Празрыстай і лёгкай смугою,
Дзе творацца
Тайныя цуды жыцця,
Дзе пара маладосці
Вяртаецца зноў да цябе,
Напаўняючы кроў неспакоем.

Пануе вясна —
Над усім і ва ўсім:
Над сагрэтаю глебай,
Над морам зялёных лясоў,
Над квадратамі

Новых кварталаў,
Вясна пакарэння
Зямным чалавекам
Глыбіннага неба,
Вясна пакарэння
Людзьмі
Некранутай цаліннае далі.

Ступае вясна па зямлі,
Непакоіць,
Трывожыць
І будзіць
Крывёю Лумумбы,
В'етнама ахвярамі,
Голасам Кастра:
Выпроствайце плечы,
Крышыце няволю,
Працоўныя людзі,—
Зямлю хай усцелюць
Не вашы,
А наймітаў косці
І ржавыя каскі!

Растаў красавік,
Палымнее усход
Светла-алай зарою,
Зямлі маладосць
Разганяе барвяны туман ліхалеццяў,
Дзень новых здзяйсненняў
Грыміць над прасторай зямною
Магутным яднаннем,
Прадвеснікам мудрым
Вясны чалавецтва!

*1961*

# ГІМН ПРАЦЫ

Табе маё палкае слова,
Свабодная Праца —
Стваральніца
шчасця людскога
і цудаў зямных!
Табою натхнёныя
вочы жывыя іскрацца,
Натруджаны рукі,
навостраны розум і слых.

Не раб твой,
а друг твой,
свабодны, шчаслівы і мужны,
Тварэц-чалавек,
пакаральнік зямлі і нябёс
Пад сонцам спякотным,
пад ветрам калючым і сцюжным
На крылах часін
тваю жорсткую праўду пранёс.

Калі ж набягала
вайны ненажэрнай ваўчыха
І цела Радзімы
сачылася цёплай крывёй —
Вялікая Праца
над горам,
бядотай і ліхам
Выпроствала плечы нам
мудраю сілай сваёй!

I зноў залацела
Айчыны бяскрайняе неба,
I родная глеба
ад краю да краю цвіла...
Ты, Праца, плаціла нам
слодыччу пахкага хлеба,
Ты гмахі ўздымала
з жалеза, бетону і шкла!
Жыцця валадарка,
ты ўзнесла нас, гордых, над векам,
Ты — шчасця крыніца,
ты — сіла, і зброя, і мір,
Ты — творчасць мільёнаў,
ты — слава і чэсць чалавека,
Ты — заўтрашніх дзён
неабсяжная светлая шыр!

Натхнёная праца,
хто зможа цябе адцурацца,
Няма таму месца
за нашым сяброўскім сталом!
Мы заўжды з табою,
адданыя рыцары працы,
Падчысцім планетку,
адзенем у кветкі і шкло!

*1961*

# МІНСКАЕ МОРА

О Мінскае мора!.. І смешна й дзівосна —
Мой горад спрадвеку зусім сухапутны!
А вецер гайдае высокія сосны,
Што выбеглі аж на ўзбярэжжа. І чутна,
Як шастаюць хвалі на пляжы пясчаным,
Як чайкі лунаюць над самай вадою,
Як катэр стракоча па гладзі люстранай,
Як міма байдаркі імчацца стралою...

Я знаю шэсць мораў, блакіт іх прастораў,
Сівых акіянаў раз'юшаны нораў,—
А гляну ў твой твар з беражка Ганалеса,
І доўга ў душы ўсё гучыць твая песня!..
Па хрусткаму жвіру пайду на змярканні
Пад шэпт чарацяны, гамонку сасёнак,
І даўняя змора паціху растане
Ад паху аеру і белых рамонак...

Мне ў твар павявае чысцейшым паветрам
Да болю ўсім сэрцам любімай айчыны,
І скарб сваіх думак і слоў запаветных
Я ёй давяраю адной і адзінай.
Не танна мне гэтае шчасце далося,
Знаёмы яму і разлука, і ростань,
Глыбокага роздуму позняя восень,
І поціск рукі дарагога сяброўства...

Ў сонных затоках шапочуць асокі,
І разам з вясны маладымі вятрамі

Мне бачацца марывы мараў далёкіх,
Што сінім дымком праплылі над кастрамі...
Мне чуецца голас адзіны у свеце,
Як з вуліцы Розы юнацкае скерца,
Мне мора майго несалёны вецер
Даносіць яго аж да самага сэрца...

Напоўні мне лёгкія, Мінскае мора,
Вільготным і чыстым вясновым дыханнем,
Каб бронхі не рыпалі даўняю зморай
На шостым дзесятку майго існавання!..
...Ну што — вадасховішча?! Гэта не імя,
А мора — тут веліч, любоў і пашана,
Тым больш, што стварылі рукамі сваімі
Цябе дарагія мае мінчане!

*1961*

# ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ

На Ленінскім праспекце сонца многа,
Усмешак многа добрых і шчаслівых.
На велічы, сатканай з ліній строгіх,
Паклаў адбітак свой здзяйсненняў час імклівы.

Над ім зіхціць святлісты дзень красавіковы,
Над ім плывуць аблок празрыстыя чародкі,
Галінкі ліп вось-вось успалыхнуць гатовы
Вясновай прозелені полымем салодкім...

Умельства рук сваіх, любоў гарачых сэрцаў,
Агонь душы сваёй уклаўшы ў кожны камень,
Яго народ узняў з руін, нябыту, смерці
Над прахам дзён былых, над хмурнымі вякамі.

Таму ад плошчы той, дзе моўчкі ўзняўся Ленін,
Узяў пачатак ён артэрыяй Радзімы.
Таму як лепшых мар жывое ўвасабленне
Яго народ назваў найдаражэйшым імем.

Друг юны, калі йдзеш па Ленінскім праспекце,
Не забывай, што йдзеш насустрач мэце светлай,
Якую ў час навалы, слот і ліхалеццяў
Вялікі наш Ільіч узняў над змрочным светам!

*1962*

# ПАЧАТАК

Па снягах пушыстых хрусткіх
Крокам юным неакрэплым
Па абшары беларускім —
Белым полі, стылых рэках,
З зорнай шэранню на вейках,
Першазімкавай парошай
Госць ідзе да чалавека
І чаканы, і харошы...

Што за госць і як завецца?
Ён куды кіруе крокі?
Шчасцем вочы яго свецяць.
Ён заве ў паход далёкі,
Каб пад родным небасхілам
Не згасала міру сонца,
Каб буяла свежай сілай
Дужасць у народа-творцы.
Шлях ягоны — не кароткі,
Шлях ягоны — гераічны,
Ён — пачатак пяцігодкі,
Веха ў век камуністычны!

Дык скажы, які́м ты будзеш?
Чым народ ты мой адорыш?
Спорнай працай гучных будзень?
Скарбам, стоеным у горах?
Новым дзёрзкім штурмам неба?
На планету Месяц трасай?
Спелым морам збожжа-хлеба?

Хараством асенніх красак?
Што ж?! З табой мы маем права
Лёт прадбачыць сакаліны,
Ды прымножыць нашу славу
Службай вернаю Айчыне!
Можа, скажуць, празаічны
Сказ мой шчыры і кароткі,—
Слава справам гераічным
Распачатай пяцігодкі!

*1962*

## ВОСЕНЬСКАЕ

Акінь прастор удумным позіркам,
У вочы светлых даляў глянь!
Асеў туман у вербалозніку,
Дрымотна дыхае зямля.

О, позняй восені празрыстая
І непаўторная краса!
Дрыжаць галінкамі бязлістымі
Бярозкі белыя прысад.

Плывуць хмурынкі па-над Прыпяццю,
За пацьмянелы небакрай,
І цішу кратае у прыцемку
Напеўны шум, вятровы грай...

Якою песняй, сэрцам складзенай,
Азвацца мне? Якім з радкоў,
Зямля бацькоў маіх і прадзедаў,
Мая нязгасная любоў?!

Я дaскажу, што недасказана,
Што недапета — дапяю,
Пра лёс твой ясны, лёс твой казачны,
Пра долю светлую тваю!..

Зірні: палошчацца ў крынічаньках
Агнёвакрылая зара,
І вечна юны дзень Кастрычніка
Ідзе ўрачыста па дварах...

І скрозь над роднымі прасторамі,
Па сёлах, людных гарадах
Бушуе алых сцягаў полымя
У маладых яго руках...

Тым зыркім полымем асенены,
Народ мой цвёрда з дня у дзень
З вялікім імем, імем Леніна
Да шчасця ўпэўнена ідзе!

*1962*

# МЫ З ТАБОЙ

Тваім агнём нязгасным свет асвечан,
Твой голас родзіць водгулле наўсцяж!
Усёю сілай думкі чалавечай,
Усёй гарачай сілай пачуцця,
Сваім сумленнем, сэрцам і душой
Мы, Партыя, з табой!

Цвярдзей наш горды поступ год ад году,
Ясней наш зрок, спрытней работа рук!
Ты — плоць і кроў, душа і мозг народа,
Зара надзей, жыцця нястрымны рух!
Паклічаш ты на свята ці на бой —
Мы, Партыя, з табой!

Сэнс існавання, годнасць чалавека
Ты да вышынь нязнаных узняла!
Мы йдзём — і ў твар нам вее вецер веку
Струменнем чыстым сонца і цяпла.
У працы, ў шчасці, ў радасці жывой
Мы, Партыя, з табой!

Пакуль святло лье сонца з небасхілу,
Пакуль сінее неба над зямлёй,
Не разамкнуць ніякім чорным сілам
Табой з'яднаны, непахісны строй.
Нас асяняе сцяг высокі твой,—
Мы, Партыя, з табой!

Няма на свеце справы больш пачэснай,
Як выканаць прадбачанні твае!
Яны, як гук жывы ўрачыстай песні,
З якой у бой люд свету паўстае,
І голас наш грукоча над зямлёй:
Мы, Партыя, з табой!

*1964*

## ЛІДА

Журавы крычаць здалёку
Над зямлёю разамлелай.
Красавік, я чую крок твой,
Неспакойны, захмялелы!..

У нязнанасць далячыняў,
Як калісьці, вабяць вёрсты,
Дзе лятуць на крылах сініх
Маладога часу вёсны;

Дзе набраклі сокам жылы
Ў стройным целе тапаліным,
Дзе з табой мы падружылі
Адвячоркам цёплым, Ліда...

Гул разбуджанай дубровы,
Шчодрым сонцам дзень наліты
Падказалі сэрцу словы
Пра цябе, красуня Ліда!..

З вас ніхто не будзе ў крыўдзе,—
Калі выпадзе прыгода,
Пабывайце, другі, ў Лідзе,
Ліда — мілы слаўны горад!

Ліда стрэне вас па форме
І прыветна, і зычліва,
Канцэнтратамі накорміць,
Пачастуе добрым півам...

Праз Ашмяны, праз Гальшаны,
Міма родных краявідаў
Я імчаўся на спатканне
Да цябе, красуня Ліда!..

Асабліва ў час кіпення
Буйнай квецені вясновай,
Калі дрэвы ў белай пене
Спяць на золаку ружовым...

Асабліва на змярканні,
У разгар вясны пявучай,
Ў пору першага кахання,
Першых кветак і заручын...

Ліда, Ліда!
Мужны горад!
Ты змагла,
і неаднойчы,
Адстаяць і чэсць і гонар
Сілай рук сваіх рабочых.

Гэтай сілай небывалай
Гулка дыхаюць заводы,
Беласценныя кварталы
Вырастаюць год ад году...

Ліда! Ўдалеч толькі гляньце:
Між бярозак беланогіх
Працягнула, нібы пальцы,
Аж ва ўсе канцы дарогі.

Выбірай любую, словам,
Хоць на Гродна, хоць на Вільнюс,
Хоць на Іўе, хоць на Слонім —
Да чаго душа прыхільна!

Толькі я скажу ад сэрца:
Тут пабыў хоць раз калі ты,
Доўга ў памяці не сцерці
Воблік слаўны мілай Ліды!

*1964*

# ПЕТРУСЮ БРОЎКУ

О сіла часу! Хоць бы на хвіліну
Змог чалавек хаду тваю стрымаць,
І вечна юнай далечы вяршыні
Адкрыла б ты яму тады сама...

Калі б... І ўсё ж скрозь тлум жыцця зямнога
Ці раз прарвуцца даўніх пор вятры,
І хоць на міг саступіць час дарогу
Далёкай яве сонечнай пары.

Тады ўспамін бярэ кірунак просты
Ў свет, дзе ўладарка — маладосць сама,
Дзе ёсць цяпло сапраўднага сяброўства,
Дзе месца чорнай зайздрасці няма;

Дзе памяць сэрца светлым адвячоркам
Заслону год пражытых расхіне,—
І ты глядзіш з крутой Сафійскай горкі
На рух плытоў па ўзбуджанай Дзвіне...

Якія воку бачыліся далі,
Святло надзей праз шэры вэлюм хмар,
Дзе ёсць усмешка светлая Купалы
І задуменны Коласаўскі твар!..

Дзе ёсць на грам удачы пуд няўдачы
І першы хлеб, зароблены радком,
Навекі сэрцу мілыя Ушачы,
І ласка маці, і бацькоўскі дом...

...Плыты сплылі. Абрыўкі ж летуценняў
Праз пылу залацістага налёт
Праступяць часам хараством нятленным,
Растопяць крохкі марнаслоўя лёд,

Каб зноў плыла паэзіі паводка,
Дзе бліскаўка сапраўднага радка
Была найдаражэйшаю знаходкай
У трапяткіх ад радасці руках...

О часу ўлада! Усё ў цябе так проста,
А паспрабуй твой лад пераінач!
Вось ты сыходзіш з Бруклінскага моста
Былым хлапцом аднекуль з-пад Ушач.

Чужыя ветры кратаюць нясмела
Срабрысты пыл няшчаднай сівізны.
Ён мроіць: пахне вечар пахам спелым
Наддзвінскай той духмянай збажыны.

Ён мроіць: звоняць чыстыя крынічкі,
Гамоняць дзівы-дзіўныя бары,
І падаюць на дно азёраў знічкі,
Як жнівеньскае поўначы дары...

Там родны дом, усё, што сэрцу міла,
Там цёплы подых росных берагоў...
І льецца ў песню голас мужнай сілы
Пад сінь нябёс айчыны дарагой...

О песня сэрца! Усюды і заўсёды
Яна, як лёс, як неба ў светлы дзень,
Яна сяброўка ў горкі час нягоды,
У пору страт цяжкіх, у дні надзей...

Яна, як сонца першы бляск над светам,
Як першае любові пачуццё...
...Якое ўсё ж ткі шчасце быць паэтам,
Навекі закаханым у жыццё!

*1965*

# ПРАМЕННАСЦЬ

На разамлелы дол зямны,
Зазелянелыя разлогі
Лье шчодра сонца з вышыні
Доўгачаканы дар вясны —
Каскад прамення залатога.

І ад надземных тых дароў
Зямля прыкметна падабрэла
Пад шум разбуджаных бароў,
Пад першы грукат трактароў,
Пад грай грачыны ашалелы.

Мы да яе сваю любоў,
Як слова вернае, стрымалі
Праз гул баёў, праз боль гадоў,
Праз попел, дым, пажар і кроў,
Праз люты гнеў і скрогат сталі.

І мы, хто выжыў і ажыў,
Хто духам вечна неспакойны,
Крычым: спаліце на лаўжы
Сцягі разбою і ілжы —
Зямля стамілася ад войнаў!

Для шчасця створана яна,
І хоць відаць былыя шрамы,
Неперуможная вясна
Ідзе над мірнымі палямі...
Дык ганьба тым, каго вайна
Запляміла крывёй В'етнама!

Спыніце іх, стрымайце іх,
Аброць на іх намордшк, цуглі,
Каб гром бамбардзіровак сціх,
Каб песняй працы для жывых
Зноў шматгалоса пелі джунглі!

Вясна, вясна! Зялёны гуд,
Пралескі першай пах нясмелы!
Вачэй адвесці не магу,
Калі убачу скрозь смугу
Радзімы твар памаладзелы.

Маршчынкі свежых баразён
Не псуюць красы нятленнай.
Затое ў пору жніўных дзён
Яны абернуцца як плён
Багаты, спорны і адменны!

Таму, узрушаны, лаўлю
У ясны дзень на тварах строгіх
Усмешкі сонцу і святлу...
Хай льецца шчодра на зямлю
Каскад прамення залатога!

*1965*

# НАВАГОДНЯЕ

Як ліст апошні
Клён, самотай поўны,
Страсае сам
На ўцеху ўсім вятрам,—
Так год мінулы
Ў снежаньскую поўнач
Злятае прэч
Лістком з календара.

А ў гэты час
Арбітаю бясконцай
Ляціць у стынь
Зямлі нагрэты шар.
І ў кожным з нас
Драбок маленькі сонца
Хавае ўсхваляваная душа!

Ёй трошкі сумна,
Боязна і шчасна
Пераступіць
Часін круты парог
У свет, дзе кліча
Ў новы лёт сучаснасць,
Дзе шмат здабыткаў,
Пошукаў,
Трывог.

Але мігцяць
Іскрынкамі сняжынкі

Ў зыбучым бляску
Жоўтых ліхтароў;
Ідзе Снягурка —
Мілая дзяўчынка —
Наіўным цудам
Даўніны старой...

І Дзед Мароз
З сярэбранае кайстры
Па поўнай жмені зорак
Сыпле ўсім;
І дружны келіх —
Весялосці майстра —
Ідзе па кругу
Гаманлівым тым.

А белы снег
Радзіме лёг на плечы,
Нібы акрыў яе
Пуховы шаль.
Ёй люба слухаць
Гоман чалавечы,
Дзе льюцца песні
І звініць крышталь.

Утульна ёй
Ад нашай цёплай ласкі,
Ад добрых спраў,
Сыноўскае любві.
На вочы ёй
Не ляжа цень апаскі —
Мір і спакой
Чало яе абвіў.

Хай будзе так
На радасць чалавеку:
Віхрыцца ноч

Кружэннем юных пар;
І стрэлак ход
Адмервае паўвека,
І свежы вецер часу
Вее ў твар!

Агонь бенгальскі
Сыпле ноч бясконца,
У змрок ляціць
Зямлі бліскучы шар...
І кожны з нас
Нясе часцінку сонца
Ў сваіх вачах,
Як навагодні дар!

*1966*

# БЕЛАРУСКІЯ ЖАНЧЫНЫ

Не гартаў я фаліянтаў пажаўцелыя старонкі,
Не шукаў пра вас паданняў,
пыл стагоддзяў не страсаў.
Чуў я змалку плач ваш горкі,
чуў я смех ваш срэбразвонкі,
Беларускія жанчыны — неўміручая краса!

Станам — зграбныя бярозкі,
што павыбеглі край руні,
Замест воч — адбіткі неба яснай чэрвеньскай пары,
Валасы — ручайкі лёну,
галасы — напеў шматструнны,
А усмешкі — водбліск ясны санцавейнае зары.

Гордасць, пэўна, узялі вы ў Рагвалодавай Рагнеды,
Дум ясноту Ефрасіння, пэўна, ў спадчыну дала.
Кроў свавольных крывічанак бунтавала вас у бедах —
Пакідалі вы святліцы, бралі ў рукі вы булат.

Нёс тэўтонскі крыжаносец на лязе мяча няславу,
На зямлю славян-суседзяў ваяўнічы рушыў швед —
Адгукаўся Яраслаўне голас цвёрды Гарыславы,
Клікаў віцязяў у бітве затаптаць варожы след.

Крывічоў зямля лясная не скаралася няволі,
Хоць не раз іх род нязломны у пабоішчах палёг.
Паланянкамі былі вы, а рабынямі — ніколі!
Хоць у гневе неразумным адварочваўся Стрыбог.

Колькі вы пакут зазналі —
не зазнаў ніхто на свеце!
Кветкі-браткі — вашы слёзы,
прарасталі па лясах;
Сек няшчадна вам аблічча ліхалеццяў снег ды вецер,
А не звяла, не змарнела ваша гордая краса!

Гнулі спіны вы ў прыгоне, жалі жыта Радзівілам,
Пелі песні немаўляткам пры лучыне ў позні час;
Гадавалі веліканаў, каб дужэў народ-асілак,
Налівалася каб сіла незгінальная ў плячах!

Вы зазналі дым і попел, спусташэнне лютых войнаў,
Хлеб з бядою-лебядою, лёс салдаткі-удавы;
Вы трывожна сустракалі век дваццаты неспакойны,
Не схілялі ў час нашэсцяў непакорнай галавы.

Вам знаёмы кроў і порах, партызанскія сцяжыны,
Помсты жар у сэрцах добрых,
дзе б каханню гнёзды віць;
Вы на смерць ішлі без страху, беларускія жанчыны,
У імя Радзімы светлай, міру, шчасця і любві!

Вы умелі быць гразою. Чырванець умелі ружай.
Рассыпаць дабра алмазы. Карчаваць карэнне зла.
Гэта ваша бессмяротнасць увасоблена ў Харужай,
З вашай мужнасцю Мазанік меч дамоклаў узняла!

Вы — пачатак прыгажосці,
вы — жыцця першапрычына,
Бачу будучыню вашу я ў служэнні хараству.
Я цалую вашы рукі, беларускія жанчыны!
Я схіляю перад вамі ў знак пашаны галаву!

*1966*

## ЯСНАЯ РАНІЦА

Крыштальнай свежасцю кранутая,
з вачамі светла-бірузовымі,
Памаладзеўшая, паружавеўшая,
пахарашэўшая на халадку,
Устань, Айчына, яснай раніцай,
зарой умытая пунсоваю,
Прайдзі сваёй паходкай лёгкаю
па распісным, як шкло, лядку!

Прывець той дзень, што веку зарывам
здаўна адзін з усіх памечаны!
Напоўні алых сцягаў ветразі
дыханнем цёплым навізны!
Каб хваля ўсмешак пракацілася
на крылах шчасця чалавечага
Па-над Палескаю раўнінаю,
па крутаберажжку Дзвіны!

Прайдзі сталічнымі бульварамі
і беласценнымі кварталамі,
Дзе сонца ў вокнах свежавымытых
іскрыць праменнаю ігрой;
Паслухай шэпт лясоў прытоены,
глянь на густэчу руні ўдалае,
На ўсё, што мы з любоўю шчыраю
завём Айчынаю сваёй!

І ў лістападны дзень, напоўнены
ўрачыстым гулам труб мядзяных,

Адчуеш крокі пакарыцеля
    вышынь, глыбінь, зямель і рэк;
Адчуеш дойлідства прыгожасць,
    калі знікаюць рыштаванні,
Адчуеш цвёрды поступ творцы,
    імя якому — Чалавек!

*1966*

# САКАВІК

Сакавік на зыходзе.
Пазвоньваюць кроплі вясны.
І, падталыя, з дахаў жалезных ляцяць ледышы.
Разбіваюцца ў шкельцы
празрыстых драбочкаў яны,—
Воку бліскаўкі сонца
ў крышталіку кожным відны...
Гэта голас вясны —
неспакой і трывога ў душы,
Гэта песня вясны —
крыгаходы Дняпра і Дзвіны...

Сакавік на зыходзе.
Пагульваюць жвава вятры,
Маладыя вятры
маладой і нясмелай вясны.
Гэта чыстае-чыстае
мора блакіту ўгары,
Гэта сінія-сінія,
ў далечы дымнай, бары;
Гэта водар смалісты
ажыўшай пад сонцам вясны,
Аднаўленне
напоўненай таінствам вечным пары.

Сакавік на зыходзе.
Трымценнем залочаных струн
Дорыць сонца праменне
разбуджаным далям зямным.

Сотні сот ручаін
сакавік — журкатлівы пяюн —
Абудзіў да жыцця
і пагнаў іх струменьчыкі ўгрунь;
З плеч атрос цёмны снег,
як цяжкія зімовыя сны,
І шпачыную песню завёў
весялун-гаварун...

Сакавік!..
Прыкладаю руку да вачэй казырком
І ўглядаюся ў твар
вечна юнай нястомнай зямлі,
А над ёю плывуць
белабокія хмаркі гуськом,
І спрабуюць свае галасы берасцянкі крадком,
І асілкі-зубры —
беларускіх лясоў каралі —
Гучна трубяць,
працятыя шалам любоўным суздром.

Адчуваннем Радзімы напоўнены думкі мае,
Прадчуваннем грымот
навальніцы яе маладой;
Сваім цёплым дыханнем мне сэрца яна саграе;
Я вялікай сыноўскай любоўю
жыву для яе,
І ў яшчэ не апераным голлі
яе нерасцвіўшых садоў,
Салавей, што яшчэ не вярнуўся,
мне песню пяе...

Гэта я так спяшаюся жыць.
Абганяе ж мяне,
Нібы пешага коннік,
вялікага часу хада.

Веру я:
залатая дзянніца вясны
не міне,—
Праляціць,
прагрыміць
і ласкава плячо закране,
Скажа ціха:
«Стаміўся, стары?
Аддыхні — не бяда!
Дзён тваіх яшчэ шмат,
не растрачаных марна раней!»
Так і будзе:
зірні,
загаіўшы глыбокі свой шрам,
Каляіны вялікіх шляхоў
пракладае наўсцяж
Віцязь Працы,
што шчыт свой аздобіў адбіткам зубра;
Пурпуровы дыван
яму сцеле пад ногі зара,
і вядзе яго цвёрдай рукою
насупар вятрам
Майстра часу і шчасця —
Вялікі Садоўнік жыцця!

*1966*

# СЕКСТАНТ УЛУГБЕКА

> Рэлігія развейваецца, як туман, царствы разбураюцца, але працы вучоных застаюцца на вечныя часы.
>
> *Улугбек*

Не спакушай,
Цянёк зялёнае веранды,
Збавіцельны кок-чай,
Ратунак — чайхана!
Хай смаліць проста ў твар
Нам сонца Самарканда,
Уразіць позірк наш
Сівая даўніна.

Хай пстрыкаюць цыклопы
Чорных фотакамер,
Пасецца
Інтурысцкі статак
Між руін!
Глядзі і слухай:
Тут гаворыць кожны камень
Глазураю маёлік —
Моваю часін!

Яшчэ не спапяляў
Касцёр Джардана Бруна,
Яшчэ не нараджаўся
Мудры Галілей;
Будзілі час начны
Чароўных чангаў струны,
Ад дзённай спёкі ўсход
Дрымотна ў цемры млеў.

І вёў шаўковы шлях
Далінай Зарафшана
Купцоўскі караван
З Кітая на Басфор...
А неўтаймоўны ўнук
Крывулі-Тамерлана
Падслухваў уначы
Таемны шолах зор.

Абернутай дугой
Нізрынутай вясёлкі
У глыб Чупан-аты
Пралёг яго секстант,
Дзе шыўся шэйхаў шэпт
У душы здрадай колкай,
Аплётваўся маной
Дрымотны Самарканд.

Гляджу на вязь пісьмёнаў —
Зорныя табліцы:
Скрозь вечны рух свяціл
Выразна бачу твар
Таго, хто чад іслама
Мыслі свежай гліцай
Страсаў, каб сонцам ззяў
Зямлі замшэлы шар.

Не Тымурыдаў прах,
Не цень былога веку
Бяруць душу ў палон
Вялікасцю сівой,
А той секстант Фахры,
Што воляй Улугбека
Паміж сямі нябёс
Троп не заблытаў свой.

Паглядам трапяткім
Гляджу на чорны мармур,
Дзе мудрасць паўстае
Бяздоннасці глыбей,
І, ўзрушаны, шапчу:
Ты жыў, мудрэц, не марна,—
Прапраўнук твой вядзе
Міжзорны карабель!

*1966*

# ЧАС

Не капа снапоў —
Гадоў капа.
І з сабой
застаўшыся
Сам-насам,
Адкажы:
Знайшоў ты,
Што шукаў?
Ці заўсёды
Паспяваў за часам?

Ці заўсёды
Быў на вышыні,
Скуль лягчэй
Таго, хто ўнізе,
Спляміць?
Не трывож душы,
З вачэй гані
Пошасць крыўды,
Ўзрушаная памяць!

Зберажы адно,
Што нёс праз лёс,
Праз хрыбты вышынь,
Прадонні, рэкі:
Шчырасць сэрца,
Веры чысты плёс
І яшчэ —
Аблічча чалавека.

Месяц люты —
Месяц завірух.
Першы дзень яго —
Тваё з'яўленне.
Мо таму і сівер —
Лепшы друг,
Памагаты ўсіх зямных імкненняў?!

Не ўвабрала памяць
Фарбы лет,
Бо прыпала перавага зімам.
Між завей
Хутчэй знаходзіў след,
Чым паміж пялёсткаў,
Да любімай.

Мора часу —
З кропелек-хвілін.
У адной з тых кропель —
Атам шчасця.
Паспрабуй знайдзі,
Калі прыліў
Распачне
Ўзбярэжнай галькай шастаць?!

Ты ж знайшоў.
Бо ўзяў не напавер
Песню тую,
Што й дасюль не спета,
Ні радком,
Што лёг у першы верш,
Ні страфой апошняга санета.

Не саліст,
Не «свіст»,
Не вакаліст,

Гучнатрубны,
Ў салаўіным садзе,—
Нёс ты песню,
Як чырвоны ліст,
Што трымціць дрыготка
Ў лістападзе.

Строй радкоў
На лінію агню
Ты вадзіў з сябрамі
Ў год трыццаты
Штурмаваць такую вышыню,
Што падчас
Займала дух зацята!

З імі разам
Гнаў ты музу ў цэх,
Сокамі зямлі
Паіў у лузе;
Слоў пялёсткі,
Як ружовы снег,
На дарожку сыпаў
Добрай музе.

«Дзе вы, дру́гі,—
Клічаш,—
Дзе, браты?
Аднадумцы
Тых гадоў далёкіх?»
Мо й табе
Да канцавой вярсты
Час адмераў скупа
Жменьку крокаў?

Так ці йначай
Прысягаў: «Люблю!»,

Хоць не быў
Залётнікам ці фатам.
Скаланалі ў тыя дні зямлю
Навальніц далёкія раскаты.

З імі ў такт
Грымелі цягнікі,
На паўночны ўсход
Кацілі колы.
З церняў плёў
Дваццаты век вянкі
Тым,
Хто больш не вернецца ніколі!

Ты ж застаўся
Да канца ў страі,
Плоць ад плоці
Сын зямлі бацькоўскай,
Каб вярнуцца ў сад,
Дзе салаўі
Вучаць песням
Юных падгалоскаў.

І хоць сцюжай
Доўга быў прыкут
Да зямлянкі мёрзлай,
Да барака,
Музу ўсё ж
Трымаў на ланцужку,
Хоць, вядома,
Муза — не сабака!

Хай слухмянай
Будзе й надалей!
Ўсё ж
Не размалёваная краля!

Людзям ад паэзіі цяплей.
У паходзе,
Ў працы,
На прывале.

Людзям
Ад паэзіі святлей —
Прэч збягае
Адзіноцтва прывід.
Родных слоў
Струмень празрысты лье
Голас песні,
Што душой не крывіць!

Несучы яго
Насустрач дню,
Хоць ты сам
Даўно ўжо не язычнік,
Пакланяйся век
Таму агню,
Што навечна распаліў
Кастрычнік!

*1966*

# ДЗЕНЬ НАСТУПНЫ



## ДЗЕНЬ НАСТУПНЫ

Я прадбачу прыход твой,
Мне рысы твае, сэрцу мілыя,
Свецяць раннем празрыстым,
Адценнем высокіх шырот.
І раскутая думка ляціць,
Лёгкавейная і шпаркакрылая,
Да шматлюдных кварталаў,
Што ўзняты кіпучаю сілаю,
Да ажурных тых шыбін,
Дзе дождж веснавы
Барабаніць, як шрот...

Да цябе, Дзень Наступны,
Скіраваны думкі, надзеі і помыслы.
Жураўліным ключом
Шалясцяць нашых дзёрзкіх задум пасланцы,
Што лунаюць над жоўтым палеткам,
Над нафтавым промыслам
У гадзіну, як ноч над зямлёю
Закіне сузор'яў каромыслы
І па зорцы блакітнай
Павесіць на кожным канцы...

Я чакаю цябе, Дзень Наступны,
З трывогаю светлаю нейкаю.
Ясны твар твой не засціць
Шумлівых турбот мітульга...
Я не сплю,
Я ўглядаюся ў вочы твае
З мігатлівымі вейкамі —
Бачу вобраз Радзімы,
Вясну
І таполі з лісточкамі клейкімі...
І тады нараджаецца верш,
Дзе напяты радкі,
Як стракатых вясёлак дуга...

І тады небасхіл,
Разатканы па сіні
Аздобаю зорчатай,
Асвятляецца бляскам маланкавым
Тысячавольтных вачэй;
І ўступае у сілу жыцця
Чарадзейства вялікае
Працы і творчасці;
І нязрушная веліч прадбачання
Ленінскай зоркасці

Палымнее над векам суровым
Ста сонцаў ярчэй!

Жарам сэрцаў сваіх
Растапляем мы нетры прамёрзлыя,
З непадатных парод
Высякаем мы россып алмазны кайлом!
І ўцякаюць пачвары,
Што ўчора драпежнай звярынаю мордаю
Выскаляліся злосна,
Напалмам пустэльні ствараючы мёртвыя
Там, дзе сонца нядаўна
Над вечназялёнай зямлёю плыло!

Веру я, Дзень Наступны,
Ты прыйдзеш для шчасця,
Вялікай надзеяй асветлены,
Перашкоды змятаючы прэч
Непахіснай рукой,
Падстаўляючы сонцу гаючаму
Твар свой абветраны,—
Бо заве цябе воляй нястрымнаю,
Ласкай прыветнаю
Неперсаможная сіла
Любові людской!

*1967*

# СОНЕЧНАСЦЬ

Добра лёгкім надыхацца ўдосталь
Перамытым дажджамі паветрам!
Добра спраўдзіць сатканыя сцюжай
Прадчуванняў зімовыя сны!
І адчуць, як бягуць легканогія
Трапяткія вясновыя ветры
Лашчыць грыўкі зеленатравыя
Маладой легкадумнай вясны...

Ах, красуня! Гамонку ўзнаўлення
Чую ў срэбры тваіх ручаінак!
І навострана вока на цуды,
І на дзівы настроены слых:
Ажываюць ад сонечнай ласкі
Мірыяды іскрынак-расінак,
Мірыяды раслінак-травінак,
Мірыяды лічынак малых...

І над тым ізумрудным разводдзем,
Дзе разбуджаных нетраў дыханнем
Уздымаецца цёплая пара
Ад вільготных узораных скіб,
І над тым шклобетонным калосам,
Дзе лягла прамізна скрыжаванняў,—
Раскалолася зыркая сонечнасць
На праменьчыкі ўсмешак людскіх...

Той зямной пекнатой дух працяты
Акрыяе, уражаны раптам,

Ад цяпла на душы загрубелай,
Ад святла ў пацьмянелых вачах!
Ён пакліча у далеч паходаў
Па нязведаных сонечных трактах,
Дух вандроўны няўтольных шуканняў,
Што да сівых гадоў не ачах...

Крылы ўзяць бы ў юнацтва на шчасце
Для палёту арлінай дарогай,
Скуль відаць, як на цёплай далоні,
Ўся залітая сонцам зямля!
Глянеш проста ў людскія аблiччы —
І мякчэе іх выраз нястрогі;
Глянеш вышай — расчэрчвае неба
Рэактыўнага следу пятля...

Так і трэба! Вясна, гулкім рэхам
Поўні вушы, і душы, і сэрцы
Тым, хто створан для міру і шчасця,
Для адвагі, для працы, для ўцех!
Хай растуць толькі кветкі і злакі
Для працягу жыцця, а не смерці,
Хай растуць толькі травы і дрэвы,
Хай цвітуць толькі песні і смех!..

*1967*

# ВЯСНА МАЛАДОСЦІ

Я чую ўсім сэрцам
прыход твой, жаданая госця,
Лаўлю тваю ўсмешку,
трымценне заранкі ў вачах,
Вясна аднаўлення,
вясна залатой маладосці,
З красою-касою,
з праменняў заплеценай проста,
На зграбных, нягнуткіх
пакатых дзявочых плячах!

Уся ты ў абноўках,
сатканых з пярэстых вясёлак,
Ў маністах азёраў,
у стужках завілістых рэк,
Уся ў аксаміце,
што сцелецца рунню па долах,
З брывамі чарнявых бароў
і мігценнем павек
Ідзеш ты, як пава,—
і ўсё ажывае наўкола...

Ідзеш —
і прыветна схіляе зялёнае веццe
Танклявых бярозак
крыху сарамяжлівы гурт,
І штосьці нашэптвае вербам
задуманы вецер,

І краскі вітаюць чмялёў барытонавы гуд,
І песня твая разлятаецца рэхам па свеце...
Вясна маладосці!
На сонечна-сінім узмежку,
Як помнікі часу,
мы памяць аб тых збераглі,
Хто паў у баях,
хто прайшоў партызанскія сцежкі,
Каб ты маладою красуняй
прайшла па зямлі
Раздорваць
святлістага шчасця праменныя ўсмешкі!..

Твой поступ спакойны
назад аніхто не паверне,
Хоць гул навальніц
далятае аднекуль з-за хмар,
Хоць зброяй пабразгвае хтось
ваяўнічы празмерна...
Растуць на зямлі веліканы
з драбнюткага зерня,
Паўвека назад
што пасеяў народ-гаспадар!

Вясна маладосці!
У крузе сяброўскім і цесным
Вітаюць цябе
і юнак і стары ветэран,
І ў гонар табе
узлятае арліная песня,
Зганяючы прэч
чорнай змовы атрутны туман,
Каб чыстым было над Радзімай
тваё паднябессе!

*1967*

# БЕЛАРУСЫ

А хто там ідзе, а хто там ідзе
у агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах,
на руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.

*Янка Купала*

Над горадам вецер асенні гудзе,
Барвянай зарою займаецца дзень...
А хто там, а хто там, а хто там ідзе?
— Ідуць беларусы!

Паўвека ўрачыста адмервае час
З той даты, калі пад сцягі Ільіча
У бой за свабоду плячо да пляча
пайшлі беларусы!

І крыўду, што гнула людзей да зямлі,
Кастрычніцкім ветрам навекі змялі,
Каб з гэтай часіны назвацца маглі
людзьмі беларусы!

А хто там ідзе ды ў такой грамадзе,
Хто песняй і меддзю аркестраў гудзе,
Дзе месца няма ні бядзе, ні нудзе?
— Сыны Беларусі!

Устань жа, паэт, мудрым вокам зірні:
Ты сны аб Камуне трывожныя сніў,—
Ярчэюць яе залатыя агні
па ўсёй Беларусі!

А хто там ідзе? Чуеш гучны адказ:
Ідзе шматмільённы рабочы клас,

Каму падуладны Наступнага час
зямлі беларускай!

Ён шчасце нясе, а не крыўду [illegible] бядой,
На плошчы, на вуліцы сёл, гарадоў,
У кожны, асветлены радасцю, дом
зямлі беларускай!

А хто там ідзе з наднямонскіх нізін?
З-пад пушчаў палескіх,
наддзвінскіх раўнін?
Прапраўнук Скарыны? Заслонава сын?
— Народ Беларусі!

Народ, што на бітву з фашызмам паўстаў,
Што меч грознай помсты высока трымаў,
Што мужна стаяў, што грудзьмі адстаяў
зямлю Беларусі!

А хто там ідзе ў алым моры сцягоў?
Шахцёр? Нафтавік? Пакарыцель палёў?
Вучоны ці воін?
— Мільёны сыноў
зямлі беларускай!

А хто на чале тых мільёнаў ідзе?
Хто ў заўтрашні дзень іх да шчасця вядзе?
Як зваць тых нязломных і простых людзей?
— Іх зваць — камуністы!

*1967*

# ЧАСУ ПОСТУП

*Паэма*

1

Без пыхі выслоўяў квяцістых
Вядзі мяне, светлы ўспамін,
У дні залатога дзяцінства,
У далеч дзівосных былін.
Там золкі пылок папялісты
Хаваў ад вачэй далягляд,
Там сыпаў барвянае лісце
Узвівам вятроў лістапад.
Начамі там гулкія крокі
Будзілі дрымоту дамоў,
Ружовіў пажар там аблокі;
І рэха гарматных грамоў
Звінела ў задымленых шыбах...
І ўздрыгвала глуха зямля,
Адчуўшы аддалены выбух,
Каб сціхнуць ізноў спакваля...

2

Быў вечар той золкі нязвычна,
Гудкі даляталі здалёк.
Стаяў над зямлёю кастрычнік,
Павейваў з Нявы халадок...
І раптам з туманнай прасторы
Прамчалася вестка, як гром:
Раскацістым залпам «Аўроры»
Быў свет скалануты суздром.
Тым залпам, што грознай навалай
Ад берага шэрай Нявы

Да цёмных рабочых кварталаў
Нёс Леніна голас жывы...
Будзіў ён адвагу у сэрцах,
Распальваў надзею ў вачах.
Стагоддзям ніколі не сцерці
Тых слоў агнявых Ільіча!

3

Лілася праменная дэсань
Скрозь голле каштанаў на брук...
(Было мне ў семнаццатым дзесяць
І быў я гарэза-хлапчук.)
Я бачыў, як мора людское —
Салдаты, народ майстравы —
Да плошчы Саборнай былое
Плыло па завулках крывых.
Агністыя словы Дэкрэта
Грымелі над морам галоў:
«Ўся ўлада у рукі Саветам!»,
«Крывавую бойню далоў!»
Прамовы да позняе ночы
Ліліся па Мінску старым:
«Салдат, селянін і рабочы —
Свабодныя з гэтай пары!»

4

О поступ падзей навальнічных!
(Ты, памяць, мне збіцца не дай!)
Ішоў па краіне Кастрычнік,
Ды хмары збірала бяда:
Ізноў пад размераны грукат
Паўзлі эшалоны на ўсход,
Загрукаў абцасам па бруку
Нямецкі падковісты бот...

І толькі ад гэтай навалы
Ачысціўся родны прастор,
Як зноў па-над ім «Ожэл бялы»
Драпежныя крылы прасцёр...
Радзіма, Радзіма, хто змерыць
Цярпенне народа твайго,
Яго непахісную веру,
Суровую мужнасць яго?!

5

Аціхлі грамы нечуваных
Крывавых і жорсткіх баёў.
Заззяла ў агнях Асінстана,
Як сонца, аблічча твае...
Радзіма, красой небывалай
Ты зноў ажыла, расцвіла,
Сыноў пасаджала к штурвалам,
На вышкі будоў узвяла.
І тым, хто так шмат гора вызнаў,
Аддаў сваю кроў і свой пот,
Адкрыла ты даль камунізма
У бляску наступных яснот!
Ні змовы чужынцаў, ні звады
Кірунак не збочылі твой,
Ты стала квітнеючым садам,
Зямля Беларусі маёй!

6

У росквіце сілы юначай
З мігценнем блакітных вачэй
Ты нас благаслаўляла на ўдачы,
Ты ззяла што дзень, то ярчэй!
Свяціла чароўнаю зніччкай,
Што чэрціць бліскучы свой шлях,

Бо даў табе сілы Кастрычнік,
Свабоднай Радзімы зямля!
Ён партыі воляю цвёрдай
Адольваць цвярдыні вучыў,
Ён даў нам і сілу, і гордасць,
Ад шчасця людскога ключы;
Бо мэта, што вызначыў Ленін,
Дзе мудрасці з мужнасцю сплаў,
Не меркла ў вачах пакалення,
У сэрцах гарачых жыла...

7

Мы з ёю спускаліся ў шахты,
Вялі скрозь ільды караблі,
Трымалі ударныя вахты,
Прабурвалі тоўшчы зямлі;
Ўзляталі ў надхмарныя высі,
Паклады шукалі ў гарах,
Хоць вораг драпежнаю рыссю
Затойваўся ў цёмных кутках.
Выношваў ён план «Барбароса» —
Крывавы паход на Усход,
Пачвара з фашысцкае бросні —
Агіднае нечысці зброд.
Мы пільна стаялі ў дазоры
У спёку, у слоту, у стынь,
І ярка Кастрычніка зоры
Мігцелі над намі з вышынь.

8

І вось надышла навальніца...
Як з неба бясхмарнага гром,
Вайны ненажэрная жрыца
Зямлю скаланула суздром.

Які ж ты характар, Радзіма,
Дала сваім верным сынам,
Каб чорнаю тою гадзінай
Не здужаў і д'ябал іх сам!
Якую жалезную волю
Ўзяла ты сабе за раўню,
Каб горкую долю адолець,
Каб выйсці
жывою з агню!
Скаваная мукай пякельнай
На вогненным страшным крыжы,
Ты выйшла
з сутычкі смяртэльнай,
Каб зноў будавацца і жыць!

9

Ты доўга адплаты хвіліну
У сэрцы сваім берагла.
І вось у разбітым Берліне
На ганак рэйхстага ўзышла,
Каб ідал вайны і разбою
Зляцеў безгаловы на жвір,
Каб ярка гарэла жывое
І вечна жаданае:
«Мір!»
Хто меч свой падняў, той пагібель
Сустрэў ад мяча.
Толькі ты
Над прахам паўстала багіняй
Суровай сваёй праваты!
І вораг схіліўся ў пакоры,
Нізрынуты воляй тваёй,
Каб ззялі
Кастрычніка зоры
Ярчэй над прыціхлай зямлёй!

## 10

Мой горад — дзяцінства калыска,—
Чым стаў ты, разбіты нашчэнт?
Руіны і вогнішчы Мінска
Курыліся дымам яшчэ,
Калі на расчыстку ад друзу
Ўзняліся стары і малы,
Каб вырасціць першую ружу
На месцы бульвараў былых;
Каб зноў узняліся кварталы,
Праспектаў шырокіх разгон,
Каб светлых палацаў парталы
Бялелі красою калон.
Каб шчасце адолела гора
І прывід мінулага знік,
Каб ззялі Кастрычніка зоры
Над намі ярчэй з вышыні.

## 11

Радзіма!
Любоўю народнай
Паўвека мы плоцім табе.
Паўней яна рэк мнагаводных,
Яна акіянаў глыбей!
За цёплую ласку ў гадзіну,
Што сэрца сціскала ў журбе,
За мужнасць у бітве, Радзіма,
Мы плоцім любоўю табе!
За тое, што строгай рукою
Ты нас ушчувала не раз,
Што чыстай сваёю красою
Рабіла чысцейшымі нас!
Адмервае час паўстагоддзя
Хады пераможнай тваёй.

З народам заўжды
і ў народзе
Была ты ў шарэнзе адной!

12

Сучаснік мой юны, паслухай,
Як коціцца рэха здаля,
Як долу зялёнае вуха
Прыклала да неба зямля.
Што чуецца ёй? Агнявыя
Старонкі паданняў сівых?
Кастрычніка крокі жывыя?
Ці поступ гадоў баявых?
А можа, у часе нятленным
Ёй чуецца: з браневіка
Гаворыць з народамі Ленін,
Кідаючы выклік вякам?
Спыніся, мой юны сучаснік,
Хвілінку адну памаўчы:
Ты чуеш? Паэма аб шчасці
Ў тых ленінскіх словах гучыць!

*1967*

# ВОЛАТЫ

Рэкі часу шмат падзей праneслі
У прасторы вечнасці сівой.
Толькі след, што геніем пракрэслен,
Не згасае ў памяці людской.

Паўтара стагоддзя... Пыл завейны
Успамін не змёў з замшэлых пліт:
Нарадзіўся хлопчык дзесь за Рэйнам,
Той, што ўзняўся волатам з зямлі.

Той, што рос, дужэў пад небам чыстым
І, ўвабраўшы гора ўсіх вякоў,
Стаў на свеце першым камуністам,
Страсянуўшы сон мацерыкоў...

З тых часін няма такога месца,
Дзе б над морам гора і тугі
Агнявыя словы Маніфеста
Не крышылі рабства ланцугі.

З тых часін пад гул набатны маршаў,
І не зданню — яваю жывой,
Узнялі нашчадкі Карла Маркса
Камунізма сцяг па-над зямлёй.

Сцяг, што нашай Партыяй узняты
З ленінскіх бацькоўскіх цвёрдых рук,
Сцяг, з якім няволі казематы
Нішчыць волі сакрушальны рух.

Сцяг, што люд склікае з гор і долаў,
Што вядзе дарогай агнявой
Ад в'етнамскіх джунгляў да Анголы
У астатні і рашучы бой!

Тым байцам маланкі значаць вехі,
Веюць ласкай ім віхур вятры.
І грыміць баёў наступных рэха
У пунсовых водблісках зары.

Разгінае ім свабода плечы,
Свет стары ляціць старчма у прах!..
Веліканы думкі чалавечай —
Маркс і Ленін — ім адкрылі шлях!

*1968*

# АБНАЎЛЕННЯ ВЕЧНЫ СКАЗ

Ціха, ціха!.. Спудзіць можна
Хрустам тонкага лядка
Поступ лёгкі, асцярожны
Юнака-сакавіка...

Гэта ён мільён іскрынак
Сыпануў па шаране,
Гэта ён пад грай грачыны
Запрашэнне шле вясне.

Гэта ён спакус падманку
Сінню-просінню з нябёс
Кінуў раптам на палянку,
Дзе ў начлезе быў мароз.

Каб, паверыўшы прагнозу,
Страсянуўшы зімні шал,
Беланогі гурт бярозак
Выбег з лесу на прагал...

Ціха, ціха!.. Каб няўрокам
Не спужаць жартаўніка!
Хай праменных блікаў крокі
Значаць шлях сакавіка!..

Хай вясновых дзён развоем
Сцеле час раскрутак свой:
Прагне сонца ўсё жывое
На зямлі заўжды жывой...

Вось чаму так сэрцу мілы
Санцакрылы сакавік,
Першы птах на небасхіле,
Жураўліны першы крык...

Вось чаму так сэрцу дораг
Першы гоман ручаін,
Шарпаку шурпаты шорах,
Шэпт разбуджаных ялін,

Гамана бароў Наддзвіння,
Наднямоння перазвон...
Гэта ўсё мая Радзіма
Атрасае зімні сон!..

Гэта ўсё мая Радзіма —
Беларуская зямля,
Пух страсае лебядзіны
З плеч азяблага галля!

Мне б глядзець — не надзівіцца
На яе прыгожы твар:
Хоць паўвека маладзіцы,
А ў вачах маланак жар...

Мне б служыць — не наслужыцца
Ёй, абранніцы маёй,
Ці жняцом у спелым жыце,
Ці на поплаве з касой!..

Толькі выпала мне шчасце
Быць да скону песняром,
Да крыніц яе прыпасці,
Сок гаючы піць нагбом!..

Быць у песенным палоне,
Вартавым у хараства...

На расквечаным улонні
Алы золак пільнавацъ...

А пакуль яна абновы
Тчэ ў праменную парчу,
З капяжом сакавіковым
Голас сэрца спалучу...

Хай спявае пад сурдзінку
Абнаўлення вечны сказ,
Каб не засціла хмурынка
Юны твар сакавіка!

*1969*

# МОЙ ГОРАД

## ВЯЧЭРНІ МІНСК

Калі загараюцца ў горадзе родным агні
І мякка кладуцца на сцены яго светацені,
Я Час заклікаю: вярні,
хоць на момант вярні
Стракаты ўспамін
у ружова-праменным спляценні!

Па-даўняму на паваротах скрыгоча трамвай,
Блакітныя іскры выкрэшвае сіні тралейбус,
І спіць, не паспеўшы пажоўкнуць,
у парках трава,
Дзе снег прыцярушыў
яшчэ не застыўшую глебу...

Мой горад!
Суровай і строгай твая прыгажосць
Стваралася ў дні,
калі памяць вайны не астыла.
І камень твой кожны
любоў саграваla, не злосць,
І сонца Наступнага з кожнае шыбы свяціла.

Мой горад,
паклаўшы на сэрца руку, я скажу:
Памножыўшы веру і мужнасць
на гарт і адвагу,
Ніхто з нас не кляўся
ні кнігам святым, ні крыжу,
Каб вернасць табе захаваць,
як пад сцягам прысягу!

Праз бедствы ваеннай разлукі
з нас кожны пранёс
Нязменнасць пачуццяў,
высокай любові гарэнне,
Каб шчасцем вяртання,
як токам працятым наскрозь,
Шчакою прыпасці
да цёплых ад сонца каменняў...

Як з попелу казачны птах,
ты узняўся з руін
Да светлых вышынь,
перамытых праменным разводдзем,
Каб люд разнамоўны
з далёкіх ці блізкіх краін
Нямеў ад здзіўлення —
кім стаў ты за чвэртку стагоддзя!

Я ведаў калісьці і ведаю гэта цяпер:
Цябе я не ўслаўлю
радком сваім сціплым і сціслым.
А ўсё ж запаветнаму слову паэта павер,
Хай шчырасць прызнання
падслухае ціхая Свіслач:

Я твой з нараджэння,
ўлюбёны ў цябе старажыл,
Твой муляр,
Што ўклаў не адну ў твой падмурак цагліну,
Каб пыл руйнавання пракляўшы,
ты тройчы ажыў
Ва ўсім харастве і ва ўсёй прамізне
строгіх ліній...

Калі загараюцца ў горадзе мілым агні
І блізіцца поўнач, я Часу нагадваю часта:

Старонку жывую пражытага дня адгарні,—
Хай, сонцам заліты,
дзень заўтрашні свецідца шчасцем!

## ГУБЕРНАТАРСКІ САД

*Памяці І. Пуліхава*

Губернатарскі сад.
Духавыя аркестры.
Трубным голасам стогнуць
Палкавыя басы.
Звон малінавы шпораў
І букецік пярэсты
Беласнежных паненак
Кісейнай красы...
Губернатарскі сад!
«Уваход забаронен
Для сабак і салдат»
(І для чэрні любой!)...
Далятаюць званы
Дзесьці з Плошчы Саборнай —
Кат Курлоў едзе ў сад
У карэце сваёй...

Яшчэ стрэлы расстрэлу
Ў сэрцах — спуджаным рэхам
І на вулічным бруку
Не высахла кроў,—
У расквечаны сад
Для пацехі-уцехі
Едзе царскі сатрап —
Губернатар Курлоў.

Гнеў рабочы, каб мог,
Нечысць гэтую змёў бы,

Утапіў бы ў гразі,
Каб не пэцкаць ваду...
І студэнт малады
Самаробную бомбу
Безразважна шпурляе
Ў брыду на хаду...

Памяць, востраю будзь,—
Не забудзь свайго сына,
Што задушан пятлёй
На варотах турмы!..

. . . . . . . . . . .

На прыцішаны парк
Вечар лёг цёмна-сіні,
І агні пагасілі гіганты-дамы.

Горад спіць.
Горад будняў і вечнае славы,
Што за дзевяць вякоў
На калені не стаў,
Каб з натхнення і працы —
Цудоўнага сплаву —
Харашэць і сталець
Непахісным, як сталь.

Льецца мякка святло
На граніт абеліска.
Ля падножжа,
Як сімвал бяссмерця,—
Агонь.
Дзень наступны ўступае
На вуліцы Мінска,
Золак сцягам чырвоным
Вітае яго.

## МОЙ ДОМ

Мой дом стаіць на вуліцы Купалы,
На беразе няшпаркае ракі,
Дзе нізка вербы да вады прыпалі,
Дзе за акном лунаюць галубкі.

Дзе я з паверха пятага, як вязень,
Палоннік вечны рыфмы і радка,
Гляджу на кроны стогадовых вязаў,
На снег, што лёг на парк,
нібы паркаль...

І бачу я, падняўшы, як забрала,
Тугую штору над сваім акном:
Ідзе з кійком па вуліцы Купала
У невялічкі свой драўляны дом.

Непадалёк, не больш за два кварталы,
Ён пад таполяй, у густым садку,
Той мілы кут, дзе жыў калісь Купала,
Дзе салаўіны спеў будзіў раку...

Вось узышоў ён на каменны ганак,
Зірнуў наўкол, зірнуў і не пазнаў:
Ружовым птахам б'ецца ў вокны ранак,
І вочы слепіць снегу белізна...

І дом не той, няма старой таполі,
І паясней нібыта далягляд,
І з барэльефа ён глядзіць, як колісь,
На малады ў сняжынках срэбных сад...

І ўсё, чым жыў калісьці, жыў і марыў,
Як у чароўнай казцы ажыло:
Вунь за ракою падпірае хмары
Ажурнай вежы вострае стыло;

Вунь бераг дружна гмахі абступілі,
Зарэчных хатак знік пахілы строй...
«Народзе мой, дзе ўзяў ты столькі сілы,
Каб гэта ўсё стварыць сваёй рукой?!»

Ён так сказаў? А можа, мне здалося?
Адно здаецца — ісціну знайду:
Былое тут з цяперашнім злілося
У сугалоссе здзейсненых задум!

*1970*

# ПАМЯЦЬ

Дарога памяці пад ногі не кладзецца
Праспектам людным, дзе ў вітрынным шкле
Мінулае сучасным адаб'ецца,
У вечаровым прывідным святле.

А можа, памяць — позняя дажынкі,
Дзе страты — бы ў іржышчы каласкі?!
Ці ў пыл сухменю ўпаўшыя дажджынкі?!
Ці ліст, сарваны ветрам, трапяткі?!

А можа, памяць — ціхі закавулак?!
Зарослы сад, акацый жоўты цвет?!
Цень адзіноцтва, роздуму прытулак?!
Калейдаскоп пражытых зім і лет?!

А можа быць — крынічка-ручаінка
У шапатлівым ніцым лазняку,
Што ў спёку у збавіцельным цяньку
То прападзе, то выпаўзе змяінкай,
Луской бліснуўшы ў залатым пяску?!

Не. Між пачаткам і канцом дарогі
Над быстрынёй гадоў кладзе наўпрост
Людская памяць, як канструктар строгі,
У дзень наступны свой ажурны мост.

Я ўдзячны ёй, што праз сатлелы прысак
Былых пачуццяў цепліць аганёк,
Дзе свеціць вобраз з мілых сэрцу рысак,
Што побач, тут, зусім непадалёк...

О маладосць! Я твой іrрысты трунак
Калісьці піў без роздуму нагбом.
Ты цэлы свет дала мне ў падарунак,
Калі над светам першы грымнуў гром.

І так ці не, а шчодрым тым багаццем
Распарадзіўся шчыра, як умеў:
Набудаваў паветраных палацаў,
Панасадзіў навокал райскіх дрэў...

І хоць не раз у тым вялікім руху
Старчма ляцеў у бездань з вышыні,
Прайшоў я пеша скрухі-завірухі,—
Не на ружовым праскакаў кані!

Час, не крыўдуй! Праз пушчы, багны, горы,
Дзе мацярык ад сцюжы камянеў,
Як свой, пранёс я твой высокі гонар
У той, не вельмі цёплай старане...
Там, на ускрайку сушы, белы горад —
Вазьмі яго на памяць аба мне!

Я твой паэт. Не першы з гучнай плоймы,
Без лаўрэацкіх метак на грудзях,
І не патрон з чыноўнае абоймы,
Дзе размяркован талент па чынах...

Будзь да канца са мной, сяброўка-памяць,
Нібы крышталь гранёны, чыстай будзь!
Хай крыўда нават века не захламіць,
Калі мядзяна трубы загудуць!

*1970*

# ПЕРШЫ СНЕГ

## ПЕРАДЗІМОВАЕ

Яшчэ не снег — пароша толькі,
Яшчэ далёка да каляд,
А твар кусае вецер золкі,
І лёдам скута каляя.

Адбітак колаў між калдобін
Змяёй паўзучаю пралёг,
І дрэвы ў срэбранай аздобе —
Нібы завей сівых пралог.

Так міла ўсё: і адзінота,
І гэта царства цішыні,
І шэпт засохлага чарота,
І пад лядком усплёск крыніц,

І прэлы ліст асіны горкай,
Ледзь прыцярушаны сняжком,
І след вяртлявае вавёркі,
І апусцелы дзятлаў дом...

Іду, мінаючы прысады,
Між дрэў бязлістых і нямых.
Бярозак белых каланада
Вядзе ў чароўны храм зімы.

Вядзе у свет забытай казкі,
У свет прыгод, дзівос, падзей,
Дзе ходзіць борам без апаскі
Даўно забыты Берандзей...

О свет наіўных уяўленняў,
О рамантычны дзіўны свет!
Лаўлю ўспамін, нібы алені
Па першазімку лёгкі след.

І не дзіўлюся анікольні
Прыкметам блізкай даўніны,
Калі убачу ў шэрым золку
Аблічча роднай стараны.

Калі ў застылых каляінах,
У грудах рунное раллі
Убачу мілыя маршчыны
Маёй карміцелькі-зямлі.

Калі ў вачах маёй Айчыны
Убачу водсвет дабраты,
Душой спасцігнуўшы прычыны
Яе высокай прастаты.

Калі ў прасторы безбярэжным
Убачу, паланёны сам,
Як свеціцца ў кароне снежнай
Яе нятленная краса!

## СНЯЖЫНКІ

Ляцяць сняжынкі, быццам успаміны
Маланкай перакрэсленых гадоў:
Над Бурхалою белыя вяршыні,
Запевы прыіскоцыя гудкоў.

Там не сняжынкі, там пурга бушуе,
Снег замятае стылыя гальцы.
Там грэў кастром азяблую душу я,
Каб не аддаць у бездараж канцы.

Там друг жыве. Нямеючы ад смагі,
За дваццаць зім мы многа вёрст прайшлі...
На горных рэках нам грымелі драгі
Найвесялейшай музыкай зямлі.

Гады сяброўства — гэта не аднінак
Кароткіх стрэч: «Здароў — бывай здароў!»
Іх не купіць за жменю залацінак
І не прадаць за ломкі хруст рублёў.

Яны пякельнай сцюжай гартаваны,
Дзе сопкі-сведкі строіліся ў рад,
Калі жывую здань палярных ззянняў
Выводзіў снежань моўчкі на парад.

І вось цяпер сняжынкі успамінаў
Скрозь забыцця залочаны пылок
Ляцяць, ляцяць заснежанай далінай
Туды, дзе ў тундру дружбы след пралёг.

І бачу я: друг Саша, нібы маг той,
Знікае горда ў чэраве зямным,
Адкуль на белы свет з глыбіняў шахты
Плывуць вагонкі з грунтам залатым.

Бог кубажа, падземных нетраў знаўца,
Маркшэйдэр шахт, ён нёс тэадаліт,
Як булаву Багдан. Такіх, прызнацца,
Жыве не вельмі густа на зямлі.

Цяпер на дзікім тым мерыдыяне
Агні эпохі плавяць лёд і стынь.
І голас дружбы кліча на спатканне —
Яшчэ пуд солі з'есці хоць адзін.

Што адкажу? Нас — ты ды я — адзінкі.
Дык прылятай на «ІЛе» ці на «Ту»,
Пакуль зімы сівенькае сняжынкі
Не пабялілі скроні на ляту!

## ПЕРШАЗІМАК

Ну вось і скончан доўгі паядынак.
Вятроў гамонка сціхла. Лес у сне.
Скупое сонца ў безлічы іскрынак
Адлюстраваў сцюдзёны першы снег.

Як дабяла адмытая бялізна,
Лягла на дол сняжынак белізна.
І сонца шар халодны і вялізны
Зямлі нямой нібыта не пазнаў.

Стаю адзін, як слуп на скрыжаванні.
Скрозь белы сон
лаўлю нясмелы гук
І множу слодыч радасных спатканняў
На гаркату няпрошаных разлук.

Хто пераможа? Як забыты здымак,
Уваскрашае памяць гэткі ж дзень:
І цішыню, і снег, і першазімак,
І на ружовым снезе сіні цень...

І ў сэрцы рэха той адной хвіліны,
Што белым крыллем высака ўзнялі
Пірамідальных елак верхавіны,
Узвышшы заваражанай зямлі...

І ўсё, ў чым бачыў змест,
і сэнс, і сутнасць,
Чым так юнацтва ўмела даражыць,

Я пеpажыў, як і тваю адсутнасць,
І як сваё падзенне пеpажыў...

І за гады, што слухаў крокаў гукі,
Што рэха іх лавіў сто раз на дню,—
Я навучыўся быць глухім да стуку,
Я навучыўся слухаць цішыню.

Вось і цяпер я немасці ў абдымкі
Душу і памяць сэрца аддаю,
Няхай сабе па чыстым першазімку
Кладуць сцяжынку роўную сваю.

*1970*

# ЖЫВЫ СЯРОД ЖЫВЫХ

## 1

Вятроў павеўных з поўдня подых цёплы,
Уздых зямлі, абуджанай ад сну,
На залатых ствалах жывіцы кроплі,
Нібы вясны аздобы з бурштыну;

Птушыны хор — лясоў рознагалоссе,
Гул крыгалому, раніц халадок,
Усё ў адну сімфонію злілося,
Усё сплялося у адзін клубок.

Зямля гудзе. Зямля пяе ўрачыста,
Як песню песень, гучны гімн жыццю.
Не дасць спачыну поступ той вячысты,
Не дасць дарогі памяць забыццю.

Бо ён жыве жывы ў душы народа,
Не волат з казкі, а звычайны, свой,
Суздром зямны, надзелены ад роду
Арлiным вокам, яснай галавой.

Таму, прайшоўшы тракты крыжавыя
Праз прах і попел, едкі дым вайны,
Мы з ім гаворым, як з жывым жывыя,
У светлы поўдзень сотае вясны.

І праз напевы — спевы веснавыя,
На міг спыніўшы неўтаймоўны час,
Мы чуем крокі Леніна жывыя,
Мы чуем родны голас Ільіча.

2

Вось мы ідзём па ўскрайку катлавана
З табой, равеснік мой немалады,
Зірні: тут заўтра ўстануць веліканы
З бетону, шкла. І тыя гарады

Заселіць густа племя маладое,
Што не гарэла ў вогнішчы вайны,
Што з першых дзён не зналася з бядою,
Што не насіла плям чужой віны.

Яму жывецца весела, прасторна,
Яму глядзіцца смела ўдалячынь
Ці то з крутых вяршынь высакагорных,
Ці то з палескіх пушчаў і нізін.

І хтосьці з юных позірк мімалётны
Прыпыніць, можа, ўбачыўшы ў кутку
Музейны скарб — забытыя палотны:
Кубанку-шапку, маўзер на баку,

Тачанак лёт, віхор у конскіх грывах,
Прабіты сцяг над конніцаю той,
Дзе ўсё — імпэт адзінага парыву,
Дзе ўсё — рашучы і астатні бой.

Дзе мы праз дым, праз далі агнявыя,
Праз гучны кліч гарніста-трубача
Пачулі крокі Леніна жывыя,
Пачулі родны голас Ільіча.

3

Свет цішыні не знаў яшчэ ніколі,
Нібы вулкан жывы, ракоча час.

Па ўсёй планеце бой вядзе за волю
Народ усіх краін, плямёнаў, рас.

Гудзе зямля. І полымя напалму
Драконаў свой высоўвае язык
Сям-там, дзе цуд зямны — жывыя
пальмы —
Дзіцячы ловіць прадсмяротны крык.

Ці там, дзе рве блакіт Міжземнамор'я
Атрутны дым разбойнае ганні,
Ці там, дзе Крыж паўднёвага сузор'я
Глядзіць, як тонуць астравы ў агні...

Але стаіць, нібы уцёс, Гавана,
І ўзняў В'етнам высока алы сцяг,
І дзень ірдзее над далінай Збанаў,
І спяць тайфуны ў зарасцях трысця.

Дарма трасе падземны гул Неваду,
Дарма рве нетры скуты вадарод,
Зямля гудзе — ніхто не дасць ёй рады,
Ні бог, ні цар; адзін герой — народ!

І дзе б ні ўзняў ён роты баявыя,
І дзе б ён бой апошні ні пачаў,—
Ён чуе крокі Леніна жывыя,
Ён чуе родны голас Ільіча.

4

Шырокі свет. Даль тоне ў дымцы сіняй.
Свой ясны твар падставіўшы вятрам,
Усмешку шле краса зямлі — Расія,
З касою русай большая сястра.

А там, дзе стэп у марыве дыміцца,
Абвіўшы стан істужкаю Дняпра,
Плячо ў плячо з малодшаю сястрыцай
Ідзе Украіна — родная сястра.

Тры маладзіцы, тры сястры-славянкі,
У крузе ўсіх дванаццаці братоў,
Яны ідуць шчасліва сінім ранкам
Да вышыні няскораных хрыбтоў.

Вядзе іх той, хто парадніў навечна,
Хто іх з'яднаў у дружную сям'ю,
Той, перад кім схіляе чалавецтва
У знак павагі галаву сваю.

Той, перад кім раскрыты нашы сэрцы,
З кім кожны дзень мы раімся ва ўсім,
Хто сам, прайшоўшы цераз грань
бяссмерця,
Напрамак верны паказаў жывым.

Таму ў дні свят і ў будні баявыя
Па ім звяраем мы заўжды свой час,
Бо чуем крокі Леніна жывыя,
Бо чуем родны голас Ільіча!

*1970*

# НАВАГОДНІ ТОСТ

Новы год. Пасцяліце абрус ільняны.
Стол застаўце віном і закускай.
Так гаворыць нам звычай сівой даўніны,
Так гаворыць абрад беларускі.

Мы шануем яго з незапамятных дзён,
Звычай той неўміруча-вячысты.
Падыміце кілішкі. Курантавы звон
Новы год абвяшчае ўрачыста.

Новы год. Хай пасыпана снегам зямля,
Быццам хлеба акраец пасолен.
Новы год. У наступнае значыцца шлях,
Працярэблены цвёрдаю воляй.

Новы год.
        Дзень пабольшаў на жменьку хвілін —
На гадок век магутны пабольшаў.
Поўны сіл хай па бацьку раўняецца сын,
Хай за бацьку не будзе ён горшы!

За старога, за справы яго — першы тост,
За знаходкі яго і здабыткі,
Што да заўтрашніх дзён перакінулі мост
Над ракой векавечнасці плыткай...

Тост другі мы падымем за мужны народ,
Што не быў і не будзе пакоран,
Што ўздымае да сонца і захад і ўсход,
Што святлом камунізма азоран.

За Радзіму і Партыю трэці наш тост,
За адзіны іх поступ нязменны.
Хай няспынна вядуць пакаленні наўпрост
Той дарогай, што вызначыў Ленін!

...Б'е дванаццаць гадзін.
Ціхавейны сняжок,
Быццам белы пушок, крые голле.
Свет узрушаны слухае ўпэўнены крок —
Году новага поступ вясёлы.

І ў чаканні цяпла, і ў чаканні вясны
Ў навагодняй заснежанай стыні
Пахне хлебам зямля, а не дымам вайны,
А не попелам горкім Хатыні.

Пахне хлебам зямля ад такоў, ад кашар,
Ад камор, ад напоўненых клецей.
І хвалюецца шчасцем Радзімы душа —
Шчасцем самым вялікім на свеце!

*1970*

## КАМУНІСТЫ

Гучных слоў непатрэбна.
Няхай прагучыць не ўрачыста
Дзелавая размова
спакойных руплівых людзей.
У нязведаны свет
пракладаюць шляхі камуністы,
І зямля ад вялікага зруху трывожна гудзе.

Бой за шчасце людское
ідзе па гарачай планеце —
Камуністы наперадзе. Так павялося здаўна,
Калі бліснула першай маланкаю
першая ў свеце
За народнае шчасце
пад сцягам свабоды вайна.

Гучных слоў непатрэбна.
У лічбах спакойнай размовы
Веліч планаў, як вежа,
расце да нязнаных яснот,
Бо жыве ў кожным з нас
Ільіча запаветнае слова,
Што вяло першы трактар
і першы вядзе луназод.

Гучных слоў непатрэбна.
Жывуць не для гучнае славы
Камуністы —
праходчыкі новых вышынь і глыбінь.

Хай грукочуць гады,
як на стыках цяжкія саставы.
Дні лятуць, як вятры
за абшыўкай касмічных кабін.

Чым вышэй наш уздым
на вяршыні дваццатага веку,
Чым далей між халодных сузор'яў
лятуць караблі,
Тым жывецца смялей, спакайней,
шчаслівей чалавеку,
Бо за шчасце людзей
бой вядуць
камуністы зямлі.

Вось і сёння са мной
па алеі геройскага Мінска
Ты прайдзі, мой сучаснік,
пагодлівым сонечным днём
Пакланіцца
суровай і мужнай красе абеліска,
Нахіліцца чалом
над нязгасным
і Вечным агнём.

Ты прайдзі да зялёнае хаткі
над Свіслаччу-рэчкай,
Скуль пачатак узяў
вечнай плыні нястрыманы рух.
Не, ніколі, ніколі
не кануць ні ў Лету,
ні ў вечнасць
Тых імёны,
хто першы
запалку падносіў к кастру.

Тых імёны,
хто стаў да канца непахіснай скалою
Бараніць сваю маці
ад нечысці чорнай ганні,
Хто прыпаў да грудзей
яе кроўю палітага долу,
Хто застаўся ў абдымках
халоднай яго цішыні.

Памяць строгая,
будзь спадарожнікам сэрца вячыстым!
Свежы вецер эпохі,
у нашыя ветразі дзьмі!
Ёсць адзін абавязак
і права адно ў камуніста:
У рабоце, ў бядзе, у баі
першым быць між людзьмі!

Праз дрымучасць мінуўшчыны —
спадчыну цёмную веку,
Праз саваны і джунглі,
праз зарасні нетраў лясных
Пракладаюць у заўтрашні дзень
залатую прасеку
Камуністы пяці кантынентаў —
народа сыны.

Трэба ўсюды паспець —
будзь то цэх ці прастор каласісты.
Ці крывавых змаганняў далёкі рубеж
агнявы,
Бо жыве неспакоем
заўсёды душа камуніста,
Бо завешчан яму
ад Кастрычніка дух баявы.

Гучных слоў непатрэбна.
Адолены шлях камяністы.

Гмах вялікіх здабыткаў
вышэй узлятае штодзень.

У нязведаны свет
пракладаюць шляхі камуністы,

І зямля ад вялікага зруху
трывожна гудзе.

*1971*

# СВАЯ ПАРА

Свая пара ўсяму.
Свая пара
Зялёнай рамантычнай маладосці,
Што, ветразі падставіўшы вятрам,
Шукае у ружовых далях штосьці.

Свая пара ўсяму.
Свая пара
Вандроўкам па заснежанай Сібіры,
Гаворкам задушэўным ля кастра
І птаха пералёту ў цёплы вырай.

Свая пара ўсяму.
Свая пара
Ўспамінам пра ваенныя дарогі,
І смутку па загубленых сябрах,
І радасцям вялікай перамогі.

Свая пара ўсяму.
Свая пара
Хвіліне найшчаслівшай незваротнай,
Калі старое прэч ідзе з двара,
Каб новаму пастукацца у вокны.

Свая пара ўсяму.
Свая пара
Ўзысці на запаветныя вяршыні,
Каб, сцяўшы дух, зірнуць, як лье зара
Спакой і сон на мірныя хаціны.

Свая пара ўсяму.

Свая пара

Дайсці да нешматлюднага паўстанку

І думаць, што вячэрняя зара

Бок адваротны алага світанку.

*1971*

## ПРАДЧУВАННЕ

Свет красавіцкай повен цішынёю,
Таемнасцю доўгачаканых змен.
Мінуўшы раўнадзенства веснавое,
Як плынь паводкі, прыбывае дзень,

Пранізлівай сінечай каб выростаць,
Рассоўваць гарызонта берагі
І набрынялы след расталай ростані
Губляць у шызым прыцемку смугі;

Каб чуць і бачыць ноччу: голас трубны,
Ласіны след, як конаўку з вадой,
Туманаў зябкіх белы сырадой,
Вандровак дальніх заклік вабна-згубны...

Зародак дня, на хвойніку настоены,
Як гонка гоніш ты у плоць і кроў
Дух прадчування, што-да часу стоены
Сном трапяткім сярэбраных бароў!..

Ах дух бунтарскі — веснавое ззянне! —
Штодзень круцеюць сонца віражы,
І стрэхі плачуць светлымі слязамі,
І ўсе званчэй лапочуць капяжы.

І ты шырока расчыняеш дзверы
У новы свет і сонца і цяпла
І верыш птаху кожнаму і зверу —
Любоў зямная на зямлю прыйшла!

Прыйшла, каб шлюбным шалам свет напоўніць.
І ты, ўлавіўшы той нячутны шум,
Імкнешся сам, як шпак сваю шпакоўню,
Хутчэй ачысціць ад грахоў душу!

*1971*

* * *

Есть за плечами песни два крыла...
*М. Дудзін*

Без крылаў песні не ўзляцець высока.
Рупліва ёй збіраць зярняткі слоў
На глебе той, што ад гнязда два крокі,
Дзе перлы ісцін пылам занясло.

Бяскрылай песняй іскры не запаліш,
Што палкай думкай сэрца апячэ,
Што шугане ў задымленыя далі,
Што чысцінёй крынічкі працячэ.

Няхай душу нянавісць не спустошыць.
Пакуль жыве ў грудзях твая любоў,
Хай лёгкай стане зноў цяжкая ноша —
Гарачы сплаў пявучых звонкіх слоў.

Ты кажаш: шмат вулканаў не адкрыта
Пад важкім спудам цвёрдае кары,
Яшчэ зямля пажарамі спавіта
І дым смуродны сцелецца ўгары...

Што ж? Час вялікіх змен на строме веку
Не толькі ружы шчасця дорыць нам,
Ёсць горкасць страт, што не загояць лекі,
Хавае памяць іх глыбокі шрам...

Тваё ж аблічча хай гады не старацъ,
Няхай не гасне ў зрэнках ясната,
Пакуль жыве ў радках жывая мара
І думкі трапяткая прастата.

Вер часу: глупства мудрых не скасіла,
Са сцежкі яснай зайздрасць не звяла...
Ёсць таленту збавіцельная сіла,
Ёсць за плячамі песні два крыла!..

*1971*

* * *

*Multum ex parvo, parvum ex multo**
*Лацінскае выслоўе*

З дробнага вялікае, дробнае з вялікага —
Вось ён існавання пакручасты ход!
Але вечна жыць жывому, што заклікана
Весці ў свет Наступнага чалавечы род.
Хоць зямля варожасцю на́двае расколата
І крывёй гарачаю збарваваны дол,
А жанчыны кволыя нараджаюць волатаў,
Рушыць дух адзінства ў наступ на раскол;
А блакітны сон нябёс, дажджамі вымытых,
Скаланае гул нябачаных ракет;
А з людское волі, нібы з бронзы, выліты
Веку дваццаць першага бачыцца макет.
З дробнага вялікае, дробнае з вялікага:
Бліскавічны след — жыцця кароткі шлях.
Так з вышынь надмесячных
забаўкаю-бліскаўкай
Астранаўту бачыцца Матухна-Зямля!
Чалавечы дух ні з чым не суразмерны,
Ён з драбніц стварае валатовы гмах
Будучыні той, што з нашым часам зверана,
Што з хвілін народжаная зажыве ў вяках.
У малым вялікае ўбачыш толькі розумам,
Створана вялікае з дробных велічынь,
Бо раджаюць шолахі навальніцу грозную,
Бо ствараюць кроплі акіянаў плынь!

*1971*

---

* Multum ex parvo, parvum ex multo — дробнае з вялікага, вялікае з дробнага.

* * *

Праз лабірынты кручаныя часу
Выходзь на мяккі бераг цішыні.
Бур свістапляска толькі улеглася,
Касым дажджом абмыты камяні.

Стой і маўчы, аддаўшыся спакою,
Пракляўшы слоўны блуд і сумятню!
Тут свет напоўнен велічнай красою,
Тут запускае ветрык пяцярню

У грыву лесу. Пошчак салаўіны
Тут рве развагі лагічнасць у шматкі.
Тут не шукай прычыннасці прычыны,
Атросшы поціск «сябравай» рукі.

Час ціхамірны, бэзавым настоем
Паі душу, лячы ад той маны,
Што, як іржа, кладзецца тонкім слоем
З непаказной, з нябачнай стараны!

Гасі, паўзучы морак, рэшткі барвы,
Хай растае яе апошні блік
І выплывае, нібы зух той бравы,
Навечна развянчаны маладзік.

Абмераны, абмацаны, двухрогі,
Саромячыся ўласнай галізны,
Ён знікне ўраз. І моўчкі ля парога
На лапы цемры сніць начныя сны

Прыляжа ноч. Ноч міру і спакою.
І толькі гулка дзесьці ўглыбіні
Ўсё будзе біцца вечнае, жывое
Зямное сэрца ў клетцы цішыні...

*1971*

# Я ГЭТЫ ДЗЕНЬ ПЯЮ...

Каторы раз, каторы раз
Я гэты дзень пяю,
Як нараджэння светлы час,
Як маладосць маю!
Каторы раз, каторы раз,
Суняўшы сэрца бой,
Я паўтараю дзіва-сказ,
Падказаны табой!

І, заварожаны красой,
Дзіўлюся сам не свой,
Як ты хусцінкай снегавой
Прыкрыла твар і строй,
Як раскаціў туман сувой
Па руні маладой,
Як пурпуровай мітульгой
Кіпіць сцягоў прыбой,

Як роўна дыхаеш, зямля,
Аддаўшы ўсё спаўна
За пот, за рукі ў мазалях,
За працу дацямна!
І чую я: гудзе здаля
Басовая струна —
Святочны голас узняла
Людская гамана...

Каторы раз, каторы раз
Нясу я песень дар

У гонар твой, рабочы клас,
І твой — зямлі ўладар!
І тым, хто ўзняў высока нас
Да серабрыстых хмар,
Тым, хто пранёс праз бурны час
Агнёвых сэрцаў жар!

Хвала табе, братоў хаўрус,
Што не разліць вадой,
Што злучаны ў адзін саюз
Дзяржаўнаю рукой!
Гадоў пражытых цяжкі груз
Ты з гонарам пранёс,
Змяшаўшы тых у прах і друз,
Хто нёс нам рабства лёс!

Закон сяброўства, век жыві,
Свой круг шырокі множ!
Хай высахнуць сляды крыві,
Забойца кіне нож!
Цану сяброўству і любві
Праверыўшы ў агні,
Мы клічам: прэч, крывавы вір,
Прэч, чорны цень вайны!

След рэвалюцыі на ўсім,
Жывы, гарачы след,
І там, дзе войны сцелюць дым,
І дзе праз мора бед
Ідуць народы шляхам тым,
Што наш народ праклаў.
О свет стары, дрыжыць пад ім,
Гарыць пад ім зямля!

Гудзе хай восень на дудзе,
Шумяць дажджы ў двары,—

Услаўце, людзі, гэты дзень
Кастрычніцкай пары!
Услаўце, людзі, гэты дзень,
Бо час, абмыты ім,
На цэлы век памаладзеў
У поступе сваім!

Каторы раз, каторы раз
Душа мая пяе,
Калі ў перадсвітальны час
Зямля ад сну ўстае,
Калі аркестраў гром ураз
Над плошчамі плыве...
Хай гэты дзень і гэты час
Над вечнасцю жыве!

*1972*

# ПРЫГАЖОСЦЬ

Прыгажосць!
Глянь у вочы
Заснежанай далечы —
Час нібыта
Аблiччам сваім пасвятлеў.
Бляск ліхтарны зайграў
У сняжынак крышталіках,
І растаў,
І прапаў
У бялявай імгле...

Ах ты, сцюжная ноч,
Гул жыцця несціханы
Снежным пухам табе
Не прыкрыць на зямлі!..
Студзень месяц,
Ты госць
Пачынанняў жаданых,—
Веру светлую ў заўтрашні дзень
Пасялі!

Свет стары насцярожаны.
Лаваю льюцца
Шквал вялікіх баёў,
Штормы грозных падзей:
Маладыя вятры
Маладых рэвалюцый
Веюць алым прадвеснем
І ўночы, і ўдзень!

Хай жа сэрца зямное
Стрывожана б'ецца,
Галасамі змагання
Урачыста гудзе!..
Скажам шчыра, сябры,
Нам не кепска жывецца,
Дык працягнем руку
Тым, хто сёння ў бядзе!

Хай зімовым паветрам
Напоўняцца грудзі.
Час, на новыя подзвігі
Нас асяні!
Хай на ўсіх кантынентах
Работныя людзі
Не пабачаць
Злавеснага ценю вайны!

Сыдзе з твараў хай выраз
Турботны і строгі,
Радасць хай пераступіць
Праз кожны парог!
Хай былыя гады,
Як слупы ўздоўж дарогі,
Стануць сведкамі
Нашых цяжкіх перамог!

Нам нямала прыпала
І поту, і працы,
Толькі мы ад тых спраў
Падужэлі ў плячах!
На трыбунах планеты
Пад буры авацый
Голас Партыі нашай
Не раз прагучаў,

Каб зямлю адагрэла
Чаканай адлігай
Сонца дружбы і міру,
Што мы узнялі,
Каб халоднай вайны
Разламаныя крыгі
У нябыт забыцця
Назаўсёды сплылі!

Хай святляк-маладзік
Па сасёнках ды ёлках
Сее срэбраны пыл
Між маўклівых палян,
У шчаслівых вачах
Хай зайграюць вясёлкі,
Хай спачне
Ад натужнае працы зямля!

Хай пуховай хусцінкай
Сагрэе ёй грудзі
Легкадумных сняжынак
Павольны палёт...
Прыгажосць,
Спадарожніцай будзь добрым
людзям,
Што за мір на зямлі
Выйшлі ў новы паход!

*1974*

# ОДА ЗЕМЛЯРОБУ

На дол,
Яшчэ па-вераснёўску цёплы,
Хай сцеле восень
Туманоў сувой...
У шэпце
Кожнай дажджавое кроплі,
Зямля мая,
Мне чуцен голас твой!

Ці ў зарапад,
Ці ў мокры пошум ветру,
Скрозь прозалаць
Таемнасці лясной,
Відаць,
Як праступае вобраз светлы
Красы непараўнальнае тваёй!

Твой сон уяўны
Строкат мерны будзіць
Там, за узгоркам,
Дзе ляжыць папар...
Скажы, зямля мая,
Калі б не людзі,
Хіба б не спаў
Сном мёртвым твой абшар?!

За твой давер
Хіба не шчодра плоціць
Той род,

Імя якому — ЗЕМЛЯРОБ?!
Хто ў потны прыпар
Або ў зябкай слоце
Ідзе у бой
За кожны спелы сноп!

Няшпаркіх дум яго
Увасабленне —
Бязмежных ніў
Залатаспелы плён,
Блакіт ільноў,
Садоў плоданашэнне,
Пераўтварэння
Велічны разгон!

За дар,
Здабыты працаю няспыннай,—
За хлеб духмяны й цёплы
На стале,
Работны люд
Працоўнае краіны
Вам, земляробы,
Оду славы шле!

Хвала і гонар
Вашаму умельству,
Рукам руплівым,
Характву душы,
Вам, хто спасціг
Зямное чарадзейства,
Хто ўзняў наш век
Да ззяючых вышынь!

Дабра і шчасця
Вам, зямныя людзі,—
Майстры жыцця,

Работнікі зямлі!
Няхай удача
З вамі ў дружбе будзе,
Хай працы вашай
Будзе плён вялік!

*1974*

# СТО САНЕТАЎ



## ПАЭЗІЯ

Хай будзе так, як хочаш ты таго,
Маёй душы пявучая вясянка!
Да сініх гор, далёкіх берагоў
З табой хадзіла песня-паланянка.

Хадзіла, пела. Я сябе ўсяго
Аддаў табе з юнацтва на заранку.
Айчыне-маці сэрца нёс агонь,
Як нёс яго свайму народу Данка.

У ёй гайдаўся Ціхі акіян,
Шумеў Дняпро, шаптаў дрымучы Нёман,
Грымеў абвал у скалах Верхаян...

Яе ствараў народ мой, а не я,
Гарэннем працы творчае натхнёны.
Вось там з табой пасябраваў і я!

*1956*

# ІРОНІЯ

Яна — палын і мёд, асы укус,
Знішчальны смех, ратунак ад маразма.
Хто не спытаў хоць раз яе спакус
Яшчэ з часоў Бакаччо і Эразма?

Яе палохаўся ў сутане хлус,
Была яна Сервантэсу прыязнай,
Ёй Шэрыдан служыў. Баварскі хлюст
Згінаўся, біты гейнэўскім сарказмам.

Была яна найлепшаю з уцех
Для Гогаля, смяяцца й нам не грэх,
Пракладваючы ў будучыню сцежку

Да ясных дзён паміж высокіх вех...
Хай будзе бацькам ёй іскрысты смех,
А мацеркай — вясёлая усмешка!

*1956*

## МУДРАСЦЬ

З гадамі мы да дзей сваіх стражэй.
Да мудрасці нялёгкая дарога.
Той яснасць вока й думкі зберажэ,
Каму ў жыцці зазнаць прыпала многа.

Перад аблiччам праўды не салжэ
Агнём загартаваны розум строгі.
Таму і дня святло мне даражэй,
Чым першай квадры водбліск срэбрарогі.

У ясны дзень ступіў на ганак твой,
Хаця пяскамі, каменем, жарствой
Мае ў дарозе доўгай ногі збіты.

Не клянучы цяжкое рамяство,
Тваіх крупінак зыркіх хараство
Прыберагу, як дарагі здабытак!

*1956*

## ВЕРНАСЦЬ

Ты пабыла ў чысцілішчы агня,
Ты спрабавана цвёрдай сталлю часу,
Ты — праўды пульс жывы, а не хлусня,
Аздобленая таннаю прыкрасай.

Адзін цябе на дабрабыт змяняў,
Другога ты сама ў свой час зраклася.
Ты маладушным зроду не радня,
Ты мужных сэрцам гонар і акраса.

З табою мы здружыліся даўно,
З табою разам бралі перашкоды,
З табой і ў цемры нам было відно.

Цяпер, прайшоўшы слоты і нягоды,
Я аддаю цябе свайму народу,
Як сейбіт глебе чыстае зярно.

*1956*

# ДРУЖБА

Яна — апора духу і рукам,
Яна — глыток вады ад горкай смагі.
Ёй не да твару слоў бліскучых хлам,
Дзе заклінанні, клятвы і прысягі.

Глыбокай раны загаіўшы шрам,
Яе здабылі мы цаной адвагі,
Дзе хлеб і соль дзялілі папалам,
Дзе начавалі пад адной сярмягай.

На полі ратным я яе спаткаў,
Аглушаны грымот вялікім гулам,
Ад краю бездані на паўвяршка.

Як пробліск дня у цемнаце кутка,
Мяне суровай ласкаю кранула
Яе шурпатая і мужная рука.

*1956*

# МУЖНАСЦЬ

Не там яна, дзе напралом грудзьмі
Ты, кінуўшыся ў пекла небяспекі,
Свой лёс даручыш выпадку на міг,
Каб існаваць пасля і душой калекі.

Не. У бядзе ты з мужнасцю прымі
І роспач мук, і смерці страх, і здзекі,
Каб, выжыўшы, высока між людзьмі
Ты годнасць нёс байца і чалавека.

Страх — маладушша вырадак. Гані
Прэч ад сябе яго, як цень сумнення,—
Дух мужнасці гартуецца ў агні!

Жыццё зямное — непаўторны дар,
Дзе кожны дзень — і творчасць, і натхненне.
Над ім не ты — народ твой гаспадар!

*1956*

## ЛЮБОЎ

Хто б ты ні быў і хто б ты ні была,—
Ты з ёю не пазбавішся спаткання.
Ёй век гарэць і не згарэць датла,
Ёй век цвісці, не знаўшы адцвітання.

Такою ты ў душы маёй жыла
І будзеш жыць без болю нараканняў
За тое, што так шмат дала святла
У змроку шматгадовых вандраванняў.

І будзеш жыць зайздросніцы на злосць,
Якой імя — гадоў сівая немач,
Як гаспадыня сэрца, а не госць.

Ты — пакаленняў новых буйны рост,
Напеў нязгаснай чалавечай тэмы,
Вясна жыцця і часу маладосць!

*1956*

## ХАРАСТВО

Блакітнай хвалі несціханы бег
На берагі ў смарагдавай аправе...
О Нарач! Сэрца я прынёс табе,
Валодаць ім — тваё сягоння права!

Па-над абрывам схіленай вярбе
Штосьці шэпчуць сарамлівыя купавы,
Вяслом кранае воблака грабец,
Глядзі: кране і сонца неўзабаве!

Я ўпершыню вітаюся з табой,
Я першы раз красы твае прыгубіў,
Суняўшы сэрца гулкі перабой!

І я дзіўлюся, як у вечным шлюбе
Пясчаных берагоў сухія губы
Цалуе хваляў ранішні прыбой...

*1956*

# СЛАВА

Купала! Смутак, радасць, жаль і гнеў
Узняўшы да магутнае актавы,
Народа сын народу песні пеў
І тым здабыў любоў яго і славу.

Не, нездарма аддаў усё, што меў,
Каб свет стары зышоў са светлай явы:
На новай ніве буйны ўзрос пасеў,
На лузе скошаным высокая атава.

Мы голас твой высокай чыстаты
І рысы роднага твайго аблічча
Руплiва зберажом для юных тых,

Хто смела йдзе да вышыні вялічнай,
Каго жыццё да яснай мэты кліча,
Каму аддаў душу і песню ты!

*1956*

# ЖАДАННЕ

Іх многа. Я прыберагу адно,
Калі ў грудзях жаданням стане цесна:
Хачу, ў магутным хоры каб чутно
Было маю ўстрывожаную песню.

Яна прайшла пякучае гарно,
Жыла са мной адна ў глушы бязлеснай.
Яе народу я аддаў даўно —
Яшчэ ў гады прадбур'я і прадвесня.

Няхай радкоў расплаўлены свінец
Сугуччам часу, ладам думкі строгай
Заўсёды будзе ў сэрцы палымнець!

Я абышоў зямлю з канца ў канец
Таго жадання дантавай дарогай,—
Так загадаў гадоў сівы мудрэц!

*1956*

# ПЛОШЧА

Тут плошча міру. Сэрца свету тут.
Адсюль бяруць пачатак веку даты.
Тут генія грабніца. Два салдаты
Застылі нерухома на пасту.

За імі Крэмль — людскіх надзей вястун,
Цвярдыня міру, вораг войнаў клятых.
Адсюль праклаў Ільіч у час крылаты
Да камунізма першую вярсту.

Таму сюды, як з горных ручаін,
Людскі паток са ўсіх зямных краін
Ракой жывой сцякаецца бясконца,

З'яднаны тым, хто над смутой часін
Адкрыў шляхі ў такую далячынь,
Дзе людзям вечна свеціць шчасця сонца!

*1960*

# РУХ

Хіба ж можна сонца рух спыніць?
Часу вечны бег спыніць ці ж можна?
Так вясна, не знаючы граніц,
Па зямлі ідзе неперваможна.

Веку рабства так ідзе канец,
У агні змагання ўся планета.
Вось чаму савецкі пасланец —
Госць жаданы простым людзям свету.

Праз агонь і смерць, праз дым і кроў
Рвецца сталь іржавых ланцугоў,
Будучыня свеціць Чалавеку.

Гэта з вамі, люд мацерыкоў,
Мовай праўды, мовай простых слоў
Размаўляе сёння мудрасць веку!

*1960*

## СЛОВА

Быццам плынь утаймаваных рэк
Прыпыніла раптам рокат бурны.—
Узышоў рабочы чалавек
Пад высокай столлю на трыбуну.

Без шырокіх жэстаў, ад душы,
З аганьком трывалага запалу
Льюцца словы... І такая шыр
Раптам уварвалася у залу!

Быццам вецер будучыні ўнёс
На праменным крыллі светлы лёс,
Што яшчэ не сніўся чалавеку.

Гэта мовай простай і зямной,
З кожнай чалавечаю душой
Размаўляе сёння мудрасць веку.

*1960*

# ПРАМЕТЭЙ

Ноч. Нацэліў вока тэлескоп
У таемны змрочны твар Сусвету,
Дзе, як сімвал часу, ў зорны скоп
Іскаркай зямной ляціць ракета.

І прыціхла здзіўлена Зямля,
Быццам ёй не спіцца ноччу гэтай,
Быццам ёй на вуха Млечны Шлях
Шэпча запаветныя сакрэты.

Сарамліва знік замшэлы бог,
Склаўшы скіпетр, бо ўстаяць не змог
Супраць сілы Творцы-Чалавека.

Так рукамі дзёрзкімі людзей
Раскаванай думкі Праметэй
Пазнае і творыць мудрасць веку.

*1960*

# ЗАПАВЕТНАЕ

Не хараством для хараства жыве душа паэта,
Бывае часта хараство бяздушным і пустым.
Так я шукаў яго ў табе. І не знайшоў. Паўсвета
Я абышоў, каб зноў прыйсці, хоць не чакала ты.

І стала радасна душы, што спозненае лета
Былых пачуццяў шчэ не ўсе асыпала лісты,
Што след забыты хараства знаёмаю прыкметай
Ізноў вярнуўся і ажыў у цёплых стрэчах тых;

Што запаветны чысты скарб растраціць не паспела
Для выпадковых тых, хто быў таварышам на час,
Што зерне дробнае ўзышло і коласам даспелым

Ва ўсёй прыгожасці сваёй вярнулася да нас...
О маладосць мая, калі б ты зберагчы умела
Пачуццяў першых чысціню і сэрца першы сказ!..

*1960*

# АГАНЁК

Заўсёды так было і так заўсёды будзе:
На тое сонца ёсць, святло каб вечна ліць,
На тое ёсць зямля, каб працавітым людзям
Разумна авалодаць скарбамі зямлі.

На тое нам жыццё ўдыхнулі маці ў грудзі,
Цаной жыцця бацькі да шчасця нас вялі,
Каб з працы і турбот звычайных нашых будзень
Мы будучыні гмах высока ўзнялі.

На тое ты жывеш, каб мне на светлым шляху
Самоты і журбы ніколі не спытаць,
Каб у душу не ўпоўз вужака слізкі страху,

Каб лёгкаю была нялёгкая вярста...
На тое аганёк гарыць пад мілым дахам,
Каб мог я на яго па шчасце завітаць...

*1960*

# ЦІШЫНЯ

Да рэшты цішынёй напоўнена імгла,
Між гор ляжыць туман на дне глыбокай чашы...
Калі б у гэты час са мною ты была,
Адчула б, як пяюць трывожна сэрцы нашы;

Адчула б, як і я, што створан не для зла
Сын веку на зямлі, а для зямнога шчасця,
Дзе радасцю быццяя напоўнен кожны злак,
І свет жывых істот, і безліч зор вачастых...

Таму заву цябе на гэты пір маўчання,
Стань поплеч і глыбіні хараства пазнай!
Зірні: зара кранула неба сіні край,

Цалуе вусны ветраў цёплае дыханне...
З вялікіх таямніц зямнога існавання
Ты лепшую вазьмі і лепшую аддай!

*1960*

## СУСТРЭЧА

На беразе крутым вялікаснай Даўгавы,
Дзе певень тры краіны ўраз будзіў калісь,
Страчалі мы сыноў балтыйскае дзяржавы,
Страчалі мы сяброў латвійскае зямлі.

Здавалася, журчалі хвалі мора справа,
А злева задуменна шумы пушч плылі,
Здавалася, стралкоў латышскіх вечнай славай
І славай партызан шумелі кроны ліп...

А з захаду плылі ў высокім небе хмаркі,
Свяціла шчодра сонца восеньскім святлом.
З паэтамі вялі калгасныя даяркі,

Як між старых сяброў, гаворку за сталом...
Быў той саюз мацней за сталь вышэйшай
маркі —
Бо пачуццё братэрства гарт яму дало...

*1960*

## ЗАПАЛ

Запал тварэння — самы лёгкі груз,
Хоць стома разліваецца па целе.
Яшчэ ляжыць пясок, і жвір, і друз,
А сцены гмаху ўвышыню ўзляцелі.

І той, хто ў мур паклаў апошні брус,
Глядзіць з вышынь у далячыні смела.
Быць можа, так спасціг азарт спакус,
Жыццё ўдыхнуўшы ў мармур, даўні элін.

Так раздаецца свет удаль і ўшыр
Хвілінамі, гадзінамі, вякамі,
Рукамі тых, хто лёс людзей вяршыць,

Хто шчасце творыць генія рукамі,
Хто укладае ў шэры мёртвы камень
Гарэнне сэрца і запал душы.

*1960*

# ПАВЕРКА

Старэем мы. Свой след кладзе няшчадны час
То попелам валос, то ценем пад вачамі.
Хачу свой век дажыць у часа на вачах
З адкрытаю душой, з нягнуткімі плячамі.

Нялёгка караблю на вечны стаць прычал,
Прывычнаму страчаць
шаленства хваль грудзямі.
Такім, пранёсшы груз нялёгкі на плячах,
Хачу ў страі стаяць байцом паміж байцамі.

Калі пастроіць час — суровы камандзір —
Нас, радавых салдат, на страявой паверцы,
Як статут палявы гаворыць, пад ранжыр,

І як на службе той спакон вякоў вядзецца,—
Я стану, як заўжды, сярод байцоў за мір
Па закліку душы і па загаду сэрца!

*1960*

## ВЕТЭРАН

Салдат былой вайны пакульгваючы йдзе.
Зарубцаваны шрам на твары — метка лёсу.
Юнача мой, заўваж па выпраўцы, хадзе,
Што перажыць яму на свеце давялося?!

Ты бачыў — буйны град да долу гне калоссе,
Калі ж заціхне гром, паўстане дзе-нідзе
Такое, што зламаць віхурам не ўдалося,
Што без пары к грудзям зямлі не прыпадзе.

Такіх пазнаеш ты па мужных рысах твару,
Па рэдкіх слоў вазе і позірку цяжкім,
Дзе нібы тлее жар далёкага пажару

Ці водбліск бліскавіц адсвечвае у ім.
З такіх не зробіць страх сабе сляпой ахвяры,
Калі нахлыне бура з рокатам глухім...

*1960*

## ФАНТАН

Залатаногі бор лье гуд і водар смолкі,
Глядзяць на белы свет скрозь мох баравікі...
Рвучы дрымучы сон ад захаду да золку,
Гудзе рухавічок, не спяць буравікі...

На дымныя кастры кладуцца лапы елкі,
Нібыта ліжуць змрок дракона языкі...
Скрыгоча ў нетрах бур алмазнаю каронкай,
Разведку боем тут вядуць нафтавікі...

Канец, канец табе, Палесся сон пакорны!
Дрыжыць нутро зямлі, сплывае прэч туман,
І воблакам цяжкім на небасхіле зорным

З глыбінь пластоў зямных — прыроды
шчодрай дань —
Узняўся, нібы конь крылаты з грывай чорнай,
Доўгачаканай нафты ўздыблены фантан.

*1960*

## ВІЛЬНЮС

О Вільнюс, горад непаўторна дзіўны,
Дзе ўсё — кантраст, дзе даўнасць з навізной
Існуюць побач! З вежы Гедыміна
Глядзеў я ўніз, захоплены табой!..

Свяціла сонца нам адной Айчыны,
Што парадніла нас навек з Літвой.
Так два сыны у мацеры адзінай
Жывуць у згодзе пад адной страхой...

О Вільнюс! Гукі мілагучных дайнаў
Уперамежку з віхрам крыжачка
Ліліся тут, як сімвал дружбы даўняй,

Як шчасця паўнаводная рака...
Цудоўна жыць, калі тваім жаданням
Падмогай служыць братняя рука!

*1960*

## ДАГНІЯ*

*Дагніі Зігмантэ*

Быць можа, даўні вікінг з хмурнага фіёрда
Калісьці на шчыце імя тваё данёс
Да берагоў Даўгавы мілае, дзе горды
І працавіты люд куе свой шчасны лёс.

Але ва ўсім — у слоў гучанні, ў зроку цвёрдым,
У зграбным руху рук, у золаце валос
Мне бачыцца, як родны край рукою шчодрай
Свой лепшы дар красы табе ў пасаг прынёс.

Валодай ім, дачка шчаслівага народа,
Ясноты дзён наступных не заслоніць цень
Навекі адгрымеўшай буры-непагоды...

Лье будучыні сонца свой жывы струмень,
І на зямлі бацькоў, дзе зарунелі ўсходы,
Як маладосць твая, квітнее новы дзень!

*1960*

---

* Д а г н і я — па-нарвежску новы дзень.

## ПАМЯЦЬ

О памяць! Ты, як гама светаценяў,
Як фарбы гукаў, як сцямнелы бляск
Шматграннага і рэдкага камення,
Што зберагла для ўдачлівых зямля.

Дзівосны дар знаходак і здзіўлення
Схавай глыбей, каб водгуллем здаля
Не варушыў дакор твайго сумлення,
Каб час на ўзлёт высокі акрыляў!

Будзі, будзі далёкі свет юнацтва,
Дзе непаўторнасць радасных сустрэч,
Дзе цені ночы дзень страсае з плеч,

Як прывіды натхнёнага вар'яцтва,
Каб голле друзлых ссохлых слоў адсеч
У гонар непадкупнага мастацтва!

*1965*

# МЭТА

Не рыфмаў легкаважкія бразготкі,
А слоў апаленых цяжкі свінец
Кавадь у перадышак час кароткі
Прысуджана было аднойчы мне.

І я ў глыбінях шахтавай праходкі
Выкрэсаў кіркай іскры, каб мужней
Гучаў мой голас з перацятай глоткі
У той людзьмі забытай старане;

Каб мог дайсці да найвышэйшай мэты,
З якой усё жыццё навек звязаў,
Дайсці, не азірнуўшыся назад;

Каб вершам вольным ці радком санета
Змог даспяваць усё, што недапета,
І ўсё, што недасказана,— сказаць.

*1965*

# ШЧЫРАСЦЬ

*Р. Н.*

Мой добры друг, няхай па сіняй плыні
Бягуць чаўны высокіх чыстых дум
Пад небам светлым роднае Айчыны,
Якой аддаў усё: і боль і сум,

І радасці празрыстыя хвіліны,
І сэрца жар, і зарыва задум...
Мілей за прыстань ціхую спачыну
Хай будзе руху несціханы шум!

Бо той, хто ўсёй душой, парывам чыстым
Высокай праўдзе прысягнуў служыць,
Не сыдзе ў бок ад перашкод цярністых,

Не спыніць крок на цяжкім рубяжы...
Той дружбай вернай можа даражыць,
Хто сам прайшоў дарогай крамяністай.

*1965*

# П'ЕРО́

Круг патаемны завяшчаў адкінуць
Перад скананнем Аляксандр Блок,
Каб зіхацела ў вуснах Каламбіны
Паэзія, празрыстая як шкло.

Паміж дастойных да вышынь арліных
Узняў Купала лірыкі жазло
І нам аддаў, каб песняй Арлекіна
Яе жывое зерне прарасло.

Хоць тых фацэцій плашч даўно струхлелы
Суровы час ад тлену не збярог,
А ўсё ж рыпіць пакутліва пяром,

Што доўгі час без руху іржавела,
Ад горкасных удач асатанелы,
Няўдачамі захоплены П'еро.

*1965*

# СПАДЗЯВАННЕ

Яшчэ жыве ў тваім трывожным позірку
Зямлі жывой нятленная краса,
А ўжо крануў лядок лясное возерка
І пазалотай гай апаясаў.

Ты не сумуй дарма — усё адновіцца,
Застыць не можа часу каляя,
І зноў на любыя душы Ждановічы
Ліне няшчадны пошчак салаўя...

Вось так з-за хмар пагодны дзень
прадбачыцца,
Так пад лядком крынічная вада
Бяжыць, цурчыць вясёлая удачніца,

Да мутных рэк нясе празрысты дар...
Так нікне прэч дум чорных чарада,
Калі на золку новы дзень адзначыцца.

*1965*

## ДЗЕНЬ

Твой рух, твой поступ, неспакойны свет
Адчуць хачу ўсім духам пранікнення,
Хоць праступае ледзь пункцірны след
Тых змен, што рвуць ланцуг асноў нязменных.

Пазнаць бы, ў чым прадбачанняў сакрэт,
Калі, як позірк лазера праменны,
Скіруеш вока пільнае ў прасвет
Паміж святла вытокамі і ценем!

А іх, на жаль, а іх яшчэ зашмат,
Віхлястых ценяў цёмнага былога,
Што, нібы ноч палярная, прымат

Сцвярджаюць свой, каб адступіў назад
Дзень перад ноччу, страціўшы дарогу,
Хоць ён для ночы той — старэйшы брат!

*1966*

# ТАШКЕНТ

Спаў мірны горад. Чорны аксаміт
Нябёс, расшытых бісернаю плоймай,
Прыкрыў зямлю, як старадаўні шчыт,
Каб спала сэрца Азіі спакойна.

І раптам — гул. І ў дробны друз граніт
У момант скрышан сілай неўтаймоўнай.
І лёг стагодні пыл на мармур пліт,
І пацямнеў абрыс красы чароўнай...

Але ўстаяў і перамог хаос
Назло сляпой стыхіі раззлаванай
Краса Усходу — Азіі калос!

Я быў з табой у дзень той акаянны.
І твой, як свой, я ў сэрцы боль пранёс,
Каб зажылі зямлі жывыя раны.

*1966*

## ПРЫВІД

Як мыш у клецъ, шкрабецца ў дзверы
старасць.
Не размінуцца з ёю нам, відаць.
Наплыў бяссоння, успамінаў нарасць,
Дзе сто пудоў няўдач — на фунт удач.

Прэч ложак, вокны насцеж,
смутку марнасць —
Пад дождж, пад лівень!
Грукай, бубен-дах!
Дарэмны шал. Той госць быў толькі
сталасць.
Сядай жа, друг: віно, каньяк падаць?

Плыві ў прастор, сяброўская гаворка,
Плыві, ўспамінаў светлая рака!
Крануў, як вермут вусны, прысмак горкі

Дзён палыновых. Да пяра рука
Сама імкнецца, каб да ранняй зоркі
Юнацтва біла з кожнага радка.

*1968*

# МЕЛОДЫЯ

Свет гукаў трапяткіх, не падуладны,
Як многім іншым, ты і мне, на жаль,
Хоць слых, тваёй мелодыяй суладнай
Апанаваны, рвецца ўвысь і ўдаль!

Хай не будзіў я рухам пальцаў прагных
Ні рэха бур на ўздыме стромных скал,
Ні светлай тайны мрояў далеглядных,
Ні бірузовы ўсплёск гуллівых хваль,—

Затое сэрцам, нерва кожнай ніццю,
Усёй няўтольнай сілай пачуцця,
Праз шэпт былінак, грукат навальніцы,

Праз пошум ветра, шолахі трысця
Я слухаў голас твой, прыпаўшы ніцма,
Мелодыя Радзімы і жыцця!

*1968*

# ЛІПЕНЬ

Гарачы ліпень лета напалам
Рассек праменнай шабляю спякоты,
Каб востра пахнуць скошаным лугам,
Адчуць касцям салодкую ламоту;

Каб на зажынках спелым каласам
Злучыцца ў першы сноп пазалацелы,
Каб засвяціцца радасцю вачам,
Пазнанаю ў далонях запацелых.

Не толькі цветам ліп, а цветам душ,
Налітых гордай сілаю натхнення,
Што не адолеў холад зімніх сцюж,

Што дажылі да часу узмужнення,
Ты славен, Ліпень,— бацька пахкіх руж
І сябра самых яркіх летуценняў!

*1968*

## СПАКОЙ

Спакой — не сон, не бросня забыцця.
Спакой — жывога руху раўнавага,
Грамоў і бур законнае дзіця,
У спёку — дождж, у дождж — сухая смага.

Ён там, дзе ветры густа шалясцяць,
Дзе крыюць неба воблачкі-бадзягі,
Ён у крутым узлёце пачуцця,
Ён там, дзе плешчуць урачыста сцягі.

Айчыны дом! Стамлёнаю ступой
Іду я ў засень тапалёў спічастых,
Што сталі ў рад над Свіслаччу-ракой.

Тут жыў. Тут рос. Тут круг замкнецца мой.
Пакінуў тут я сэрца свайго частку,
Каб даў спакой мне вечны неспакой!

*1969*

# СУЛАДНАСЦЬ

Мудрэц ці невук —
хто жывым на пострах
З вас першы вырак ісцін цьмяны рой,
Што свет заўжды імкнецца да хаосу,
Што сушы весці вечны бой з вадой;

Што цемру рэзаць зарыва пракосам,
Што ураганам рваць зямны спакой,
Што перунам, нібы каменячосам,
Крышыць базальты вогненнай рукой;

А чалавецтву век не ведаць ладу?!
Лухта! Агонь з вадой спрадвек сябры,
А ночы змрок заўжды світанню рады,

А перуны нясуць дажджоў дары...
І спрэс пануе розуму улада,
Дзе бой за мір вядуць гаспадары!

*1969*

## ПЕРАДБУР'Е

У кінці зла не аддадзім душы,
Хоць вісне чорных змоў цяжкая навісь.
Мы дабратой залішняю грашым,
Яна ж гадуе нечую нянавісць.

Час кліча нас падпал вайны тушыць,
Каб не чадзіла дыму-гару намець,
Час кліча нас атрутны зман глушыць
Тых, хто з кароткай хвалі дзесь гугнявіць;

Хто ўсё хлуснёй атручвае кругом,
Хто чэрціць чорны цень крылом злавесным,
Шлючы «фантом» на чыйсьці мірны дом.

Дзень гневу блізак.
Дзесь з трушчобаў цесных,
З саванаў, джунгляў рушыць напралом
Суровы гул яго астатняй песні!

*1969*

# ПЛАГІЯТ

Расчараваў мяне мой друг дашчэнту,
Што мову веку знаў, як паліглот:
«Хто мы? Набор хімічных элементаў,
Звычайны згустак амінакіслот.

Глядзім на свет — з-пад чэрана у зрэнкі
Б'юць біятокі, нібы ў шыбы град.
Мы скрозь з часцін матэрыі маленькіх,
Мы сінтэз іх і ў той жа час — распад!»

Хоць слоў карцеч, як у сцяну глухую,
Раз неўпапад, а два разы ўпапад,
Трапляла ў цэль, філосафа ўпікнуў я:

«Непадабенства ёсць між намі, брат,—
Я мыслю, дружа, для таго й існую! —
Даруй, філосаф, мне за плагіят!»

*1969*

## ЗЯЛЁНАЕ

*М. І. Калачынскаму*

Зялёнае. Светабудовы стрыжань.
Цыклоп з чырвонай зрэнкай —
семафор.
І — стоп! І што ні крок, то бліжай,
бліжай
Кут салаўіны, дзьмухаўцы, чабор.

Тут цішыня. Тут дзень ад сонца рыжы.
Тут разамлеў спякотаю сыр-бор.
Тут з-пад ялінкі вабіць вока рыжык.
Тут вечарком патрэсквае касцёр.

Тут неба — фіялетавым скляпеннем,
Тут водсветы далёкіх навальніц,
Тут вогнішчаў пачварыстыя цені,

Тут водар мацыёл і медуніц.
Зялёнае! Змяні душы тамленне
На цішыню і тонкі пах суніц!

*1969*

## ІНДЭКС

Туды і ў думках нават не дапасці
Нагам нядужым на зыходзе дзён,
Дзе даль прыкрыў заружавелы засціл,
Але абрыс наступнага відзён.

Машынны век, люблю твае сучассе:
Праз формул вязь, лагічных схем закон
Я бачу знак — умоўны індэкс шчасця,—
Да новых вех звышскорасны разгон.

І хоць у тых праколах перфакартаў
Зацесна ўсё ж пачуццям трапяткім,
Жыццё ідзе, сябруе розум з жартам,

Звяргае догмы ісцін рух упарты,
І пал любві нясе ў ядры сваім
Зародак той, што ўсіх адкрыццяў варты!

*1970*

# ПРАЎДЗЕ ВЕКУ

*Вянок санетаў*

1

Пульс часу, біся ў роўным рытме
сэрца —
Табой жыву, табе заўжды служу,
Хоць і нялёгка шрам былога сцерці,
Як між дабром і злом знайсці мяжу.

Не раз зірнуўшы ў твар кашчавы смерці,
Адно з усмешкай шчыраю скажу:
Не звузіць свет закрачанаму шкельцу,
Арліны лёт не прыпыніць стрыжу!

Бо ты жывеш на свеце, Праўда Веку.
Хоць сто разоў прарочылі твой скон
І аддавалі на пацеху здзеку —

Не пагасіць вячысты твой агонь!
Таму на злосць пыхлівым недарэкам
Табе служу аддана з першых дзён!

2

Табе служу аддана з першых дзён,
Зарок на вернасць даўшы, як прысягу.
Даўно пяройдзен Сцікс і Рубікон,
Даўно па іншых выспела адвага.

Вядзі ж наперад. Хай круты адхон
Збівае ногі, вусны сушыць смагай —
Мы ўсё даўно паставілі на кон,
Музеям здаўшы світкі і сярмягі.

За ўсё, за ўсё заплочана даўно.
Хай кроў ніколі болей не пральецца,
Хай свеціць сонца шчасця ўсім адно:

І тым, хто мір здабыў цаною смерці,
І тым, хто тройчы кляў глухую ноч,
Калі шукаў з цямніцы вузкай дзверцы.

3

Калі шукаў з цямніцы вузкай дзверцы,
Ці думаў ты, рамантык і паэт,
Што голас твой, як рэха,
адгукнецца,
Што песень строй пакіне ў душах след?

Было за гэта варта ў сцюжах мерзці,
Кайлом на скалах ставіць безліч мет,
Не знаць, што подзвіг твой
раўня бяссмерцю
На скрыжаванні лютых зім і лет.

Што ж? Гэта ўсё было, як не бывала,—
Браў новы лад не без ахвяр разгон,
Рваў дынаміт і скалы і завалы,

Двух светаў бой даваў пякучы плён,
Але ўзялі мы з бою перавалы,
Адкуль абрыс Наступнага відзён!

4

Адкуль абрыс Наступнага відзён,
Там царства сонца, сіні акіяны.
Зірні: упаў там цень на гарызонт
І кроў зары цячэ са свежай раны.

Слых навастры: ці не Хатыні звон
У стогн Сангмі уплёўся нечакана
І праз вякі разбуджан сфінксаў сон
Грымотным залпам дзесь за Іярданам?

Палае ў свеце зарыва баёў.
Каб рабства след з зямлі дашчэнту сцерці,
Каб слёзы высахлі з вачэй удоў,

За шчасце волі ў бітве лепш памерці!
Дык хай апошні раз пральецца кроў,
Чым век вагацца ў хісткай паняверцы!

5

Я не вагаўся ў хісткай паняверцы,
Калі баі грымотныя гулі.
Боль сціх. Няхай хутчэй мігцення тэрцый
Пульсуе з нетраў нафта — кроў зямлі.

Як перад боем, стрэлкі часу зверце,
Каб нас нашчадкі марна не клялі,
Што ў бурны век імклівых кілагерцаў
Зраўняцца з часам не заўжды маглі.

Крывіся, скептык, з'едлівы і колкі,
Дзікун звышмодны, слоўны пустазвон.
Мне блізка ўсё: краса жывой вясёлкі

І таямнічы волат — пазітрон!
Калісь і я згінаўся ў віхар золкі,
Як той някемны ў байцы маладзён.

6

Як той някемны ў байцы маладзён,
Юнак, агнём вайны не абстраляны,

У свет ілюзій, пачуццю ў палон
І я ўступаў, жыццём зачараваны.

Вось і цяпер, ужо на схіле дзён,
Душу ўспамін кранае нечакана,
Калі раптоўна рве кароткі сон
Забыты голас мілай і каханай.

Што ж? Маладосці прывіду я рад,
Хай саграе прытомленае сэрца —
Хачу, ссівелы радавы салдат,

Быць навабранцам юным на паверцы!
Таму прашу: мне добрых стрэч і дат,
Гады жыцця, яшчэ крыху адмерце!

7

Гады жыцця, яшчэ крыху адмерце,
Хоць колькі часу дзеля добрых спраў!
Шмат на планеце набралося смецця —
Каб не прыкрыла парасткі дабра;

Каб хваля чорнай злосці
цёмным смерчам
Не змыла ўсё здабытае з двара,—
Вартаўнікі эпохі, спаць не смейце!
Яшчэ скасоўваць варты не пара!

З глыбінь падводных цэльце перыскопы —
Пірат цікуе наш спакой і сон!
Воч не спускайце. Там, у зорным скопе,

Па-над зямлёй нядрэмна кружыць ён.
Сачыце, каб не ўкрыў атрутны попел
Плугамі працы ўзнятых баразён!

8

Плугамі працы ўзнятых баразён
Мы не пакінем ялавець бясплодна —
Хай даспявае небывалы плён
Пад ясным сонцам бацькаўшчыны роднай!

Людзей галодных не адзін мільён
Яшчэ не стаў на шлях хады свабоднай.
Расціце хлеб і помсту! Хай праклён
Падзе на тых, хто бомбай вадароднай

Гатоў знявечыць мілы твар зямлі,
Каб недзе ў банку пух рахунак чыйсьці!
Пазбавім сад зямны ад едкай тлі,

Ад вусеня — яго жывое лісце,
Каб светлай праўды макі расцвілі
На злосць жрацам хадзячых танных ісцін!

9

На злосць жрацам хадзячых танных ісцін
Жыві, Вялікай Праўды прастата,
Бурштыну гронкай, прозалаццю лісця,
Ажурнай аркай лёгкага маста,

Ускрыленаю марай, што калісьці
Была цяжкой, як першая вярста,
Часінай той, якой няма ўрачысцей,
Якую ўславіць прыйдзе свой мастак.

Не той, што сыпле медзякі праменняў
На беднасць тым, хто духам слеп
і глух,
Хто ўяўна служыць зыркаму святлу,

А той, хто жарам сэрца і натхнення,
Нязломнай сілай чыстага сумлення
Высокай Праўды не аддасць на глум.

10

Высокай Праўды не аддасць на глум,
Хто за яе плаціў сваёй крывёю.
Ажыццяўленнем самых светлых дум
Яна ўстае над нашаю зямлёю.

Яна жыве і будзе! Біржаў бум
Штогод прарочыць ёй усё ліхое —
Праз пыл хлусні, нянавісці самум
Гарыць яе святло агнявое.

Азоран ёю наш дваццаты век,
Што ўсіх былых крывавей і агнісцей,
Што праз цясніны гор, разводдзе рэк

Пранёс, як сцяг, ідэі камуністаў;
Што горда ўзвысіў слова Чалавек,
Які жыве не для сваёй карысці.

11

Той, хто жыве не для адной карысці,
Не для канап, квяцістых дываноў,
Той, хто прайшоў дарогаю цярністай,
Хто хрышчан дымам, порахам,
вайной,—

Не размяняе ідэалаў чыстых
Ні на ўслаўленняў пеннае віно,
Ні на утульных дач спакой цяністы,
Ні на нейлон замежных рызманоў!

За тых, каго завём мы: рабацягі,
Не аглушыў каго авацый шум,
Давай нальём у келіхі павагі,

Сучаснік мой, мой даўні аднадум!
Мы ж да чужых заслуг не маем прагі,
Мы ж не імкнёмся ў рай
праз твань і тлум!

12

Я не імкнуся ў рай праз твань і тлум
У безгалосым хоры быць салістам.
Зірнеш падчас — душу агорне сум:
Эўтэрпы маску носяць кар'ерысты!

Што муз хаўрус для іх?
Шматлюдны ЦУМ,
Дзе з-пад прылаўка знойдзеш усё чыста!
Той друг міністру, той Літфонду кум,
Бяздарны ж той — сааўтар сцэнарысту!

О Крапіва, мінулым трасяні,
Блісні ізноў Хвядосам*, як калісьці,—
Жыве ж курылка той і ў нашы дні!

Усюдысны, пнецца ён кудысьці,
Нібы ваўчок — куды ні павярні,—
З крутога віру ўмела знойдзе выйсце!

13

З крутога віру ўмела знойдзе выйсце
Той бессаромны, вёрткі, як уюн,

---

* «Хвядос — Чырвоны нос» — сатырычная паэма К. Крапівы.

Хто цень кладзе на дзень наш прамяпісты,
На мару — лапу скваппую сваю.

Як пустазеллем ён на ніве выспеў,
Саладкагучны ўчэпісты пяюн,
Прыгрэты нашай дабратой з калыскі?!
Чуццём яго здалёк я пазнаю.

Радзіма-маці, будзь жа тройчы строгай!
Узяўшы ў рукі добрую мятлу,
Гані ты прэч ад чыстага парога,

Не падпускай к гасціннаму сталу
Тых, хто, надзеўшы праўдалюбства тогу,
Замест дабра употай служыць злу.

14

Замест дабра, хто ўпотай служыць злу,—
Хітрун і хлус нямала сее шкоды.
Змый, хваля часу, іх! Хутчэй вяслуй
Праз быстрыню, парогі, перашкоды,

Мой горды век! Магутнаму крылу
Размах вышынь і рызыка прыгоды
Да твару больш.
Страле патрэбен лук.
Байцу — адвага. Мудры дух — народу!

Пад вечна юным сонечным шатром
Цвіці, Зямля, у вечнай кругаверці!
Хай над табой не грымне войнаў гром

І не чадзіць смуродны попел смерці!
Хай шчасце міру ўвойдзе ў кожны дом,
Пульс часу б'ецца ў роўным рытме сэрца!

Пульс часу, біся ў роўным рытме сэрца!
Табе служыў аддана з першых дзён,
Калі шукаў з цямніцы вузкай дзверцы,
Адкуль абрыс Наступнага відзён.

Я не вагаўся ў хісткай паняверцы,
Як той някемны ў бойках маладзён.
Гады жыцця, яшчэ крыху адмерце
Плугамі часу ўзнятых баразён!

На злосць жрацам хадзячых танных ісцін,
Высокай праўды не аддасць на глум
Той, хто жыве не для адной карысці,

Хто не імкнецца ў рай праз твань і тлум.
А той з любога віру знойдзе выйсце,
Замест дабра хто ўпотай служыць злу!

*1971*

# СВЯТЛІСТЫ ДЗЕНЬ КРАСАВІКА

1

Красою цёплай повен красавік,
Сінечай неба, звонам крыгаходу
І журавамі, што свой першы крык
Кідаюць зверху ў веснавыя воды.

Прамаці рэк славянскіх, новы лік
Пачні з той квадры, дзе пахмурна годы
Па ўсерасійскай бездаражы йшлі,
У бога марна молячы лагоды!

І ты, мой век, пачні летазлічэнне
З пары, калі над морам слёз і бед
З'явіўся той, хто свету на здзіўленне

Знайшоў рычаг (што бедны Архімед
Знайсці не мог!), каб сілай абуджэння
Перавярнуць ушчэнт збуцвелы свет!

2

А як вятры галубілі раку,
А як вясны красавіковай дзіва
Плыло, калі ў прыволжскім гарадку
На шчасце маці сына нарадзіла!

Ён рос. Мужнеў. А мудрасць юнаку,
Дух барацьбы ды вольнай волі крылы
Даў той народ, што на сваім вяку
Скараўся хіба аднаму Ярылу.

Ён жыў. Тварыў. Каб шквалам скразнякоў
Прадзьмула свет імперый спарахнелы...
І хоць прайшло больш ста красавікоў —

На сто гадоў зямля памаладзела!
Так сёння ёсць і будзе век-вяком —
Яго імя яднае ў бітву смелых!

3

Не, не прарок, а просты чалавек,
Сярод смяротных — сам такі ж смяротны,
Ён скіраваў дваццаты тлумны век
На шлях адзіны і беспаваротны.

І счэзне войнаў чад, і гвалт, і здзек
Для ўсіх як ёсць бяздомных і гаротных.
Вядуць агні рэвалюцыйных вех
На бой астатні люд зямлі галодны.

Ён знаў, ён знаў: на ўсіх мацерыках
Жывое слова праўды абзавецца
Агнём баёў і гулам барыкад —

Не будзе ліхвярам куды падзецца.
Таму заўсёды дзень Красавіка
Жыве ва ўдзячным сэрцы чалавецтва!

4

Як нетавала часта нам Яго,
Калі бяда мой край за горла брала,
Калі на спелы цвет, на сінь снягоў
Курэла дымам чорная навала!

На рубяжах, аплаканых пургой,
Насмерць стаялі пад грымотным валам —

На бой і кроў, у праведны агонь
Нас Ільічова слова падымала!

І ноч была, і дзень быў, і святло
Ліло цяпло над папялішчам дымным,
Каб зноў усё жывое расцвіло

Па ўсёй зямлі садамі маладымі,
Каб наша неба, чыстае, як шкло,
Свяціла мірна ў ясны твар Радзіме...

5

Ёсць веліч духу, веліч прастаты,
Яны цвярдзей гранітных маналітаў,
Яны ірвуць старых асноў пласты,
Калі ў магутнасць класа пераліты.

Няма звароту, спалены масты,
Атакі сілы цёмнае адбіты.
Ёсць радасць з боем пройдзенай вярсты,
Ёсць у Зямлі для ўсіх адна арбіта!

Па ёй вядзе нас Генія рука.
І хоць яго даўно няма на свеце,
Ўзрыўная сіла кожнага радка

У плаўцы часу лавай сталі льецца.
Таму празрысты дзень Красавіка
Душу варушыць, будзіць памяць сэрца.

6

Імпэт тварэння, цеплыня душы,
Надзённых спраў гарачае натхненне,
І караблёў касмічных віражы,
І ясны лёс наступных пакаленняў,

І хараство пакораных вяршынь,
І дум узлёт, і выбух захаплення,
І глыбіня задум, і мараў шыр —
Усё навек злілося ў слове ЛЕНІН.

Таму й жыве народная любоў,
Па жылах гоніць кроў кіпучай сілы,
Як сокі ў целе векавых дубоў...

Таму у гэты дзень вяснова-сіні
За найвялікшы дар з зямных дароў
Прымі паклон, вялікая Расія!

*1973*

# СУМЛЕННЕ ВЕКУ

## 1

Агульных слоў, паэты, пазбягайце,—
Хай будзе слова чыстым, як крышталь!
Яно для тых, гаціў хто колісь гаці,—
На золку веку шлях шукаў удаль.

Хто йшоў з цвярдыняй троннаю змагацца,
Каго вяла на эшафоты шваль,
Каб у вялікім пралетарскім гарце
Цвярдзела волі бальшавіцкай сталь.

Каб шуганула полымя з той іскры,
Якую геній веку распаліў
Над раздарожжам слоты ўсерасійскай,

Над беспрасвеццем рускае зямлі;
Каб з барыкады грымнуў першы выстрал,
Пачаўшы новай эры новы лік.

## 2

Не лаўры лоб мысліцеля вянчалі,
А горкі час клаў складкі горкіх дум:
Як з беспрабуднай скрухі і адчаю
Да бітвы ўзняць народа горды дух?!

І вось праз звон кайданны прагучалі,
Як гул гармат, як водгук кананад,
Грымоты Прэсні, ветраў свежых хвалі
І грозны голас першых барыкад.

Якая сіла волі, мыслі, духу
Жылі ў душы яго, ў яго крыві,
Каб скрозь вайны крывавай завіруху,

Скрозь твань ілжы, паклёпаў цёмны вір,
Даць верны курс нястрыманаму руху
Да берагоў разбуджанай Нявы?!

3

Ёсць назва гэтай сіле валатовай,
Што скаланула спрэс планеты шар:
Яна — жывое ленінскае слова —
Камуністычнай Партыі душа!

Яна праз чад вайны — іспыт суровы,
Нас зноў на светлы вывела бальшак;
Яна, чый рух бяздумныя галовы
Ці раз дарэмна праглі суцішаць.

Як лёт аднойчы ўзрушанай планеты
На міг не можа вечнасць прыпыніць,
Так свет, дыханнем Партыі сагрэты,

Як вёрсты, часу адмярае дні,
Што ставяць вехі ўсім народам свету
Ад вышыні да новай вышыні.

4

Не! Не для пышнай гучнаструннай славы
Жыве вялікай Партыі калос.
Яна — душа жывой гарачай справы,
З якой навек народ звязаў свой лёс.

Яна — сумленне веку, мозг дзяржавы,
Да светлай эры ў высі ўзняты мост,

Ідэй бяссмертных мудрая праява,
Што ў век касмічны нас вядзе наўпрост.

Нага ў нагу йдучы з дваццатым векам,
У сінім небе прачарціўшы след,
Яна ў імя зямнога чалавека

Кладзе маршруты незямных ракет.
Яе рука кілзае ў цуглі рэкі,
Каб ліць святло ў тайгі замглёны свет.

5

Рыпіць старога свету калымага
На ўхабах дрогкіх бітых каляін,
І дым смуродны сцеле над прасцягам
Вайны крывавай чорны паладзін.

Надзеяй веку, сімвалам адвагі
З высокіх гор, са стэпаў і з далін
Завеш заўжды пад ленінскія сцягі
Ты, Партыя, народы ўсіх краін.

Вядзі да шчасця іх! Хай адзавецца
Твой мудры голас рэхам у грудзях
І у сыноў тваіх, і ў чалавецтва;

Хай свеціць ім у навальнічных днях
Апошні гул апошняй бітвы ў свеце,
Што свет старога зрыне ў пыл і прах!

*1971*

# ДЗІВА

## 1

Быў цёмны лес. Быў пошчак салаўіны.
Быў берасцянак звонкі пераклік.
Быў сэрцаў стук. Быў момант той адзіны,
Што не бярэ свядомасць на улік.

Згадай яго ты ў светлую хвіліну,
Калі замрэ ў грудзях ад шчасця крык,
Той непаўторны ранак, лёт хвіліны,
Без дум, разваг, без пошлых закавык.

Згадай і рук цяпло, і скрыжаванне
Бяздонных зрэнак, цёмных, нібы ноч,
Адно, як шолах ветрыка, дыханне,

Скупое шчасце на дваіх адно.
А над усім жыцця трыумфаванне,
Дзе явы бляск ярчэй чароўных сноў...

## 2

Даўно юнацтва ўдалеч адляцела,
Сатлеў на попел прысак пачуцця,
Спакою прагне і душа, і цела,
А не грымот і бліскавіц жыцця.

Так думаў я. Ды па-жаноцку смела
Ты увайшла, як бура ў сон трысця,
У мой спакой. І зноў душа запела,
Адчуўшы радасць поўную быцця.

З краіны сонца і пяскоў зыбучых,
Як дзіва дзіў, доўгачаканы цуд,
Прыйшла ты ў засень дум маіх
дрымучых,

Каб зноў вясны ўрачысты перагуд
Ажыў у словах песень неўміручых,
Як падказаў ласкавы твой прысуд.

3

Было і так: пануры і зацяты,
Нібыта скнара, я хаваў глыбей
Усё, чым сэрца і душа багаты,
Што не было прызначана табе.

А ты прыйшла, маё святло і свята,
Мой лепшы лекар ад усякіх бед,—
Я ўсё аддаў, зламаўшы сховаў краты,
Адну цябе пакінуўшы сабе.

І ў прах зляцелі ўсе мае трывогі,
І недаверу цень адскочыў прэч,
Бо ты ізноў паклікала ў дарогу,

Бо след твой час ніколі не сатрэ.
Багаты духам той, хто дорыць многа,
Убогі — хто не дорыць, а бярэ.

4

Я не пад шчаснай зоркаю народжан —
Хапіў я перцу й солі цераз край!
За ўсё цяпер табою ўзнагароджан,
Майго жыцця вячэрняя зара!

Я не шукаў цябе, хоць тройчы згодзен
З тым, што прыйшла сама пад пеўчы грай
Вянком маім нягодам і прыгодам,
Дзе шчырай дружбе месца і пара.

Усё было ў жыцці, апроч спакою,
Былі і рай, і пекла, і любоў...
Цяпер усё запоўнена табою,

Цяпер усё авеяна табой.
Таму й прашу я:
 будзь сама сабой —
Так лепш,
 чым быць уласнасцю чужою...

5

Пакуль належу я да той пароды,
Што сэнс шукае ў руху і хадзе,
Са мною будзь усюды і заўсёды —
У яве, ў снах, на сушы і вадзе!

Бо палыну гаркота й ружы водар
Табе і мне аддадзены ў надзел,
Каб страты боль і радасці знаходак
Дзялілі роўна ў шчасці і ў бядзе.

Ты, можа, момант толькі падарыла,
Але вага яго — раўня гадам,
А бляск яго — ярчэй любых свяцілаў;

Таму я памяць светлую не дам
У кіпці забыцця. З нязгаснай сілай
Хай да канца пароўну свеціць нам!

*1971*

# РАДЗІМА

## 1

У світцы шэрай крочыць Лістапад...
Хоць і даўно ні лісціка на голлі,
А востра пахне яблыкамі сад
І збажыной прытомленае поле.

Зямля мая! Асенні далягляд —
Туманаў пена ў неба у прыполе,
Міраж дарог, задумны шэпт прысад
І жаўталісце бронзавае доле...

Цябе вачыма абягу угрунь,
Суздром здзіўленнем шчасным аняме́лы:
Дажджы вось толькі глуха прашумелі

І праступіла ізумрудам рунь...
Здаецца, тонкі колер акварэлі
Паклаў мастак на палатняны грунт.

## 2

Якая веліч! Праз імжысты дым
Акрэсліць можа зрок абрысы даляў.
Напружанняў высокіх правады
Гудуць, як басавітыя цымбалы.

А пад скупым праменнем гарады
Высвечваюць высотныя кварталы,
І галасы жыцця на ўсе лады
Гучаць на доўгай і кароткай хвалі.

Я пазнаю, Радзіма, голас твой,
А ў ім высокай ноты урачыстасць,
А ў ім узлёт намераў самых чыстых

У спалучэнні з яснай прастатой!
Высокі подзвіг твой, як сказ вячысты,
Увойдзе ў строй легендаю жывой!

3

Суровы век паклаў, хоць не знарок,
Маршчынкі часу на тваім аблічны,
А ўжо расце твой малады народ,
Той, што на подзвіг новы мужных кліча;

Той, што ў нязнаны свет кіруе зрок
Праз частаколы формул таямнічых,
Той, што праклаў у бездань першы крок,
Ступіўшы першым смела ў век касмічны!

Твой дух, Радзіма, ў ім заўжды жыве,
Дух працы, дух стваральнага гарэння,
Што, ідучы праз безліч пакаленняў,

Сам не паддасца старасці павек,
Бо рыцар твой і збраяносец верны
Завецца простым імем Чалавек!

*1972*

# РАСІЯ

1

Расія! Вечна ззяе над табою
Святлістых дзён праменная пара.
Ледзь толькі згасне вечар за Нявою,
А ўжо ў Амуры плешчацца зара.

Расія! Ты Кастрычніка зарою
Прынесла сонца ў наш пахмурны край.
Спяць вечным сном твае сыны-героі
Ў краіне Буга, Нёмана, Дняпра.

Скажы, Расія, ці змаглі б адны мы
Адбіць нашэсцяў белую чуму,
Калі б усіх у дружную сям'ю

Ты не звяла пад сцяг адной Радзімы?
Калі б плячо ў плячо ў агні і дыме
Мы не пайшлі па закліку твайму?!

2

Хіба не ты ў гадзіны чорнай скрухі
Дапамагла атрэсці пыл руін,
Падаўшы нам братэрскай дружбы рукі,
І хлеб, і соль, і сталь сваіх машын?!

Багаццем працы, розуму і духу
Ці быў абдзелен брат твой хоць адзін?
Таму і ўстаў над попелам разрухі
Мой край, стаптаны ў час ліхіх гадзін.

Таму, Расія,— дойлідаў дзяржава,
Апора ўсіх народаў і плямён,
Высокай праўды воля і закон,—

Нясуць нашчадкі партызанскай славы,
Як найвышэйшай шчырасці праяву,
Табе падзяку, вернасць і паклон.

3

Цвітуць сады ў адроджаным Палессі,
Шумяць палі над Сожам і Дняпром,
Гучаць для ўсіх твае, Расія, песні,
Як першы дождж вясны,
як першы гром.

Спяваюць іх і муляры, і цеслі,
Ўсім людзям працы іх матыў знаём.
Мы іх на вышкі буравыя ўзнеслі,
Мы ў шахты іх, як хлеб, з сабой бяром.

І хоць на мове Коласа й Купалы
Мы пазнавалі свет, жылі, раслі,
Нам роднай моваю і тая стала,

Якой вучыў нас мудрасці Ільіч.
З табой, Расія, душы мы з'ядналі —
Сыны адной сям'і, адной зямлі!

*1972*

# ВЯСНЫ МЕЛОДЫІ ЖЫВЫЯ

## ЗДЗІЎЛЕННЕ

Заўжды хвалюе нас прыход вясны.
І хоць не лёг на гай зялёны колер,
А ўжо, як тонкі гук жывой струны,
Спеў жаўрука звініць над шэрым полем.

А ўжо вятры з далёкай стараны
Нясуць цяплынь у залатым прыполе;
А ўжо абрысы ясных дзён відны,
І замірае сэрца мімаволі.

Глядзі, глядзі айчыне ў чысты твар,
Нямей, нямей ад шчаснага здзіўлення:
Вясна па небе коціць сонца шар

Насустрач дням вялікім аднаўлення.
Прымі яго, душа, як лепшы дар,
Напоўнены ўрачыстасцю вясенняй!

## ВЕЧАРЫ

Ты чуеш? Мякка крочаць вечары
Над павуціннем высветленых вуліц,
Над пенай хмар, застылаю ўгары,
Над стужкай мілай Свіслачы-крывулі.

Гары, душа, ўспамінамі гары!
Ужо й дамы ставокія паснулі
І збеглі цені ў цёмныя двары,—
Цябе ж спакой ніколі не атуліць!

Усё шукаць табе знаходку ўдач,
Усё блукаць табе сястрой паэта,
Каб сэрца голас, скрыпкі тонкі плач

Пералажыць на строгі рытм санета.
І знаць, што песня лепшая не спета,
І паўтараць штодня: пераінач!

## САКАВІК

Дзіця вясны — празрысты сакавік —
Па капілярах дрэва гоніць сокі.
Ці чуеш ты гартанна-шчасны крык
Над чысцінёю сіняе пратокі?

Забудзь усё — свет радасцю вялік,
Скіруй насустрач сонцу лёгка крокі.
Парві няўдачы першай чарнавік,—
Надзеі голуб зноў ляціць высока!

Зірні, вятры палошчуць пакрысе
Аўчынкі хмар бялява-кучаравых,
Зямля ад сну ўстае ва ўсёй красе

Кругазваротам вечна новай з'явы.
Сумуй па светлых днях, як па расе
Сумуюць ледзь разбуджаныя травы!

## ЧАКАННЕ

Прыходзь, вясна, днём першае усмешкі,
Днём першай песні птаха-жаўрука,
Сцяблінкай першай на крутым узмежку,
Днём нараджэння першага радка.

Радок мой, ён пралёг прамою сцежкай
Да дум тваіх жывога церамка.

У ім — пачуццяў згаслых галавешкі,
Жаданняў абмялелая рака.

І ўсё ж ён повен светлага чакання
Між днём і ноччу алай паласы,
І развітанняў у імя спаткання,

І адцвітанняў у імя красы...
Прыходзь хутчэй, вясны
трыумфаванне,
Цяплом праменным, халадком расы!

## ТАБЕ

Расталі, змоўклі веі снегавыя,
І зноў гучаць на сотні галасоў
Вясны маёй мелодыі жывыя,
Жыцця ставуснай песні ва ўнісон.

Гады мае, як вехі верставыя
У спелым моры жытніх каласоў,
Над вамі злыя непагадзі вылі,
Вас ахінаў начэй палярных сон!

Шматкаляровы бачу ваш адбітак
Я на шматгранных вырысах падзей,
Дзе ўсё адзінства повяззю спавіта,

Дзе месца страху не знайсці нідзе.
Жыццю й вясне душа мая адкрыта,
Табе, мая найлепшая з надзей!

*1972*

# КРУГАЗВАРОТ

## ЧАС

Даруй мне, час, за слоў просталінейнасць,
На ўяўнай злосці шал не наракай!
Не, выгінастай рыссю духу ленасць
Мяне не цікавала спадцішка!

Я ведаю: і рух жыцця, і тленнасць —
Усё ў тваіх упэўненых руках.
Ты нас вучыў не прыгінаць каленяў,
Калі прыйшлося ў поцемках блукаць.

Табе я з дзён маленства падначален,
І вось па бурным рэчышчы плыву
Да самага канечнага прычалу.

Але і там цябе я пазаву
Сказаць: хоць нас на вернасць не вянчалі,
Я сувязей з табой не разарву!

## ФЭСТ

Свет пабудован так, што ў ім не цесна
Святлу і цемры, дабраце і злу,
Выццю шакала й салаўінай песні,
Сустрэч уцехам, палыну разлук.

Свет пабудован так, што ў ім сумесна
Суіснаваць і скакуну й аслу.
Адным ляцець высока; ходам крэсным
Паўзці другім, хто розумам аглух.

Хай так. Але ў маланках азарэння
Ёсць найвышэйшай праўды сэнс і змест,
Не тло карана, не біблейскі тэкст,

А стрыжань руху формул і натхнення,
Рэвалюцыйных бур і патрасенняў,
Вялікай эры найлюднейшы фэст!

## НАКАНАВАНАСЦЬ

Што нам з табою погалас ліпучы,
Дзе соль на рану сыпле слоўны хлам,
Дзе мёд з атрутай горкай папалам
Імкнуцца развярэдзіць боль пякучы?!

Каму хапіла сіл адолець кручы,
Той духам гордым стаў раднёй арлам.
Хіба ж высока ўзняцца вераб'ям
Над вышынёй пустой мякіннай кучы?!

Сваё ўсяму: хай лаз шукае ў плоце
Паўзун-пачвара, крот зямлю грабе,
Хай жаба дзьмецца гордая ў балоце,

Тапырыць грозна пер'е верабей,—
Жыць днём наступным, быць заўжды
ў палёце
Наканавана звыш і мне й табе!

## МАНА

Як у змяі, ў маны язык даўжэзны
І ў джала на канцы схаваны яд.
Іржа раз'есці можа слуп жалезны,
Душу пратнуць наскрозь — маны змяя.

Яна заўжды пад маскаю пампезнай
Луской усмешкі бліскае здаля;
Яна, нібы жартуючы гарэзна,
Душу праесць наскрозь, як моль і тля.

Зняславіць ёй любога проста люба;
Даць словаблудству без замінак ход
Пачвары той, як патака на губы,

Пачвары той, нібы на сэрца мёд!
Ганіце прэч маны атрутнай згубу,
Страляйце, як сцярвятніка, у лёт!

## ВЕЛІЧ

Не мар пра мармур славы ў час бяссоння —
Шмат славалюбаў у нябыт сышло,
Хто быць хацеў вышэй за нас, мільёны,
Хто ўладна хмурыў нізкае чало.

У пыл пяройдзе мармуру шматтонне,
У тлен — майстры хвалебна гучных слоў.
Яшчэ ніколі на пустым загоне
Ад славаслоўя збожжа не расло!

Лунай, абраннік, горды, нібы сокал,
Ды не забудзь пра зменлівасць жыцця,
Ад велічы да фарсу дзе паўкрока,

Дзе той, хто над сабой,
як шчыт, як сцяг,
Узняў цябе, смяротнага, высока,—
Нізрынуць можа ў бездань забыцця!

## ДЫЯГЕН

Як Дыяген, у поўдзень з ліхтаром
Я йшоў, ад сонца жмурачы павекі,
І чуў у ясным небе гучны гром
І хваляў шум у перасохлых рэках...

Як Дыяген, блукаў я з ліхтаром,
Шукаў сваю надуманую Мекку,
Дарма заглядваў я у кожны дом,
Знайсці хацеў такога ж недарэку...

Як Дыяген, блукаў я з ліхтаром,
І раз спытаў мяне двухногі нейкі:
Чаго, вар'ят, шукаеш днём з агнём?

Нашто рацэ, што высахла, паром?
І я, працяты радасцю суздром,
Цябе,— сказаў,— шукаю, Чалавека!

## ПАДРАХУНАК

Пакуль душа не ператлела ў прысак
І не астыў пад ім пачуццяў жар,
Не падвяду я канчатковай рысы,—
Хай пажыве ў ружовых міражах!

Начотчык хай чапляецца за норму,
Дзе й на бязмежжа думак
ёсць мяжа,
Дзе ў рамках строга выверaных формул,
Як мёд у сотах, ісціны ляжаць.

А я вам, як на споведзі, скажу:
Шмат яшчэ доўгу лічыцца за мною,
Таму, калі бязвокая з касою

Пастукаецца, я не задрыжу
Ні сэрцам, схільным век да мяцяжу,
І ні душой, варожай да спакою!

## КРУГАЗВАРОТ

Калі б ізноў пачаць усё спачатку
Было магчыма. Вер мне, я б пачаў
Не з тых дарог, дзе ўсё трывала й гладка,
А з тых, што ў бездань клічуць і адчай.

Хай клаў бы час на лоб маршчын пячатку,
А шрам на сэрцы круг пакут вянчаў,
Цябе б знайшоў я зноў, і не выпадкам,
На тым жа месцы, ў той жа самы час!

Хай хлус-няўдачнік ткаў бы небыліцы,
А пустаслоў гудзеў, як калаўрот,—
Вышэйшай праўды чыстая крыніца

Знайшла б з пячорных нетраў верны ход,
Каб праз хлусні чысцілішча прабіцца
Ва ўсёй красе да сонечных варот!

*1972*

# САТЫРЫЧНЫЯ САНЕТЫ

## ПЕВЕНЬ І ІНДЫК

Хвалілі неяк сакатухі пеўня
(Ён старшынёю ў іх нядаўна стаў):
— Ах, як ён кукарэкае напеўна!
— Які грабеньчык, дзюбка — любата!

Так выпінаўся б век ён свой, напэўна,
Ды нейк індык на птушнік завітаў.
Тут певень наш як кукарэкне гнеўна:
— А гэта што яшчэ за драбната?!

Не распазнаў. Ах, певень-недарэка!
Таптаў бы курак, зернеткі б дзяўбаў,
Глядзіш — значок які б сабе прыдбаў,
А не варыўся у каструлі нейкай!

Мараль: хоць ты і важным пеўнем стаў,
На індыка не надта кукарэкай!

## САБАКА Ў ЛЮСТРЫ

Пра гэта, мусіць, ведае ўсялякі,
Што не існуе без грызні сабак,
І нават, кажуць, грош цана сабаку,
Што ўхаластую брэша, як дварняк.

І вось аднойчы псіну-небараку
Да люстра падвялі. І што ж дзівак?
Ашчэрыў іклы грозна і... ў атаку!
Ледзь пенай злосці не сышоў, бядак.

Тут бег выпадкам эпекуль кундаль гнапы.
Зірнуў, спытаў: ты брэшаш на каго?!

Мараль: бывае й з намі нечакана,
Хоць прызнаваць не хочам мы таго:
Свае ў другім пабачыўшы заганы,
Мы, як на люстра, брэшам на яго!

## АСЁЛ І КОНЬ

На ўсходзе недзе сцежкаю гарыстай
Асёл паклажу не цяжкую нёс,
А тут каняка, потная ўся чыста,
З апошніх сіл цягнула поўны воз.

Ну што б аслу з дарогі крамяністай
Звярнуць? Дык не.
Ледзь буркнуў ён пад нос:
— Скуль знаць табе,
што на спіне шарсцістай
Вязу я мудрых кніжак поўны стос?!

Скажу табе, за век свой незлічона
Перацягаў тамоў я розных тых,
Што й сам вучоным стаць магу хоць сёння!

Мараль адна існуе для такіх:
Асёл, нагружаны цюкамі кніг,
Яшчэ не мае годнасці вучонай!

## ГУСАК І АРОЛ

Гусак аднойчы ўтрэскаўся ў цацарку
(У байках можа быць і так і сяк!),
І хоць на ход і лёт не быў ён шпаркі,
А ўсё ж арлом сябе ўяўляў гусак.

Аднойчы ў часе летняга прыпарку
Арол сапраўдны (здарылася ж так!)
З двара ўмыкнуў прыгожую цацарку,
Пакуль драмаў разлапісты гусак.

Прачнуўся той, схапіў бляшанку з дзёгцем
І паляцеў з канца ў канец сяла
Перамываць цацарцы пер'е й косці
І з галавы да ног чарніць арла...

Мараль: ніхто не чуў на свеце штосьці,
Каб стаў гусак арлом хаця б ад злосці!

## ГАРБУЗ

Здараецца ж такое: на ґародзе
Пад сонцам вырас велікан-гарбуз!
Прыгожы, круглы, важкі — дзіва, й годзе! —
Нібыта не гарбуз, а важны туз!

Глядзеў звысоку ён пры ўсім народзе
На землякоў, нібы на чарвякоў:
— Вы — драбяза, ды пры такой пародзе
Вас не адрозніш нават ад гуркоў!

Так выхваляўся ён, так надзімаўся —
Чуваць было, бадай, за тры вярсты!
Ды вось бяда — нябога не ўтрымаўся
І лопнуў, нібы выстрал халасты.

Мараль санета: калі ты зазнаўся —
То сам, як той гарбуз, нутром пусты!

## СВІННЯ

Каб кіраўніцтва ўзняць на вышыню
І на высокі ўзровень дысцыпліну,

На дзіва ўсякай жыўнасці, свінню
Паставілі ўзначальваць двор скацінны.

І вось загад: кароў з двара далоў!
(Не ўмеюць рохкаць!) Бараноў атару —
На шашлыкі! Ў каня забраць сядло!
(Свінні ж сядло, вядома, больш
да твару!)

Быка ў валы панізіць, каб, нябога,
На смех каровам рог не выстаўляў!
(Свінням жа бог, вядома, рог не даў!)
Ды бык свінню — на рогі і... з дарогі!

Мараль: калі не хочаш быць свіннёй,
Вышэй за ўсіх не стаў ты гонар свой!

## ДРОЗД

Скажу вам — ведаеце што? — ў ядлоўцы
Паміж ялін высокіх і бяроз
Жыў не звычайны балбатун-прамоўца,
А незвычайна красамоўны дрозд.

Дзе злёт ці сход, нарада ці планёрка,
Дрозд тут як тут, і верны сам сабе,
На дзве гадзіны развядзе гаворку,
Паснуць усе, а ён дзяўбе й дзяўбе!

Шчыглоў, сінічак, іншую драбноту
Кідае ў пот, у дрыжыкі, у сплін
Ён, дзяўбучы адну і тую ж ноту!

Як часта там, дзе спраў на грош адзін,
Мы з-за драздоў губляем шмат гадзін...
Ці не пара на іх завесці квоту?!

## ЛІС

Жыў-быў не леў, а стараваты ліс,
Хоць, праўда, меў ён львіную пасаду.
Дрыжалі ўсе, як на асіне ліст,
Бо сіл не мелі даць яму па заду.

Сваю даніну кожны моўчкі нёс
У фонд сакрэтны (на банкет ці п'янку).
Ды з блізкіх хтось на ліса ўсё ж данёс,
Каб і яго патрэсла ліхаманка.

І што ж? Жыве ў нары спакойна ліс,
Усмак патрошку трушчыць куранятка,
Бо рэзюме такое падвялі:
Не хабар браў, а штось накшталт падатку.
Ну, а за гэта моцна не таўклі...

Мараль: рабі што хочаш, толькі гладка!

## МАРКАЧ-ЭСКУЛАП

Прызначылі аднойчы маркача
Галоўурачом. (У кадрах жа нястача!)
І вось пачаў маркач сячы з пляча,
Перарабляць усё на лад маркачы.

Тым параджаць сярдзіта капытком,
На тых бляяць пагардліва з наскоку.
(Лічыў сябе маркач правадыром,
Цішком сабой любуючыся збоку.)

Чыніў разносы ён без дай прычыны,
Пужаў штодня дзесяткамі вымоў,
Аж неба ўсім здавалася з аўчыну,
Рабіўся хворым той, хто быў здароў...

Мараль: зусім не ў маркачы прычына,
А ў тым, як трапіў ён у медыцыну!

## ЖЫРАФА І ВОЖЫК

Задраўшы важна ўгору галаву,
Жырафа дзесьці ў Афрыцы паслася.
А ўнізе, ледзь варушачы траву,
Маленькі вожык бег, да змеяў ласы.

— Што бачыш ты ля самае зямлі? —
Жырафа горда ў вожыка спытала.
— Вось я магу дастаць на пальме ліст
І азірнуць магу на мілі далі!

— Што ж? — вожык ёй сказаў.—
Хто як прывык,
Нас абаіх зямелька корміць хлебам.
А толькі розум мой і твой жывы,
Па-мойму, іншай меркай мераць трэба:

Не метрам ад зямлі да галавы,
А мілямі ад галавы да неба!

*1972*

# ПЕРАКЛАДЫ



*З рускай*

## М. А. Някрасаў

### ТРОЙКА

Што ты прагна глядзіш на дарогу
У баку ад дзяўчат-непасед?
Пэўна, сэрцайка ўчула трывогу —
Шчокі сталі, як макавы цвет.

І навошта бяжыш так заўзята
За імклівaю тройкаю ўслед?..
На цябе малады, зухаваты
Заглядзеўся праезджы карнет.

На цябе заглядзецца не дзіва,
Пакахаць цябе кожны ахвоч:
Завілася істужка гулліва
У касе тваёй, чорнай як ноч;

Скрозь румянец асмуглага твару
Прабіваецца лёгкі пушок,
А з-пад дужак брывей тваіх чары
Шле гарэзных вачэй аганёк.

Толькі погляд дзікунка падорыць,
Поўны чар, што распальваюць
кроў,—
На дарункі старога разорыць,
Юнаку кіне ў сэрца любоў.

Пажывеш, пасвяткуеш уволю,
Дакранецца раскошы рука...
Ды не тое прыпала на долю:
Быць рабой мужыка-бедака.

Сціснe фартух прыгожыя грудзі
І знявечыць былую красу,
Часта муж лупцаваць цябе будзе
І свякруха цягаць за касу.

Ад работы цяжкой і маруднай,
Не расцвіўшы, краса адцвіце,
Ахіне цябе сон непрабудны,
Будзеш сохнуць ды няньчыць дзяцей.

І на твары, што повен імкнення
Да жыцця і святла, на вачах
Ляжа выраз тупога цярпення
І заўсёдны бяссэнсавы страх.

І ў сырую схаваюць магілу,
Калі пройдзеш пакутны свой шлях,
І дачасна змарнелую сілу,
І сатлелы агонь у грудзях.

Не глядзі ж ты з тугой на дарогу
І за тройкаю ўслед не бяжы,
І тужлівую ў сэрцы трывогу
Назаўсёды хутчэй заглушы!

Не здагнаць табе тройкі шалёнай:
Скачуць весела гладкія коні
І імчыцца без гора й нуды
Да другое карнет малады...

*1846*

* * *

Заўжды шчаслівы той паэт,
Хто не схацеў са злосцю знацца:
Яму да сэрца дружны свет
Сяброў рахманага мастацтва;

Яму спагада грамады,
Як гоман хваляў, лашчыць вуха;
Ён гоніць прэч сумнення дым,
Што мукай стаў над творчым духам;

На бесклапотнасць ён змяніў
Апаску дзёрзкае сатыры,
Людскі натоўп каб паланіць
Сваёю міралюбнай лірай.

Разумнік, ён не зведаў мук
Цкавання, ўціску не запомніў.

Цяпер сучаснікі яму
Шчэ пры жыцці рыхтуюць помнік.

Але не злітуецца лёс
Над тым, чый геній бездакорны
Зло выкрыў, праўду ў дар прынёс,
Замест маны — аблуды чорнай.

Нянавісць тоячы ў грудзях,
А вусны ўзброіўшы сатырай,
Праходзіць ён цярністы шлях
З няшчаднаю сваёю лірай.

Ён чуе гул паклёпаў злы
І ловіць гукі адабрэння
Не ў таннай слодычы хвалы,
А ў дзікіх крыках азлаблення.

І вось, зняверыўшыся зноў
У чыстай веры летуцення,
Ён прапаведвае любоў
Варожым словам адмаўлення,

І кожны гук яго прамоў
Яму ўсё множыць супастатаў,
І слушных, і пустых галоў,
Гатовых кпіць з яго зацята.

Усе клянуць яго спярша,
Каб зразумець хоць ля магілы:
Дабром жыла яго душа
І, ненавідзячы,— любіла!

*1852*

* * *

Замоўкні, Муза помсты і журботы!
Я сон чужы трывожыць не хачу.
Даволі праклінаді мы. Самота
І смерць мяне пільнуюць — я ж маўчу.

Хандрыць, аплакваць страты—ўсё дарэмна!
Не палягчэе аніяк з таго!
Самому мне, як рып дзвярэй турэмных,—
Стук прыкры сэрца хворага майго.

Канец. Усё. Пахмурнасцю і слотай
Яшчэ мацней азмрочыўшы мой шлях,
Не кіне неба мне прамень ясноты
І не распаліць цеплыні ў грудзях.

Чароўны бляск любві і адраджэння!
Цябе я зваў — наяве і ўва сне,
У барацьбе, у працы, ў час падзення
Я зваў цябе,— больш не заву, о не!

Мне ў бездань тую зазірнуць няміла,
Якую ты мне можаш асвятліць...
Як сэрца тое навучыць любіць,
Якое ад нянавісці астыла?!

*1855*

## НА РАДЗІМЕ

Радзімы нівы, буйнай збажынаю
Раскошны вы —
Цвіце, расце калоссе наліўное,—
Я ж ледзь жывы!

Дзівацкі лёс мой — божымі рукамі
Я створан так,
Што хлеб з палёў, уробленых рабамі,
Не йдзе мне ўсмак!

*1855*

* * *

Сяброўка дзён цяжкіх, імглістых,
Наведаў могільнік я твой!
І вобраз твой больш светлым, чыстым
Душы ўяўляецца маёй.
Бывала, зведаўшы пакуты,
Стамлёны целам і душой,
Нуды цяжкім прыгнётам скуты,
Страчаўся часам я з табой.
Ні смех, ні мілая гаворка
Не праганялі цёмных дум:
Яны труцілі злосцю горкай
Вар'яцкай хворасці бяду.
Я думаў: не, ў душы гуллівай
Няма спагады да мяне,
І гора ў сэрцы церпялівым
Жыло даўжэй, пякло мацней.
Шкада, не вернеш тую пору!
Няма юнацтва без заган:
Без слёз яму няўцямна гора,
Без смеху радасць — толькі зман...
Памерла ты... Гул навальніцы
Аціх. З другой я лёс звязаў,
А ты не пакідала сніцца
То з ціхім смехам, то ў слязах.

Цяпер мне дарагі і мілы
Жывы ўспамін аб даўніх днях,—
Як шмат пяшчотнасці і сілы
Ён развярэдзіў у грудзях!
І паўтараю я з тугою:
«Не ацаніў парыў я твой!»
Забудуся — перада мною
Стаіш жывой і маладой:
Віецца локан, вочы свецяць.
«Будзь весялей!» — твой кліч заве,
І звонкі смех, адзіны ў свеце,
Гарчэй слязы ў душы жыве...

*1856*

# Міхаіл Святлоў

## ГРАНАДА

Мы ехалі крокам,
Скакалі ў баях,
І «Яблычак»-песню
Трымалі ў зубах.
Ах, песенька тая
Дагэтуль жыве,
Над стэпам лунае,
Звініць у траве.

Ды іншую песню,
Што сэрцу мілей,
Мой сябра з сабою
Вазіў у сядле.
Ён, край азіраючы родны,
Пяяў:
«Гранада, Гранада,
Гранада мая!»

Часцютка спяваў
Гэту песню дружбак...
Адкуль жа іспанская
Ў хлопца журба?
Скажы, Аляксандраўск,
Дай, Харкаў, адказ:
Здаўна гэта песні
Іспанскія ў вас?

Ці ў жыце не тут,
Украіна, скажы,

Тараса Шаўчэнкі
Папаха ляжыць?
Адкуль жа, мой дружа,
Песня твая:
«Гранада, Гранада,
Гранада мая»?

І мрыйнік маркотны
Мне так адказаў:
— Браток, пра Гранаду
Я ў кніжцы чытаў.
Адменная назва,
Адна прыгажосць —
Гранадская воласць
Ў Іспаніі ёсць!

Я хату пакінуў,
Пайшоў ваяваць,
Каб землі ў Гранадзе
Сялянам аддаць.
Бывайце ж, бывайце,
Радня і сям'я!
«Гранада, Гранада,
Гранада мая!»

Мы ймчаліся... Зведаць
З нас кожны быў рад
Граматыку бою,—
Размову гармат.
А золак займаўся
Ды зноў пагасаў,
І коні прысталі
У стэпах гайсаць.

Ды «Яблычак»-песню
Іграў эскадрон

Смыкамі пакуты
На скрыпках тых дзён...
Дзе ж, дружа мой любы,
Песня твая:
««Гранада, Гранада,
Гранада мая»?

Прабітае цела
Да долу спаўзло,
Знянацку таварыш
Пакінуў сядло.
Я бачыў, як месяц
Над трупам лунаў,
І мёртвыя вусны
Шапнулі: «Грана...»

Так! Шляхам далёкім
Праз хмарак страі
Пайшоў мой таварыш,
І песня за ім.
З пары той не чутна
У родных краях:
«Гранада, Гранада,
Гранада мая!»

Атрад не заўважыў,
Як страціў байца
І «Яблычак»-песню
Дапеў да канца.
На захадзе толькі
Адна спакваля
Слязінка дажджу
Мімаволі сплыла...

Новыя песні
Жыццё нам дало...

Не трэба журыцца
Аб тым, што было.
Не трэба, не трэба,
Каб смутак буяў...
Гранада, Гранада,
Гранада мая!

*1926*

## Аляксандр Пракоф'еў

# ТРЫ ПЕСНІ ПРА ГРАМАБОЯ

### ПЕРШАЯ

Праз лагчыны, ямы, долы
Ды праз песенны прыбой
На чале байцоў вясёлых
Ехаў волат Грамабой.

Дзесяць соцень кіламетраў,
Бездарожжа, каламуць,
Дзесяць бур, чатыры ветры
Заступалі шлях яму.

Дзе кадрыляю наўкруга,
Дзе ў спякоту, дзе ў мароз,
Карабінчыкі-спрытнюгі
Абышлі зямлю наскрозь.

Шашка вострая курэла,
Біў з вінта агнём набой,
Аж паўсвету ў сёдлы села,
На чале ўсіх Грамабой!

Слаўся долу вечар сіні,
Навальніцы йшлі здалёк,
Узняла на нас Расія
Ліхаманкавы свой зрок.

І ад бою і да бою
Думка йшла за ім услед:
«Што паўсвету Грамабою,
Калі трэба цэлы свет!»

## ДРУГАЯ

Па Данцы ды па Кубані,
Па блакітнай гладзі той
Партызаніў, атаманіў
Наш таварыш Грамабой!

Праз хмызы, праз стэп ссівелы
Ён ішоў ад бою ў бой.
Аж паўсвету ў сёдлы села,
На чале ўсіх Грамабой!

Зверху — неба залатое,
Доле — ў чырвані зямля,
Збоку — шашка Грамабоя
Ад Кубані да Крамля!

Свеціць сонейка рабое,
Птушкі звонкія пяюць,
Дарагому Грамабою
Дырыжаблік падаюць.

Змоўклі стрэлы, сціхлі кулі,
Адным махам спынен бой.
«Дайце чыстую кашулю!» —
Войску крыкнуў Грамабой.

Камандарм ідзе ў капцёрку,
Тры званкі даюць лясы,
Грамабой дае пяцёрку
І ляціць у неба сінь.

Рушыць ліха тое хвацка,
Ды ля горада Казань
Выйшла газа ўся знянацку.
«Злазь!» — лятун-пілот сказаў.

Зверху — неба, ўнізе — рупі,
Хата з комінам-трубой,
Цягніком імчыць чыгунным
Проста ў Крэмль Грамабой.

Мо з мільён жалезных ліній
Засвісталі чарадой.
Тут выходзіць сам Калінін
На парадны ганак той.

Пад нагой — кілімны волас,
Зоркі — над чалом — агонь.
«Выбірай любую воласць»,—
Грамабою кажа ён.

Грамабой стаяў магутны,
Спрытна ў кадзю папляваў,
«Дзякуй вам!» — прамовіў гучна,
Ляснуў шабляй — і «бывай»!

І цяпер шукайце ў свеце
Назву воласці такой,
Старшынёю сельсавета
Дзе славуты Грамабой!

ТРЭЦЯЯ

Адышоў той час грымотны
Ад даліны залатой,
Шыбавалі ў кут свой родны
Ты, ды я, ды мы з табой.

Грамабой пакратаў цемя,
Стаў, як дуб, над полем ён...
«Ну, сябры, пара хаценню
Ногі вынуць са страмён...»

Злезлі з коней гуртам дружным
Ты, ды я, ды мы з табой
І сказалі: «Вельмі слушна
Ты гаворыш, Грамабой».

Дзвесце скатаў-перакатаў
Праляглі ва ўсе канцы...
Трое сутак спалі ў хатах
Беспрабудна малайцы.

Склалі ў кут боепрыпасы,
На чацвёрты дзень — адбой.
Папрасіў спрасонку квасу
І прачнуўся Грамабой.

І выходзіць, тварам светлы,
І ўстае на новы груд:
Грамабою ў сельсавеце
Далі яўку ў Сельмашбуд.

Каля дому над Кубанню
Даўніне даецца бой:
Малатарні і камбайны
Выпускае Грамабой.

Зноў у працы ён арцельнай
У краіне дарагой.
Ўсе сказалі: хлопец дзейны,
Для яго й работа — бой!

Грамабой, нібыта бомба,
Задаволены стаяў
І ні коратка, ні доўга
Хлопцам ён не адказаў.

За яго ж са ўсёй Кубані
Адказалі — прагулі
Малатарні і камбайны
І жняяркі ўсёй зямлі.

Той адказ грымеў прыбоем,
Хваляй пеннай і жывой,
Песняю пра Грамабоя
Па краіне дарагой.

*1932*

## ПАМЯЦІ ЗАГІНУЎШЫХ

Шумяць над вамі гай, дуброва, травы,
Дзень працы й міру нанаў устае.
Таварышы, не я пяю вам славу,
Яе ўрачыста ўся зямля пяе.

Вам лёс у бітве той прыпаў суровы —
Зямлю крывёй гарачай арасіць.
Дык дзякуй вам ад сонца залатога,
Якое вораг прагнуў пагасіць.

Калі вас злыя ліўні падкасілі,
Калі маланкі сталі адступаць,
Вас прытуліла да грудзей Расія
І не хацела доўга адпускаць.

На вас упалі слёзы праліўныя,
І цэлы свет прыслухаўся да слоў:
«Сардэчны дзякуй вам за справы тыя,
Што узнялі над цемраддзю святло!

Спасцігла лютых ворагаў расплата,
Галовы склалі між завей свае...
Я вам заўсёды верыла, салдаты,
Сябры мае, таварышы мае!

Вы шлях варожай сіле заступілі,
Вы з перамогай праз агонь прайшлі...
Дык дзякуй вам ад тых, каго любілі,
Каму ратунак у бядзе далі!»

Шумяць над вамі гай, дуброва, травы,
Дзень працы й міру нанаў устае.
Таварышы, не я пяю вам славу,
Яе ўрачыста ўся зямля пяе!

*1949*

# РАСІЯ СТАІЦЬ НА ГРАНІЦЕ

1

Дзе Ладага плешча,
        Дзе Свір і дзе Кола,—
Гарыць маё сэрца,
        Як сонца асколак.
Між гор, перадгор'яў,
        На рускіх раўнінах

Гарыць маё сэрца
        У кустах салаўіных.
Гарыць, нібы сцяг,
        Што лунае пад ветрам
Заўжды безадказна
        І беззапаветна!

Я пільна ўглядаюся
У тое, што маю.
Я сэрцам Расію
Сваю абдымаю.

З яе каласістай
Пшаніцай і жытам,
Яе галасістаю
Песняй спавітых,
З залужжам, з зарэччам,
Яшчэ і з заполлем,
Яшчэ і з залессем,
Яшчэ і з загор'ем,
І сказам, і казкай,
І даўняй былінай,
І мовай, што ў сэрцы нашу,
Салаўінай!

З вялікім народам
Яе знакамітым,
Таксама з жалезам яе
І з гранітам.

Забудзьце, што можна,
Таго ж не згубіце:
Расія стаіць на граніце!
Схавайце у сэрцы
І стойце на тым,
На камені, як на граніце,
Сівым!
Той мур не скранеш,
І няма яму меж,
Скажу, хоць у мары не лезу:
Расія стаіць на жалезе,
Расія стаіць на жалезе!
Граніт і жалеза,

Дзе хочаш капні,
Паўсюдна,
Дакладней —
Усюды яны!
Расія, Расія —
На гор крамяні,
Калі ж не на ім —
На жалезе!
Няма,
Не бывала
Падмурка мацней,
Ці свету вядома пра гэта,
Ці не,
Ды ведаць
І свету належыць:
Расія стаіць на жалезе,
Расія стаіць на граніце.
Жалеза з жалезам,
З гранітам граніт,
Хай памяць людская
Нясе ў глыбіні,
Як сведка найпершы адкрыццяў:
Расія стаіць на граніце!

2

Героі!
Мы помнім імёны не ўсіх,
А мужнасць жыць будзе ў бяздонні часін!
А слава?
Да зорак народ яе ўзнёс!
А слова — не слёзы!
Не трэба нам слёз!
Героі!
Загінулі вы пад Масквой,
На Поўначы скальнай,

Пад лютай пургой.
Героі!
Загінулі вы пад Масквой,
Радзіму Радзім
вы прыкрылі сабой!
І хай не кране вас цень даўняе крыўды:
Мы вас памятаем,
героі Мадрыда,
Героі Уэскі і Барселоны.
Братэрскім магілам —
Зямныя паклоны!
Вас, паўшых без вестак
Ля Волгі, пад Брэстам,
Навекі схавае вас памяць людзей!
Гары ж, зор святло,
Прамяней, палымней!
Гары на паўнеба, зара,
І шугай,
Кастрычніка іскры за моры кідай,
За ўсе акіяны кідай,
І на стромы,
Дарогамі бураў,
Далінамі грому!
Кастрычніка сцягі,
Лунайце, барвейце,
І радасна днюйце,
І век не старэйце!
Героі!
Мы помнім імёны не ўсіх,
А мужнасць жыць будзе ў бяздонні часін.
А слава?
Да зорак народ яе ўзнёс!
А слова — не слёзы.
Не трэба нам слёз!

*1967*

# Яраслаў Смелякоў

## БАЛАДА ВОЛХАЎБУДА

Сюды з мандатамі з Масквы
прыехалі без праязных
у гімнасцёрках франтавых
або ў скуранках вешчуны.

А ў іх куфэрачках ляжаць
рыдлёвак пяць, сякерак пяць.

Без чаду чадна тут без мер,
без дроў тут поту не суняць.
Без тапарышчаў пяць сякер,
рыдлёвак без дзяржальнаў пяць.

Былі ў цане, не як цяпер,
рыдлёвак пяць і пяць сякер.

Каб новы рай нарэшце мець,
ўсё пачыналася з таго,
што людзі ладзілі павець
спярша для струманту свайго,

каб мець магчымасць там хаваць
рыдлёвак пяць, сякерак пяць.

Калі Ільіч у зімны час
пайшоў у свет, акрыты мглой,

святло згасіўшы у вачах,—
адсюль для ўсіх пайшло святло.

Я чую, як яны грымяць—
рыдлёвак пяць, сякерак пяць.

*1963*

# МУЖЫЦКІЯ ПІСЬМЫ

А я не такі ўжо й свавольны
і шмат бы чаго не спасціг
без дзедаўскіх пісьмаў павольных,
без сэнсу сялянскага іх.

Маною, прытым вельмі таннай,
уся б мая чыннасць была,
калі б у сваё вершаванне
я стыль дамарослы не ўклаў.

Я страты й таемнасці стылю
зусім не імкнуся пазбыць —
так, мы яго дома расцілі,
а дзе яго трэба расціць?

Нягучных радкоў маіх поступ
пазбаўлены ўсякай хлусні,
ён повен павагаю простай
да ўсёй — пагалоўна — радні.

Даўно іх пісаў — не прыпомню,—
а толькі ў глушы той хацеў
служыць сваёй тэме галоўнай,
я самы якраз грамацей.

А ўсё ж такі стыль наш стваралі,
пакуль ён вось гэткім не стаў,
усе, што тады дыктавалі,
а я толькі проста пісаў.

*1966*

## ЭТАЖЭРКА

Я поўны дабра й весялосці
прачнуўся, як стала віднець:
напэўна, чароўнае штосьці
учора спаткала мяне.

Нарэшце знайшоў я прычыну,
згадаўшы і месца і час:
дзяўчына з дзвярэй магазіна
ішла з этажэркай якраз.

Аднак жа такое не часта
заўважыць свядомасць магла,
бо ўся этажэрка блішчастай,
як тое люстэрка, была.

І ў ёй нейкім дзівам ці цудам,
на гладзі яе люстраной,
адбілася вуліца з людам,
з вясновай яе гаманой.

На гэта маё захапленне
які-небудзь крытык-эстэт
мне скажа: «Якое здарэнне
знайшоў для нашчадкаў паэт?!»

А як жа! Здарэнне, вядома!
Тут многае можна адчуць,
калі ў інтэрнат, як дадому,
сваю этажэрку нясуць.

І гэта наш клопат найпершы —
такімі паэтамі быць,
каб самыя лепшыя вершы
аб гэтай падзеі стварыць.

Каб нашы някепскія кніжкі,
як здарыцца надрукаваць,
маглі, хоць сабе і не з лішкам,
на той этажэрцы стаяць.

*1967*

## МАЁ ПАКАЛЕННЕ

Нам час задарма не даецца.
Мы цяжка і горда жывём.
І слова у працы куецца,
і славу мы ў працы бяром.

Уладай, што мне аднагодкі
далі для вялікасных спраў,
я поспехаў водар салодкі
і таннае шчасце пракляў.

Я ладзіў акопы і доты,
жалеза і камень часаў,
і сам ад такое работы
жалезна-каменным я стаў.

Мяне — разумееце самі —
чарнільным пяром не забіць,
двума не прыкончыць штыкамі
і бомбаю з ног не зваліць.

Не дужым я стаў, а нязломным —
дарэмна змагацца са мной!
Як Вежы Цярплівасці, домны
стаяць за маёю спіной.

Не рослым я стаў, а вялікім.
Дум рысы на лбе праляглі,
як ранкам нябесныя блікі
на голай пукатай зямлі.

На зраненым бітвамі полі
пачаў я уласнай рукой
дзень свята ўрачыстай будоўлі
вялікай краіны маёй.

*1946*

## СУДДЗЯ

Упаў на ўзоранае поле
хлапчук нахмураны з Масквы;
пілотка з'ехала паволі
з прабітай куляй галавы.

Не бачыў ён вышынь бяззорных,
адчуўшы час апошні свой,
і толькі мякаць глебы чорнай
абмацваў, як сляпак, рукой.

І, ідучы ў краіну тую,
адкуль назад шляхоў няма,
зямліцу цёплую, сырую,
ён, касцянеючы, трымаў.

Адваяванае Расіі
хацеў часцінку захапіць,
і мы не здолелі, жывыя,
тых пальцаў мёртвых расчапіць.

Мы так яго і пахавалі —
ва ўсёй красе і чысціні,—
каб бачыць мог Радзімы далі
з уранку ўзятай вышыні.

І калі быць такой часіне,
што ўсіх людзей са ўсёй зямлі
на страшны суд з грахамі ўсімі
пакліча тройчы трубны кліч,—

засядзе за сталом судзейскім
не бог з туманнай барадой,
а той хлапчук чырвонаармейскі
перад знямелай грамадой.

Трымаючы ў далоні правай,
што бойкі порахам пяклі,
не сімвалы нябеснай славы,
а жменьку рускае зямлі.

Усё хлапчук той бачыць здолеп,
за ўсё прымусіць адплаціць,
адрозніць можа фальш ад болю
і гнеў ад злосці аддзяліць.

Пазнае ўсё ён вокам пільным,
з крывавай плямай на грудзях,
суддзя у гімнасцёрцы пыльнай,
што перажыў і смерць і страх.

І будзе найвышэйшай мерай,
якою мерацъ нас маглі,
ў далоні хлапчуковай шэрай
часцінка той цяжкой зямлі.

*1942*

## ХЛЕБНАЕ ЗЕРНЕ

Выгляд у сялян такі ўрачысты.
Над зямлёй гарыць зары святло.
За станіцай сёння ў полі чыстым
зерне ў глебу цёплую лягло.

Над тым зернем сонца узыходзіць.
Каля гоняў, сцішыўшы свой спрыт,
цягнікі на пальчыках праходзяць,
не будзіць яго каб да пары.

Дзень і ноч ідуць аб ім турботы:
гарады яму машыны шлюць,
піянеры ладзяць свае злёты,
інстытуты кніжкі выдаюць.

Сінь надхмар'я лётчыкі штурмуюць,
караблі марскую рэжуць гладзь.
Сто палкоў яго спакой вартуюць,
сто народаў на яго глядзяць.

Спіць яно ў кубанскай той калысцы.
І, як бацька, песцячы зямлю,
аграном над ім схіліўся нізка
у старэнькай куртцы з шынялю.

*1947*

## ЮРЫЙ ГАГАРЫН

У нерухомай цёмнай зале
ў адным тэатры пад Масквой
цябе я бачыў разам з Валяй,
шчэ жонкаю, а ўжо ўдавой.

І я, нібыта лёсу метку,
схаваў на памяць сам сабе:
крыху дзіцячую ўсмешку
і шрам, ледзь бачны на ілбе.

Прыёмнік я ўключыў на ўдачу,
і ў процьме галасоў чужых
я ўчора слухаў перадачу
гуртка таварышаў тваіх.

Яны, прабіўшыся скрозь далі,
не трацілі жалобных слоў,
а толькі горкасна ўздыхалі,
як быццам дух ім заняло.

І ўздыхі стрыманага жалю
тваіх падцягнутых сяброў,
як стогн эпохі, прагучалі,
як мора стогн, як стогн палёў.

Я бачыў скрозь туман маскоўскі
якраз у дзень трыццаты той,
як несла да сцяны Крамлёўскай
Радзіма прах сыноўскі твой.

Пакінуў ты высакародна
нам і нашчадкам маладым
і дні ўрачыстасцей народных,
і дзень агульнае бяды!

*1968*

# Максім Рыльскі

## ТРЫ САНЕТЫ

### ПОМНІК ЯНКУ КУПАЛУ

Каля шашы, дзе ліпы зацвілі,
Дзе колісь смуткам веяла глыбокім,
Узняўся ён, як строма над патокам,—
Сумленне беларускае зямлі.

Не толькі жаль і даўні боль жылі
У песнях, што ўздымаліся высока,—
Ісці ён клікаў непахісным крокам
Туды, дзе сонца ўсходзіла з імглы.

Ён, хто не знаў спакою і спачыну,
На Вязынку глядзіць праз далячыні,
Дзе дні маленства цяжкага пражыў;

Здаецца, й сёння чуе ўсё наўкола,
Схіляючы перад паэтам голаў,
Прыгожы й горды выклік: я мужык!

*Кіеў, 7.VII. 1958*

### МІНСК

Яны цябе хацелі пакарыць,
Каб здаўся ты без барацьбы, без слова,
Каб згінуў ты ў пажарышчы барвовым
І попел твой развеялі вятры.

Тваіх дзяцей катуючы, звяры
Ваўчынай зграяй вылі стогаловай,

Ды знаў жа ты ад Фрунзе й Мяснікова,
Як берагуць свабоду змагары.

Тваё сыны з сынамі Украіны,
З арламі азіяцкае раўніны,
З дзяцьмі Расіі сталі ў рацъ адну —

І той сканаў, хто рыў другому яму...
Не змог драпежны звер ніяк уцяміць,
Што Свіслач коціцца ў Беразіну.

*Кіеў, 3.VII. 1958*

## БЕЛАРУСЬ

Ляжаць упартыя на полі валуны
На Маладзеччыне, ў азёрным краі;
Мой спадарожнік, безумоўна, знае:
Ледавіком пакінуты яны.

Ды Беларусі ўпартыя сыны
Сказалі: неадольных не бывае —
І камень перад плугам адступае,
Як снег перад атакаю вясны.

Як добра бачыць позіркам уласным,
Што йдзе вясна народу ў промнях ясных,
Што на палях, дзе мужны лёг Кастусь,

Пшаніцай спелай, сінякветным лёнам,
Заводаў несціханым пераэвонам
Жыве і маладзее Беларусь!

*Кіеў, 10.VII. 1958*

## Уладзімір Сасюра

* * *

Зямля братоў маіх, ты — хараство і плённасць,
Ты маці волатаў — вялікіх спраў майстроў.
Я часта бачу ў сне Данца крутыя схоны,
Дзе вербы ў люстра вод глядзяцца з берагоў.

Краса зямлі й нябёс жыве там год ад году...
Там маладосць мая, там мой любімы край.
І чую ў сне гудок я роднага заводу,
Гукае сына ён: — Мяне не забывай!

Не, не забуду, не, аж покуль сэрца б'ецца,
І чую птаха спеў, і бачыць сонца зрок...
Дзе б я ні быў, табе ад сэрца песня льецца!
О маладосць мая, мой завадскі гудок!

*1955*

### ЮНАКУ

Шуміць Дняпро у руху вечным,
халодны б'е ў граніт прыбой.
Прымі жар слоў маіх сардэчных
як запавет, юнача мой!

Бяздомным лісцям той падобны,
што вецер пазрывае з галін,
хто мову маці сваёй роднай
забудзе, як няўдзячны сын.

О, мова родная! Гарачы
запал аддаў ёй пездарма.
Без мовы роднае, юнача,
народа нашага няма...

Зірні! Ідуць сыны Расіі,
як сонца, шчасце несучы.
Надзеі поўная і сілы,
іх мова радасна гучыць.

Яна, як песня на прыволлі,
надзея й сіла іх — Масква.
І мову матчыну ніколі
ніводзін з іх не забываў.

Да шчасця сцежкі агнявыя
нас разам з імі ўдаль вядуць.
Дык будзь жа й ты, як сын Расіі,
і мовы роднай не забудзь!

*1955*

* * *

З юнацтва днямі не парву ніколі,
як з песняю, як з водамі Данца!..
Як люба йсці па мілым родным полі,
п'ючы радзімы вецер без канца!

Зрываць у садзе мальву маладую,
дзе тонуць крокі ў мураве густой,
ад шчасця плакаць, што заўжды магу я
хадзіць свабодна па зямлі маёй.

Удзячны я зямлі, крывёй палітай,
якой аддалі ўсё і мы й бацькі,
за шум садоў, за шолах спелы жыта,
за дым заводаў, далечы блакіт...

На той пясок цяплынь, як хваля, льецца,
барвяны месяц паўстае з травы...
Спявай, спявай пра маладосць, о, сэрца,
ды толькі струн у песні не парві!

*1962*

* * *

Люблю я ўсё, што ў наваколлі ззяе
святлом адлюстраваным і сваім,
што дух і сэрца ў песні акрыляе
і раніцой і ўдзень агнём жывым.

Калі кране крыло зары вячэрняй
даль чырванню, люблю я шум бяроз,
і сэрца штось цвяліць калючым цернем,
туманіць зрок цяпло шчаслівых слёз...

Люблю ў садах я слухаць птахаў клічы,
калі агні вясны пачнуць буяць...
Люблю усмешку на чужым абліччы,
бо радасць іншых для мяне свая.

Я рос пад небам Бацькаўшчыны мілай,
цяпло мне рукі матчыны далі.
І я крычу ў сусвет, што маю сілы:
«Жывіце ў шчасці, людзі, на зямлі!»

*1963*

# Андрэй Малышка

## БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Ты мяне з дзяцінства гадавала,
Хлеб дала ды песні салаўя,
Мне дарог прызначыла нямала,
Зорамі спавітая зямля!

У спякоце млявай стэп, дарогі,
Водбліск медзі ў зелені тайгі,
Днепральстану хвалі — за парогі,
Балтыкі грымучай берагі.

З далячынню ды з высокім жытам,
З сонцам яснатварым папалам,
Роднай, добрай ды крывёй абмытай
Я цябе нікому не аддам!

Ці шумуеш чарнаморскім валам,
Самалётам будзіш цішыню,
Ці грыміш на Ўсходзе за Байкалам —
Я цябе адразу пазнаю.

Зіхаціш ты маладымі днямі,
Цягнікамі уначы пяеш,
Дзе ўладарацъ роднымі палямі
Трактарысты й сейбіты твае.

Як жа мне твой голас не пазнаці?
Сэрца, і жыццё маё, і кроў,
Родная зямелька наша, маці,
Праўда найяснейшая й любоў!

Даглядала нас, малых, рупліва,
Зрок дала — асепленым калісь,
Сілу — сэрцу, крылам — лёт шчаслівы,
Каб высока ў неба ўзнялі.

Мы ўзняліся горда і крылата,
Бачым — свет і час памаладзеў.
Той, каго да ўзлёту падняла ты,
З тых вышынь ніколі не ўпадзе!

Сціх вясновы гоман крыгаходаў,
На шляхах асеў прыбіты пыл,
Дзе былыя бойкі і паходы
Атуліў навек спакой магіл.

Дзе шуміць пшаніца стогалоса,
Дзе страчае золак сінь ракі,
Там ляглі браты мае — матросы,
Кавалі, ратаі, гарнякі.

Сталявары з сіняга Урала,
З Чарнамор'я хлопцы-чабаны...
Там ішлі па славу, вал за валам,
Хрышчаныя полымем сыны

І прымалі смерць бясстрашным вокам,
Чорны цень пякучае бяды,
Каб квітнела шчасна і шырока,
Каб расла ты яварам высокім,
Каб пладамі поўніла сады.

Можа, й я сустрэну ў ратнай справе
Ад чужое кулі смерць сваю
За людзей працоўнай нашай славы,
За Айчыну — маладосць маю.

Толькі жыць нам — не са смерцю знацца,
Збожжа сеяць, красаваць ізноў.
Толькі многа дадзена нам шчасця,
Шчасце ж тое — гэта наша маці,
Бацькаўшчына — праўда і любоў!

*1936*

## ЛЯВОН

Старога Лявона пагналі ў Нямеччыну,
Не ў Палавеччыну,
Не ў Турэччыну.
Па цяплушках, па шпалах,
У лагерах ды вакзалах,
Па Одэрах, Рэйнах ды Шпрэе
Бачылі ў шапцы яго калматай,
З харчамі ў кашулі стракатай,
Як на горкай чужыне гібее.
Аж кроў на плячах яго,
Аж у зрэнках крыўды агонь,
Як старога Лявона пагналі ў Нямеччыну.

Зоры ўсыпалі неба, нібы й не чакалі назад.
І на Збручы ад жалю згінаціся дрэвы прысад:
— Больш цябе не пабачым мы, 3 кр
А згадаем — заплачам мы.
Ты не вернешся ў бацькаўскі сад!

З Палавеччыны дзедавы косці крычаць з даўніны,
І з Турэччыны прадзед на смоленым пні:
— Бачыш, мы не вярнуліся,
Пад жалезам пагнуліся.

Дзесь на Одэры й ты прычакаеш труны.
Нас султан сырамяццю скруціў у журбе,
Палавецкі Канчак падсмаліў на вярбе,
    Цябе ж розныя кохі
    Даканаюць патрохі,
Косці гітлеры розныя струшчаць табе!

І Лявона ў шахту спусцілі на вугаль: — Дзяўбі! —
Цёмна ў шахце, як ноччу. Чужына. Маўчы і рабі.
    І ні крыку, ні слова,
    Стогне Бендзін, Дамброва,
Дым пажараў у небе клубіць.

Калупаў антрацыт ды з ілба выціраў чорны пот.
Ці не сніцца, Лявонка, зара каля нашых варот?
    Ці не бачыш — у полі
    На Ўкраіне таполя
Сустракае праменны усход?

Ці не чуеш, як пеўні крычаць на Русі галасней,
Як дзяцей перапёлка склікае ў вусатым аўсе
    На сваім Падняпроўі?
    Плюнеш кашлем ды кроўю
І рукой маханеш: вось такія мы ўсе!

Мы такія на шахтах, на нівах, у дальніх краях,
Хоць бы словам вітання душа заспявала мая,
    Хоць бы кропляю з грому,
    Хоць бы ластаўкай з дому,
Хоць бы шэптам вясны у гаях...

Еш, Лявонка, той хлеб, што змялі з асцюкамі ў таку.
Сёрбай горкую поліўку, як твая доля, ў кутку.
    Пі вадзіцу-атруту,
    Слухай голас нячуты,
Сто разоў прападай на вяку.

І не чуў ён, як танкі Дамброву ўзялі уначы,
Камандзір экіпажа пакратаў яго па плячы:
— Я з бацькоўскага краю.
— Адыдзі. Паміраю.
То машыны чые й трубачы?

І паклалі яго на халодную танка браню:
— Не памрэш ты, Лявоне, зямля уваскрэсла з агню.
— Дзякуй, дзякуй вам, дзеці!
Можа, й мне давядзецца
Зноў пабачыць унукаў, радню?

Не запальвалі свечак, бо фары праз цемру вялі,
Не званілі ў званы, бо прыветна маторы раўлі
З Катавіц да Дунаю,
То з чужога нямецкага краю
На Ўкраіну Лявона вязуць,
Жывога дадому вязуць!

*1945*

## ЗА СІНІМ МОРАМ

За сінім морам сінягор'е,
З ракі вятроў сцюдзёны ўзлёт,
За сінім морам ходзіць гора
Для панства? — Не, наадварот!

За сінім морам дзесь пад небам
Галеча лье за плугам пот,
За сінім морам — крошка хлеба
Для панства? — Не, наадварот!

За сінім морам, смутку повен,
Ключ жураўоў ляціць на ўсход,

За сінім морам — плач удовін
Для панства? — Не, наадварот!

За сінім морам апаўночы
Кудысь плыве галодны зброд,
І засцілае смутак вочы
У панства? — Не, наадварот!

І ўсё насупар — смех, журбота,
Плач і бяда ў краіне той,
Дзе бедны ходзіць без работы,
Багаты кліча на разбой.

Так, так, не раз сустрэнем гора
За тым шырокім сінім морам,
Не гаварыць жа нам з любоўю
Аб тым, што хвалі пахнуць кроўю.

За справу будзем брацца смела,
Хай слова праўды гром куе,
Каб крыўда чорная знямела,
А люд здабыў правы свае!

Каб ясны дух, як плуг у полі,
Араў цяжкую цаліну,—
За мір, за працу, гоман волі,
Каб горны гралі на прыволлі
Супроць вайны — не за вайну!

За сінім морам долы й горы
І холад цёмнаю парой,
За сінім морам ходзіць гора,
І я выходжу з ім на бой!

*1950*

# ПЕСНЯ ПРА РУЧНІК

Шмат, матуля мая, ты начэй не даспала,
Як мяне па жыцці чыстым полем вяла,
І ружовым світанкам ты ў дарогу мяне выпраўляла,
І ручнік вышываны на шчасце дала.
І ружовым світанкам ты ў дарогу мяне
выпраўляла,
І ручнік вышываны на шчасце, на долю дала.

Хай квітнее на ім твая росная сцежка,
Луг зялёны і гай, дзе салоўка пяе,
І на твары ласкавым твая матчына добрая ўсмешка
І харошыя сумныя вочы твае.
І на твары ласкавым твая матчына добрая
ўсмешка
І харошыя сумныя сінія вочы твае.

Я вазьму той ручнік, расцялю, нібы долю,
На мурожнай траве пад гамонку дуброў.
І ручнік мне згадае ўсё, што блізка, знаёма да болю:
І дзяцінства, й разлуку, і веру, й любоў.
І ручнік мне згадае ўсё, што блізка, знаёма да
болю:
І дзяцінства, й разлуку, і веру тваю, і любоў.

*1958*

# Абай Кунанбаеў

* * *

Гадоў пражытых мне шкада да болю,—
Чаго дасяг? Прыдбаў якую долю?
Дарма сябе ўяўляў я мудрацом,
Чакаў пахвал, не меў турбот ніколі.

Я цёмным людзям быў настаўнік добры,
Пакуль не стаў і сам да іх падобны.
Цяпер мне звыкла ўсё: няўдалы жарт,
Гультайства свет, мана жаданняў дробных.

«Урус!» — крычым мы людзям дабратлівым,
Відаць, мілей нам крывадушнік хцівы,
Што так імкнёмся сеяць недавер
І топчам дружбы шчырасць палахліва.

Заўжды бяду прыносіць недавярак,
А друг за нас гатоў падставіць карак.
Таму, схаваўшы ў сэрцы крыўды лёд,
Мы за памылку плоцім яму карай.

Кахання, дружбы цвет падобен ружам,
Бо еднасць сэрцаў не разняць і дужым.
А мы каханнем, дружбаю завём
Хлусню, што ў душах носім цяжкім друзам.

Вось і ў мяне ні друга, ні каханай.
На схіле год пяю расчараваны.
Бязмежным свет здаваўся мне раней,
Бо праўдзе чыстай быў душой аддany.

Як дар бясцэнны дружба нам даецца,
Раўней ад слоў сяброўскіх сэрца б'ецца.
Я песціў дружбу, ды пачвара злы
Стаптаў яе, нібы шыпшыну ў цвеце.

Цяпер шукаць яе узяў за мэту,
Крывёю сэрца клічу: дружба, дзе ты?
Страчаў я шмат людзей і здраду іх,
А друга шчырага я не знайшоў дагэтуль.

*1889*

# Сырбай Маўленаў

## ДАЧКА ПАРТЫЗАНА

*Музе Заслонавай*

Заўсёды
Аблічча яе пакідае
Усмешка вясёлая
І маладая,
Калі хто згадае
Пра даўнія дні
Суровай і цяжкай
Айчыннай вайны.

Быў бацька яе
Для фашыстаў пагрозай,
У тыле варожым
Знішчаў паравозы.
За ім партызаны
Адважна ішлі
Фашысцкую нечысць
Знішчаць на зямлі.

Легенда ў народзе
Хадзіла такая:
Ні куля, ні бомба
Яго не кранае.
І страх апаноўваў
Фашысцкіх ваяк,
Як толькі пачуюць
Героя імя.
Гарэў у лясах ён,
Тануў ён у рэках,

Глядзеў смерці ў твар,
Не міргнуўшы павекам.
Цяпер, як жывы,
Каля Оршы стаіць,
І ў сэрцах народа
Ён век будзе жыць.

Прымі ж прывітанне,
Дачка партызана,
Ад стэпаў квяцістых
Майго Казахстана.
Высокае сонца
Хай свеціць табе,
Хай згладзіць
Маршчынку-ўспамін на ілбе!

*1965*

# НАПАЛЕОН У БЕРАЗІНЕ

Знясілены стаіць Напалеон,
Не грэе больш яго былая слава.
Як зацкаваны звер, дабраўся ён
Сюды, згубіўшы пыху, выгляд бравы.

Зямля палае пад нагамі. Дым
Есць вочы заваёўніку былому.
Здох белы конь, што гарцаваў пад ім,
Палкі разбіты. Доўгі шлях дадому.

І грозны воклік болей не гучыць,
Перад якім быў свет пакорай скован.
Нібы шакал паранены, ўначы
Ён, войскі кінуўшы, шукае схову.

Дум усеўладных знішчан даўні сон,
За кроў і слёзы не знайсці патолі.
На дол штыхом расійскім зрынут ён,
Каб не падняўся ўвысь ніколі болей.

Хвалёная ўцякае з ганьбай рацъ,
На кожным кроку смерць яе цікуе,
І грознай помстаю лясы шумяць,
Пільнуюць вілы тых, хто ўцёк ад кулі.

Што ж? Ад вялікага да смешнага прайшоў
Апошні крок ганебны і бясслаўны
Той, хто ў сялянскі просты кажушок
Цяпер ад сцюж хавае твар дзяржаўны.

*1965*

# Саламея Нерыс

## БЕТХОВЕН

Чаму ты йдзеш насустрач бурам,
Што трэплюць пасмы валасоў?
Вось пастаяў, зірнуў панура,
Махнуў рукой і крочыш зноў.

Было — той карлік, іншы — волат,
Дык што з таго? Табе відзён
Быў светлай будучыні золак,
Няўхільны крок наступных дзён.

Калі і хто, самотны геній,
Зраўняцца ў сіле мог з табой?
Галовы хіляць пакаленні,
Адчуўшы голас гучны твой.

Хто мог спыніць цябе ў дарозе
Ці поруч быць, калі ты йшоў?
Мне суджана праз кроў і слёзы
Прайсці ў радах барацьбітоў.

Не, я не цень, што ў шэрым змроку
Ідзе з табой на сконе дня,—
Ступае ў след гарачых крокаў
Мая крывавая ступня.

Што значаць слёзы, кроў бясконца,
Руіны, попел і агонь? —
Народ узняўся разам з сонцам,
І я іду вітаць яго.

Іду, каб волі сцяг чырвоны
Сваёй рукой высока ўзняць,
Абняць людзей натоўп мільённы
І горача расцалаваць.

*1942*

# Вітаўтас Мантвіла

## МАЯ АЙЧЫНА

Айчына тут мая — лясы, палі і долы,
Дубісы ціхай плынь і Нямунаса воды.
Усё тут міла мне: і гарады, і сёлы,
І працавіты склад літоўскага народа.

Айчына тут мая. Люблю яе бясконца,
Мне шчасце без яе гарчэй смяротнай згубы.
Мне з ёю змрок начэй і жар спякотны сонца
Не страшны. Боль яе мне апякае губы.

Айчына тут мая. Як вязень у няволі,
Самотным быў бы я без ласкі яе мілай,
Як адарваны ліст ад маладой таполі,
Як птах, што не ўляціць увышыню без крылаў.

Айчына тут мая. Адны ў нас кроў і сэрца,
Ніхто не разарве адзінай нашай долі:
Ні хцівы дармаед, ні кат з пагрозай смерці,
Ні скрогат ланцугоў крывавае няволі.

*1938*

## Юлюс Яноніс

# ТРЫ САНЕТЫ

### I

На шчасце свой першы санет я сплятаю,
Як з белых рамонак дзяўчаты вянкі.
Сардэчныя словы, бы кветкі, збіраю,
Няхай імі шчодра квітнеюць радкі.

Аздоблю пакуты надзеяй празрыстай,—
Так ружу, бывае, мы ў бэз упляцём,—
Злучу іх любоўю гарачай і чыстай,
Хай будзе суладдзе надзеі з жыццём.

Я скончыў, здавалася, працу паэта,
Ды толькі сцяблінкі зламаліся ў кветак.

Дарэмна іх рупна збіралі дзяўчаты,
Не змог я санета стварыць, як відаць,
Пялёсткамі сыплюцца мары з-пад шатаў,
Спачатку мне працу пара пачынаць.

### II

Спачатку мне працу пара пачынаць,
Спачатку адшукваць сардэчнае слова,
Ды толькі пярэстай надзеі нанова
Не буду ў вянок, як раней, уплятаць.

Я вытку, бы кужаль на кроснах, санет
З гароты цяжкое, з бядоты бяскрылай.
Багата нас горам жыццё надзяліла,
Пра тое й зязюля гаруе чуць свет.

Хай гора народнае ляжа ў аснову,
А ўток яе звяжа боль ніткай суровай.

Санет, як радно, пасцялю я ў лагу,
І сонца бяліць яго будзе, і цені
Яго не крануць, і тады я змагу
Рассеяць тугу і развеяць сумненні.

## III

Рассее тугу і развее сумненні
Надзея мая — летуцені прамень,
Як сонца, начныя, панурыя цені,
Як вецер усходні, захмараны дзень.

Як дождж пасля засушы, травы сухія,
Як весткай каханы дзяўчыну здалёк,
Адновіць любоў мая сілы былыя,
І зробіцца лёгкім натруджаны крок.

Растане на сэрцы цяжкая трывога,
Як з коміна тонкі дымок над страхой,
І ўдалеч на змену нядолі ліхой
Праляжа шырокая волі дарога.

Злаўлю я тады летуцень залатую
І першы санет свой на шчасце спляту я.

*1913*

# Лівіу Дэляну

## ТРЫ САНЕТЫ

### I. КІШЫНЕЎ

Тваё адзенне — кветкі і блакіт,
Мой горад — песень гучных хваляванне...
Хай льюцца іх цудоўныя радкі
З вышынь да неба ўзнятых рыштаванняў.

Сплылі, як хмары, над табой вякі,
Каб пунсавела сцягаў калыханне.
Адроджаны па волі рук людскіх,
Расправіў плечы ты пад сонца ззяннем.

А там, дзе ўзняўся глыбаю граніт,
Глядзіць вялікі Ленін з вышыні,
Як харашэе маладосці горад.

З любоўю неўміручай у вачах
Глядзіць ён, як расце за гмахам гмах,
Магутна, стромка, велічна і горда.

### 2. ТЫ ПРАЛЯЦЕЛА

Нібы ластавак жвавых чароды,
Праляцела мая маладосць.
Білі ў крылы яе непагоды,
Снегавеі, маланкі і дождж.

Песні ж голас не згінуў. Паводкай
Льюцца словы, пакуль сіла ёсць.
Не вянкі трэба мне ў шлях кароткі,
Калі прыйдзе няклікань госць,

А каб гром тых радкоў пасля смерці
Распаляў чалавечыя сэрцы,
Каб кранала іх песня мая.

Хоць жыццё і падраніць мне крылы,
Буду повен да самай магілы
Тым паветрам, што дыхаю я!

### 3. НОВАЯ ЗОРКА

З добрым раннем, Сонца! Добры вечар, Месяц!
Добрай ночы, зоркі — сёстры светлых рос.
Праз бясконцасць даляў, што над намі свеціць,
Герб і сцяг Радзімы я да вас прынёс.

Розум чалавека знойдзе ваша месца
І святло пральле на ваш нязнаны лёс,
Шчасце новай эры голасна абвесціць,
Разгадаўшы тайну вечную нябёс.

Створаныя ўмела мужнымі рукамі,
Вешчунамі міру, яснымі шляхамі
Пралятаюць зорным небам караблі.

Камунізм — не прывід, што блукаў калісьці
Па старой Еўропе. Камунізм так блізка,
Новай зоркай свеціць ён усёй Зямлі!

*1960*

# Еміліян Букаў

## ДЗЕ ТЫ, НЕЗВЫЧАЙНАЕ?..

Я цэлы дзень пакутую дарма,
Я слова незвычайнае шукаю.
Шукаю яго ў ветры — там няма,
Пагардліва ён міма пралятае.
І мне ніяк не зразумець, відаць,
Што шэпт яго мне хоча перадаць.

Шукаю яго ў травах лугавых,
Шукаю яго ў дрэў густой лістоце.
Дарэмна ты вярэдзіш зрок і слых,
Пакутлівая думка, ўсёй істоце!
Як парадзіха, нарадзіла ты
Мне словы ўсе цудоўнай пекнаты.

Я ж незвычайнае шукаю ўсё адно,
У акіян душы йдучы на дно,
Каб на паверхні потым зноў з'явіцца,
Па лесвіцы прамення, як па нітцы,
Насустрач сонцу смела ідучы,
Пакут крупінкі горда несучы.

І, закаханы ў ранні колер руж,
Гляджу на крону дуба ў захапленні,
І бачу ран сляды і шрамы сцюж
Я на жывой кары, яго адзенні...
А ружа нізкая і пышна-маладая
На крону волата з пагардай паглядае...
Шкада мне тых, хто, жывучы святлом,
Праменне ганіць злосным языком!

*1967*

*З латышскай*

# Ян Судрабкалн

## ПАД СОНЦАМ АЙЧЫНЫ

Скажы мне, ці планы вялікія Партыі роднай
Цябе захапілі?
Ці ты застанешся халодным?
Зірні:
у наступнае дзверы расчынены насцеж,
Бязвусы юнак за парог іх ступае
нясмелай хадою.
Насустрач яму —
свет надзей, чалавечага шчасця,
Дзівосныя гмахі жыцця
устаюць прад вачыма.
Сябры яго клічуць:
мы разам, таварыш, з табою
У далечы пойдзем пад небам святлістым Айчыны!
Вось лічбы і мары.
Ты будзеш змагацца штодзень,
Каб сталі яны
нашай явай і нашым жыццём,
Каб дружнай сям'ёй збудавалі мы светлы наш дом.
Вось гэта і будзе
пачаткам здзяйснення надзей,
Падзякай Айчыне,
сагрэтай тваім пачуццём.
Мужчына ў гадах юнаку на падмогу ідзе,
Асветлены полымем вечна жывога гарэння:
Дык вось ты асілак які, мой старанны юнача,
З намерамі яснымі,
з кроўю у жылах гарачай —
Адметнаю рысай твайго пакалення!

Я свет абышоў,
быў у горы, бываў і ў бядзе,
Але не зламалі нягоды жыцця
маёй волі,—
Я з ганьбаю чорнай не знаўся ніколі.
Мой брат перамычку ў парогах Падуна кладзе,
А сын і дачка будзяць стэпы ад вечнага сна.

Там слава жыве,
дзе работніка праца відна:
Будзь гэта
заводаў нязмоўклы нястрыманы рытм,
Будзь гэта калосся, налітага сокам, гайданне.
Працуе краіна да самае цёмнай пары
Ад золаку яснага рання.

Дзед выйшаў у сад
з валасамі сівымі, як іней:
«Я чую — гудзе ўся краіна напружанай працай,
Гарачае сонца над ёю ільецца з вышыняў.
Там клічуць мяне.
Рана плечы згінаць пад цяжарам
Пражытых гадоў.
Я яшчэ не пакіну змагацца
З табой, мая старасць!
Ага! Мой рабочы халат зіхаціць чысцінёю!
Дык дзякую, жонка!
І ты сабралася таксама ў дарогу са мною,
І ты не завяла яшчэ, мая кветка-рамонка?!
Мы будзем цяпер уставаць на заранку з табою,
Вадзіцы крыштальнай са студні мы возьмем з сабою,
Вароты зачынім і пойдзем туды, дзе работа
Кіпіць дзень у дзень. Папрацуем яшчэ мы ў ахвоту.
У песнях нашчадкі раскажуць пра нашыя справы,
І гэтыя песні вянком сівізну нашу ўславяць».

Ніхто да тых спраў безудзельным не можа застацца,
Нязграбны няхай не заслужыць сяброўскіх папрокаў.
Той цуд, што вякамі чакалі, ствараем мы працай,
Ён з рук нашых вырас і ўзняўся пад неба высока.

*1960*

# Арвід Грыгуліс

## ДВА САНЕТЫ ПРА МОРА І ЛЮБОЎ

### I

Палаюць сосны ў сонечнай спякоце,
Вада між пальцаў льецца серабром.
Хто пакахаў цябе, таму знаём
Нясмелы голас шчасця ў адзіноце.

Бясконца мора хвалі ў бераг коціць,
Іх рэжа карабля стальны шалом.
Не вер спакою — сілай бур суздром
Працята мора, хоць яно ў дрымоце!

Руку ўзняла — і поўнаю далоняй
Ты зачарпнула сіні і святла.
Няма жыцця такога ў нас сягоння,
Дзе б з прыгажосцю праца не жыла!
Квітней, зямля мая, красуй улоннем,
Хай бег твой вечны не засцеле мгла!

### II

Па пляжы мы ідзём. След на пясок кладзецца.
Ты кажаш мне: любоў глыбей марскіх глыбінь.
Не веру я, табе, быць можа, так здаецца,
Любоў, як чаек лёт, што рэжуць крыллем сінь.

Час летні праміне, работ гара збярэцца,
А ў сэрцы ўсё гучыць тых слоў тваіх цяплынь.
Так: хараство заўжды жаданняў будзіць
плынь,—
Я чую і цяпер крык чайкі ў моры дзесьці.

Вось і зіма ідзе. Завеі загудуць.
На сцюжны бераг той самотны я пайду,
Ды ў па́левых снягах твой след даўно згубіўся.
Што мора? Пачуццё куды глыбей яго,
Растопіць сіні лёд сардэчны мой агонь,
Што ў памятны той дзень ад слоў тваіх
радзіўся.

*1958*

# Анатол Імерманіс

## ЛЕНІН У РЫЗЕ

Па вуліцах, дзе кожны дом — прыкмета
Людской галечы напалам з бядою,
Спяшаўся ён, і будучыня свету
Ішла з ім поплеч шпаркаю хадою.

Жыў свет стары. І толькі ў летуценні
Свабоды людзі прагна так чакалі,
Але йдучы вясной па Рызе, Ленін
Ужо глядзеў у сонечныя далі.

Ён сустракаў на хмурнай Цесу-йела*
Рабочых з тварамі, што ад фармовак
У зморшчаках глыбокіх бранзавелі,
І чуў гаворку на латышскай мове.

Ён з цеплынёй глядзеў на іх аблічча,
Абветраныя сіверам і працай,
Ён бачыў бой, дзе стануць поплеч, блізка
Латыш і рускі з ворагам змагацца.

Было прадвесне. З дахаў несціхана
Звінелі кроплі з мілагучным гукам.
І думаў ён: надыдзе час паўстання,
Што загрукоча вось на гэтым бруку!

* Йела — вуліца (латыш.).

Ён бачыў час жаданае яснoты,
Дзе людзі працы скажуць рабству: годзе!
Ляцеў над Рыгай год дзевяцісоты —
Пралог камуністычнага стагоддзя.

*1958*

# Аванэс Туманян

## УЖО НЕ ВЯРНУЦЬ

Датлеў запал той і астыў,
Якім пагрэбавала ты.
Ён, уздыхнуўшы, знік імкліва,
І стала пуста і маўкліва.

Дык не будзі дарма ўспамін
Пра смутак горкасны хвілін,
Дзе нас застала развітанне,—
Ім не ўзнавіць агонь жадання.

*21 красавіка 1890 г.*

* * *

Ручаінка збягае з гары,
Аб каменне шурпатае б'ецца,
І цурчыць, і бурліць, і смяецца,
І звініць, і праменнем іскрыць.

Спалучэнню тых радасных гукаў
Лес нягучнае водгулле шле,—
Так дзядок невыразна пяе,
Спевы чуючы звонкія ўнукаў.

Ды маўчыць пасівелы уцёс,
Нахіліўшыся гмахам панурым.
Яму сніцца загадкавасць буры,
Повен ён летуценных дзівос.

*1890*

* * *

*Валерыю Брусаву*

Ты прыйшоў да нас з краю сцюж, снягоў,
Праўды, хараства і любві вястун.
Сэрцы разбудзіў прагай ты ізноў
Да шчаслівых дзён, што нясуць вясну.

Дык няхай ляціць з краю ў край твой кліч,
Сэрцы й розум хай абуджае ён,
Каб зліліі ў адно людзі ўсёй зямлі
Мараў-дум святло ў змроку гэтых дзён.

Хай з'яднае іх шчырая любоў,
Звяжа іх саюз пачуццём адным,
Хай адна цячэ ў жылах іхніх кроў,
Сэрцы іх гараць полымем святым.

Спрэчка хай адна будзе у людзей,
Хай жыве адзін клопат у грудзях:
Шчырасць і любоў у каго чысцей,
Да дабра прасцей хто знаходзіць шлях.

Мары хай твае ажывуць, паэт,
Калі верыш праўдзе, не хлусні пустой,
Што любві і згоды прагне вечна свет
І што можам жыць мы ўсе адной сям'ёй.

*1916*

# Расул Гамзатаў

* * *

Як з кнігі той чароўнай не дзівіцца,
Што кнігаю жыцця празваў наш люд?!
Каб мог пшанічны колас адрадзіцца,
Кладзецца зерне мёртвае ў зямлю.

Калі вясновы дождж ліне над светам,—
Дыван лугоў травою загудзе;
Калі мільгне сляза ў вачах паэта,—
Радкі сапраўдных слоў душа складзе.

*1965*

* * *

Кіпіць кацёл, ды страва не гатова,
Хваліць яе ці ганіць не пара,
Паколькі смак хінкалу або плову
Не разбярэш па водары кастра.

Пандур зайграе ціха або гучна,
Ты не спяшайся з выракам і тут.
Пакуль не чуў ты песні слоў сугучных,
Што можа даць дачасны твой прысуд?

*1965*

* * *

Жыў звычай між гор дагестанскіх трывалы,
Каб дружбе джыгіцкай даць сілу і гарт,
Падносіць клінкі дарагія, кінжалы,
І коні, і буркі найлепшыя ў дар.

Як доказ, як сведчанне дружбы жывое,
Шлю ў дар вам, сябры, песні шчырыя я,
Яны — і мая даражэйшая зброя,
І конь мой, і лепшая бурка мая.

*1965*

* * *

І люблю малінавы я золак,
І люблю мядовы водар мят,
І люблю набожны адвячорак,
І люблю барвовы лістапад.

І люблю не дома, а на волі
Ў чыстым полі між духмяных траў
Дзень драмаць, забыўшы мімаволі,
Што радзіла маладзік зара.

Без зурны магу і без чунгура
Упівацца музыкай адзін,
Бо інакш чаго б я йшоў пахмуры
Слухаць гоман звонкіх ручаін?

Абышоўся б нават я без хаты,
Ад жыцця нічога б я не ўзяў,
Толькі б горы, скалы, перакаты
Сваім сэрцам побач адчуваў.

Абыду ці раз зямныя скарбы,
Азірну ці раз іх з вышыні.
Колькі тут не пацмянелых фарбаў,
Колькі першароднай чысціні!

Паміж скалаў, як жывая стронга,
П'е крынічка светлая зару,
Я збягу уніз з вяршыні стромкай,
Срэбра плыні ў жмені набяру.

І люблю я гул на дне цяснінаў,
Тураў рогі, ўзнятыя ўгару,
Паміж скал травінак зеляніну
І снягоў адвечных дымны рух.

І яшчэ люблю бясконца дрэвы,
Іх давер заўжды жыве са мной,
Уваходжу ў лес, як сябру ў дзверы,
Добра мне ў дзяржаве той лясной.

Бачу кветкі я ў траве мурожнай,
Іх чуць свет прыгубілі чмялі,
Аддаю ўсё сэрца жменьцы кожнай
Дарагой з маленства мне зямлі.

Як паломнік, галаву схіляю
Я над плынню шпаркаю рачной,
І хоць рукі ў неба я ўздымаю,
А малюся ўсё ж зямлі адной.

*1967*

# Давыд Кугульцінаў

* * *

О шчодры час!..
За мой кароткі век
Ты быў заўжды на цуды вельмі здатны:
Змяняў напрамак шпаркаплынных рэк,
Да зор скіроўваў свой імклівы бег,
Бясстрашна расшчапляў упарты атам...
Але цудоўней цудаў — чалавек!

О час!
Ты дай яму яшчэ нямнога!
Людзей, дзяржавы іх ты навучы
Усмешкамі адорваць пры сустрэчы
І саступаць паблажліва дарогу,
А не збіваць, як цягнікі ўначы,
Адзін другога у крывавай сечы!

*1964*

## АЛМАЗЫ АФРЫКІ

Я ведаю з розных расказаў,
Што, ўсякай хлусні насупор,
Больш Афрыка мае алмазаў,
Чым неба над Афрыкай — зор.

Прырода старанна схавала
Алмазы ў шуфлядах зямных,

Аддадзена ў пустках нямала
Галоў чалавечых за іх.

Святлей, чым святлісты світанак,
Той скарб, што к багаццю вядзе,
Ярчэй, чым пагляд афрыканак,
Чым мускулы неграў, цвярдзей.

Іх лічаць вагой на караты.
Ды неграў сагнула бяда,—
Таму у каменні багатым
Ёсць чорнага смутку жуда.

Пад вартай кудысь на чужыну
Ці раз яны ўдалеч плылі?!
Ім чуюцца стогны айчыны —
Абкрадзенай роднай зямлі.

Іх доля: быць скарбам для снобаў,
Ці ў сейфах знайсці свой спачын,
Ці стаць звышраскошнай аздобай
Для самых багатых жанчын!

Алмазы — вастрэй вострых коп'яў,
А помста народа — ўдвайне.
У Афрыкі буйныя кроплі
Сцякаюць па чорнай спіне.

*1959*

* * *

Не папракайце мёртвымі жывых!
Смерць — не заслуга,
ўсе ва ўладзе смерці.
І, хвалячы нябожчыкаў, праверце —

Быць можа, ў тым і ўся заслуга іх,
Што, не зрабіўшы добрага нічога,
Сышлі з абшару нашага зямнога.

Нам часу дадзена не так і шмат,
Але яго мы творым, лепім самі
І розумам, і ўласнымі рукамі,
Хто духам і ўпартасцю багат,
Хто сам у іншых жар натхнення будзіць...
...Жыццё жывых людзей шануйце,
людзі!

*1966*

* * *

*Кайсыну Куліеву*

Я сёння джунглі бачыў ува сне.
Вакол мяне вішчалі малпы хорам...
Яны спагадна хвост давалі мне,
Каб лез я спрытна і віхляста ўгору...
Але правы я тыя адхіліў,
Каб чалавекам звацца на зямлі.

Драпежных львоў я ўбачыў ува сне,
Развесяліла іх маё аблічча!..
І іклы даць яны схацелі мне,—
Каб біць слабых і прагна рваць здабычу...
Але правы я тыя адхіліў,
Каб чалавекам звацца на зямлі.

*1967*

## ЧЫНГІС

Адчуўшы ў зверствах лютых заняпад,
Рашыў Чынгіс палёгку даць падданым:
Ён усміхацца ўсім аддаў загад
Цалюткі дзень ад ранку да змяркання.
Таму ж, чыя сляза ўпадзе з вачэй,
Кат галаву адразу адсячэ.

І заўсміхаўся ўвесь Чынгісаў край,
І дэспат хлусіў на ўвесь свет шырокі,
Што ў ханстве ён стварыў сапраўдны рай...
А людзі ў смутку, прычакаўшы змроку,
Ішлі у стэп, дзе змучаны бядак
Наплакацца сам-насам мог усмак.

*1965*

# ЗМЕСТ

## КРАСАВІК


Нас Партыя вядзе . . . . . . . . . . . 5
Святло Кастрычніка . . . . . . . . . 8
Мелодыя вясны . . . . . . . . . . . 11
Красавік . . . . . . . . . . . . . . 14
Дарагія рысы . . . . . . . . . . . . 16
Стансы аб Леніне . . . . . . . . . . 17
Разьбярка . . . . . . . . . . . , . . . 19
Скрыпач . . . . . . . . . . . . . . . 21
Блакітны аганёк . . . . . . . . . . 22
Парк . . . . . . . . . . . . . . . . . 25
Соль зямлі . . . . . . . . . . . . . 29
*** Гэта ўсё прамінула... . . . . . . . . 35
*** Не шкадую я аб згубленым... . . . . . 36
Шчасце (паэма) . . . . . . . . . . 37
Май . . . . . . . . . . . . . . . . . 44
Сын веку . . . . . . . . . . . . . . 46
Па зямлі праходзіць Ленін . . . . . . 48
Змагайся, Афрыка! . . . . . . . . . 50
Мір — яму імя . . . . . . . . . . . 52
Мы пабудуем будучыні дом . . . . . . 54
Студзень . . . . . . . . . . . . . 56
Альбуць . . . . . . . . . . . . . . 57
Вертэр . . . . . . . . . . . . . . . 60
Пара маладосці . . . . . . . . . . 64
Гімн працы . . . . . . . . . . . . 66
Мінскае мора . . . . . . . . . . . 68
Ленінскі праспект . . . . . . . . . 70
Пачатак . . . . . . . . . . . . . . 71
Восеньскае . . . . . . . . . . . . 73

Мы з табой . . . . . . . . . . . . . . . . 75
Ліда . . . . . . . . . . . . . . . . . . 77
Петрусю Броўку . . . . . . . . . . . . . 80
Праменнасць . . . . . . . . . . . . . . . 83
Навагодняе . . . . . . . . . . . . . . . 85
Беларускія жанчыны . . . . . . . . . . 88
Ясная раніца . . . . . . . . . . . . . . 90
Сакавік . . . . . . . . . . . . . . . . . 92
Секстант Улугбека . . . . . . . . . . . 95
Час . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 98

## ДЗЕНЬ НАСТУПНЫ

Дзень наступны . . . . . . . . . . . 103
Сонечнасць . . . . . . . . . . . . . . 106
Вясна маладосці . . . . . . . . . . . 108
Беларусы . . . . . . . . . . . . . . . 110
Часу поступ (паэма) . . . . . . . . . 112
Волаты . . . . . . . . . . . . . . . . 119
Абнаўлення вечны сказ . . . . . . . . 121
Мой горад . . . . . . . . . . . . . . . 124
Вячэрні Мінск . . . . . . . . . . . 124
Губернатарскі сад . . . . . . . . . 126
Мой дом . . . . . . . . . . . . . . . 128
Памяць . . . . . . . . . . . . . . . . 130
Першы снег . . . . . . . . . . . . . . 132
Перадзімовае . . . . . . . . . . . . 132
Сняжынкі . . . . . . . . . . . . . . 133
Першазімак . . . . . . . . . . . . . 135
Жывы сярод жывых . . . . . . . . . . 137
Навагодні тост . . . . . . . . . . . . 141
Камуністы . . . . . . . . . . . . . . . 143
Свая пара . . . . . . . . . . . . . . . 147
Прадчуванне . . . . . . . . . . . . . 149
*** Без крылаў песні не ўзляцець высока... 151
*** З дробнага вялікае... . . . . . . . . 153

*** Праз лабірынты кручапыя часу... . . . . 154
Я гэты дзень пяю... . . . . . . . . . . . 156
Прыгажосць . . . . . . . . . . . . . . 159
Ода земляробу . . . . . . . . . . . . . 162

## СТО САНЕТАЎ

Паэзія . . . . . . . . . . . . . . . . 165
Іронія . . . . . . . . . . . . . . . . 167
Мудрасць . . . . . . . . . . . . . . . 168
Вернасць . . . . . . . . . . . . . . . 169
Дружба . . . . . . . . . . . . . . . . 170
Мужнасць . . . . . . . . . . . . . . . 171
Любоў . . . . . . . . . . . . . . . . 172
Хараство . . . . . . . . . . . . . . . 173
Слава . . . . . . . . . . . . . . . . 174
Жаданне . . . . . . . . . . . . . . . 175
Плошча . . . . . . . . . . . . . . . . 176
Рух . . . . . . . . . . . . . . . . . 177
Слова . . . . . . . . . . . . . . . . 178
Праметэй . . . . . . . . . . . . . . . 179
Запаветнае . . . . . . . . . . . . . . 180
Аганёк . . . . . . . . . . . . . . . . 181
Цішыня . . . . . . . . . . . . . . . . 182
Сустрэча . . . . . . . . . . . . . . . 183
Запал . . . . . . . . . . . . . . . . 184
Паверка . . . . . . . . . . . . . . . 185
Ветэран . . . . . . . . . . . . . . . 186
Фантан . . . . . . . . . . . . . . . . 187
Вільнюс . . . . . . . . . . . . . . . 188
Дагнія . . . . . . . . . . . . . . . . 189
Памяць . . . . . . . . . . . . . . . . 190
Мэта . . . . . . . . . . . . . . . . . 191
Шчырасць . . . . . . . . . . . . . . . 192
П'еро́ . . . . . . . . . . . . . . . . 193
Спадзяванне . . . . . . . . . . . . . 194

Дзень . . . . . . . . . . . . . . . . . . 195
Ташкент . . . . . . . . . . . . . . . . 196
Прывід . . . . . . . . . . . . . . . . . 197
Мелодыя . . . . . . . . . . . . . . . 198
Ліпень . . . . . . . . . . . . . . . . . 199
Спакой . . . . . . . . . . . . . . . . . 200
Суладнасць . . . . . . . . . . . . . . 201
Перадбур'е . . . . . . . . . . . . . . 202
Плагіят . . . . . . . . . . . . . . . . 203
Зялёнае . . . . . . . . . . . . . . . . 204
Індэкс . . . . . . . . . . . . . . . . . 205
Праўдзе веку (вянок санетаў) . . . . . . 206
Святлісты дзень красавіка . . . . . . . . 215
Сумленне веку . . . . . . . . . . . . . 219
Дзіва . . . . . . . . . . . . . . . . . . 222
Радзіма . . . . . . . . . . . . . . . . 225
Расія . . . . . . . . . . . . . . . . . . 227
Вясны мелодыі жывыя . . . . . . . 229
    Здзіўленне . . . . . . . . . . . . . 229
    Вечары . . . . . . . . . . . . . . . 229
    Сакавік . . . . . . . . . . . . . . . 230
    Чаканне . . . . . . . . . . . . . . . 230
    Табе . . . . . . . . . . . . . . . . . 231
Кругазварот . . . . . . . . . . . . . . 232
    Час . . . . . . . . . . . . . . . . . 232
    Фэст . . . . . . . . . . . . . . . . 232
    Наканаванасць . . . . . . . . . . . 233
    Мана . . . . . . . . . . . . . . . . 233
    Веліч . . . . . . . . . . . . . . . . 234
    Дыяген . . . . . . . . . . . . . . . 235
    Падрахунак . . . . . . . . . . . . . 235
    Кругазварот . . . . . . . . . . . . . 236
Сатырычныя санеты . . . . . . . . . . 237
    Певень і індык . . . . . . . . . . . 237
    Сабака ў люстры . . . . . . . . . . 237
    Асёл і конь . . . . . . . . . . . . . 238

Гусак і арол . . . . . . . . . . . . 238
Гарбуз . . . . . . . . . . . . . 239
Свіння . . . . . . . . . . . . . 239
Дрозд . . . . . . . . . . . . . 240
Ліс . . . . . . . . . . . . . . 241
Маркач-эскулап . . . . . . . . 241
Жырафа і вожык . . . . . . . . 242

ПЕРАКЛАДЫ

**З рускай**
*М. Някрасаў.* Тройка . . . . . . . . . . 243
*** Заўжды шчаслівы той паэт... . . . . 245
*** Замоўкні, Муза помсты і журботы!.. 247
На радзіме . . . . . . . . . . . 247
*** Сяброўка дзён цяжкіх, імглістых... 248
*М. Святлоў.* Гранада . . . . . . . . . 250
*А. Пракоф'еў.* Тры песні пра Грамабоя . . 254
Памяці загінуўшых . . . . . . . 258
Расія стаіць на граніце . . . . . . . 259
*Я. Смякоў.* Балада Волхаўбуда . . . . . 263
Мужыцкія пісьмы . . . . . . . . 264
Этажэрка . . . . . . . . . . . 265
Маё пакаленне . . . . . . . . . 266
Суддзя . . . . . . . . . . . . 267
Хлебнае зерне . . . . . . . . . 269
Юрый Гагарын . . . . . . . . . 270
**З украінскай**
*М. Рыльскі.* ТРЫ САНЕТЫ. Помнік Янку Купалу . . . . . . . . . . . . . 272
Мінск . . . . . . . . . . . . . 272
Беларусь . . . . . . . . . . . . 273
*У. Сасюра.* *** Зямля братоў маіх... . . . 274
Юнаку . . . . . . . . . . . . . 274
*** З юнацтва днямі не парву... . . . 275
*** Люблю я ўсё... . . . . . . . . . 276
*А. Малышка.* Бацькаўшчыне . . . . . . 277

Лявон . . . . . . . . . . . . . . 279
За сінім морам . . . . . . . . . 281
Песня пра ручнік . . . . . . . . . 283

**З казахскай**

*А. Кунанбаеў.* *** Гадоў пражытых мне шкада... . . . . . . . . . . . . . . 284
*С. Майленаў.* Дачка партызана . . . . . 286
Напалеон у Беразіне . . . . . . . 287

**З літоўскай**

*С. Нерыс.* Бетховен . . . . . . . . . . 289
*В. Мантвіла.* Мая Айчына . . . . . . . 291
*Ю. Яноніс.* Тры санеты . . . . . . . . 292

**З малдаўскай**

*Л. Дэляну.* Тры санеты . . . . . . . . 294
*Е. Букаў.* Дзе ты, незвычайнае?.. . . . . 296

**З латышскай**

*Я. Судрабкалн.* Пад сонцам Айчыны . . . 297
*А. Грыгуліс.* Два санеты пра мора і любоў 300
*А. Імерманіс.* Ленін у Рызе . . . . . . . 302

**З армянскай**

*А. Туманян.* Ужо не вярнуць . . . . . . 304
*** Ручаінка збягае з гары... . . . . 304
*** Ты прыйшоў... . . . . . . . . . 305

**З аварскай**

*Р. Гамзатаў.* *** Як з кнігі той чароўнай не дзівіцца... . . . . . . . . . . . : 306
*** Кіпіць кацёл, ды страва не гатова... 306
*** Жыў звычай між гор... . . . . . . 307
*** І люблю малінавы я золак... . . 307

**З калмыцкай**

*Д. Кугульцінаў.* *** О шчодры час!.. . . . 309
Алмазы Афрыкі . . . . . . . . . 309
*** Не папракайце мёртвымі жывых!.. 310
*** Я сёння джунглі бачыў... . . . . . 311
Чынгіс . . . . . . . . . . . . 312

